ІНСТЫТУТ БЕЛАРУСКАЕ КУЛЬТУРЫ

ГІСТАРЫЧНА-АРХЭОЛЁГІЧНАЯ КАМІСІЯ

INSTITUT DE LA CULTURE BLANCHE-RUTHÉNIENNE

COMMISSION HISTORIQUE ET ARCHÉOLOGIQUE

Аддзел другі. Сэрыя 1. Кніга 1.

# ПРАЦЫ

## Першага Зьезду Дасьледчыкаў Беларускае Археолёгіі і Археографіі

17—18 студзеня 1926 году



# TRAVAUX

## de la première Conférence des investigateurs de l'archéologie et de l'archéographie de la Ruthénie-Blanche

КОШТАМ ІНСТЫТУТУ БЕЛАРУСКАЕ КУЛЬТУРЫ
У МЕНСКУ——1926——à MINSK

ІНСТЫТУТ БЕЛАРУСКАЕ КУЛЬТУРЫ
ГІСТАРЫЧНА-АРХЭОЛЁГІЧНАЯ КАМІСІЯ

Аддзел другі. Сэрыя I. Кніга 1.

# ПРАЦЫ І МАТАР'ЯЛЫ
## ДА ГІСТОРЫІ І АРХЭОЛЁГІІ БЕЛАРУСІ

КОШТАМ ІНСТЫТУТУ БЕЛАРУСКАЕ КУЛЬТУРЫ
У МЕНСКУ—1926

ІНСТЫТУТ БЕЛАРУСКАЕ КУЛЬТУРЫ

ГІСТАРЫЧНА-АРХЭОЛЁГІЧНАЯ КАМІСІЯ

# ПРАЦЫ
# ПЕРШАГА ЗЬЕЗДУ ДАСЬЛЕДЧЫКАЎ БЕЛАРУСКАЕ АРХЭОЛЁГІІ І АРХЭОГРАФІІ

17—18 студзеня 1926 году



КОШТАМ ІНСТЫТУТУ БЕЛАРУСКАЕ КУЛЬТУРЫ

У МЕНСКУ—1926

Надрукавана згодна з пастановай Першага Зьезду Дасьледчыкаў Беларускае Археолёгіі і Археографіі, у ліку 300 паасобнікаў.

Адказны Рэдактар, Правадзейны Член Інстытуту Беларускае Культуры **А. Смоліч.**



## Рэзолюцыі Першага Зьезду Дасьледчыкаў Беларускае Археолёгіі і Археографіі.

*17-18 студзеня 1926 году, у Менску.*

### 1. Аб Літоўскай Мэтрыцы.

Заслухаўшы даклады аб Беларускім архіўным фондзе, аб так званай „Літоўскай Мэтрыцы“, Зьезд Дасьледчыкаў Беларускай Археолёгіі і Археографіі п а с т а н а в і ў:

I. Давесьці да ведама Ураду БССР аб неабходнасьці захаваньня Літоўскай Мэтрыкі ў межах СССР, бо яна зьяўляецца гістарычнай уласнасьцю працоўных Беларусі.

II. Прымаючы пад увагу, што вывучэньне і распрацоўка даных аб мінулым Беларусі бязумоўна немагчыма бяз сталага і непасрэднага карыстаньня Літоўскай Мэтрыкай, як выключнай па сваім зьмесьце і багацьці гістарычных фактаў крыніцай,—Зьезд лічыць неабходным як найхутчэй перавезьці архіўны фонд Мэтрыкі Літоўскай у БССР, на што ёсьць прынцыповая згода належных установ РСФСР.

III. Разам з гэтым Зьезд лічыць: а) бязумоўна неабходным выданьне Літоўскай Мэтрыкі ў друку у мэтах даступнасьці яе для шырокіх колаў грамадзянства і найбольшага навуковага яе скарыстаньня і б) каб гэта выданьне было дэкрэтавана асобнай пастановай законадаўчых органаў БССР, як дзяржаўная справа надзвычайнае культурнае вартасьці.

### 2. Аб беларускіх архіўных фондах за межамі БССР.

Заслухаўшы даклады аб архівах, якія знаходзяцца як у межах Саюзу, так і за яго межамі і зьяўляюцца старымі беларускімі архіўнымі фондамі, Зьезд п а с т а н а в і ў:

I. З вялікім задаваленьнем констатуючы, што Цэнтрархіў РСФСР, жадаючы пабрацку дапамагчы разьвіцьцю гістарычнае навукі Беларусі, ідзе на спатканьне жаданьням Ураду БССР аб звароце архіўных фондаў, што датычацца Беларусі, як напрыклад: дакуманты і кнігі старых беларускіх архіваў, а ў тым ліку і адарваныя часткі Літоўскай Мэтрыкі, якія раскінуты і знаходзяцца цяпер у был. архіве Зямля-

робства і Зямлябудаўніцтва, у Ленінградзкай Публічнай Бібліотэцы, у б. Археографічнай Камісіі, у б. архіве Галоўнага Вайсковага Штабу, у б. архіве Міністэрства Замежных Спраў у Маскве і ў іншых архіўных установах РСФСР, а таксама і тыя архівы, якія былі эвакуаваны ў час апошняе вайны, як напр.—архіў Віцебскі і Віленскі і іншыя архіўныя фонды,— Зьезд выказвае пажаданьне аб выкананьні звароту гэтых архіваў у як найхутчэйшым часе.

II. Даведаўшыся, што ў архівах Польшчы знаходзіцца значны лік архіўных матар'ялаў XV—XVIII сталецьцяў, якія па сваім афіцыяльным пахаджэньні належаць да старых беларускіх архіваў, як напрыклад: у Варшаве ў б. Галоўным Архіве Варшаўскага Суду і б. архіве Казённай Палаты— люстрацыі, тарыфы, скарбовыя кнігі, а ў Вільні б. Цэнтральны Архіў старадаўніх актавых кніг, б. архіў генэрал-губарнатара і б. архіў Віленскага Школьнага Вокругу,—Зьезд лічыць неабходным прасіць Урад БССР аб пастанове пытаньня аб іх звароце.

III. З абмену думак і спрэчак на Зьезьдзе выявілася, што ў дэлегацыі паміж Польшчаю і СССР, якая разглядае пытаньне аб рэдукцыі архіваў, няма прадстаўніка БССР у той час, як мае свайго прадстаўніка УССР, і выходзячы з патрэбы абароны там інтарэсаў БССР, Зьезд просіць Урад БССР падняць пытаньне аб прызначэньні ў гэтую дэлегацыю прадстаўніка БССР.

### 3. Аб археолёгічных досьледах.

Заслухаўшы даклады аб археолёгічных досьледах, Зьезд прышоў да пераконаньня, што беларускія старажытныя помнікі не ахоўваюцца належным спосабам, самавольна раскопваюцца, разворваюцца і нішчацца, і дзеля гэтага пастанаўляе:

I. Прасіць Прэзыдыум Інбелкульту і Гіст.-Арх. Камісію апрацаваць спэцыяльны законапроект аб старажытных помніках гісторыі і мастацтва Беларусі і правесьці ў самым хуткім часе праз законадаўчыя ўстановы БССР.

II. З абмену думак выясьнілася, што ранейшыя выданьні Літоўскага Статуту зьяўляюцца бібліографічнай рэдкасьцю і не здавальняюць навуковым патрабаваньням. З гэтае прычыны Зьезд зьвяртае ўвагу Інбелкульту на неабходнасьць прыняцьця належных крокаў да выданьня Літоўскіх Статутаў—як навуковага характару, так і для навучальных патрэб.

III. Зьезд выказвае пажаданьне і просьбу да Інбелкульту, каб працы Зьезду былі надрукаваны.

## 4. Аб музэйнай справе.

Заслухаўшы інформацыю аб стане дзяржаўных музэяў у БССР Зьезд пастанаўляе:

I. Зьезд лічыць неабходным падняць перад Урадам пытаньне аб звароце ў музэі БССР прадметаў археолёгіі і мастацтва, якія вывезены ў розныя часы за межы Беларусі і знаходзяцца ў музэях РСФСР, як напрыклад: а) у Смаленскім музэі—25 карцін з Горак, б) у Маскве куфар з срэбрам і шкатулка з дыямэнтамі, эвакуаваныя з Менскага музэю, г) у Ульянаўску часткі музэйных рэчаў беларускага гісторыка Жыркевіча.

II. Прымаючы пад увагу, што мы перажываем эпоху соцыялістычнага будаўніцтва, калі кожны музэй павінен займаць ня толькі ў галіне навукова-асьветнай працы наагул, але і ў справе ўздойму нашае вытворчасьці і экономічнага разьвіцьця адно з першых месцаў, і калі кожны музэй павінен быць і правадніком практычных ведаў у самыя шырокія колы працоўных,—Зьезд выказвае пажаданьне, каб пры кожным музэі БССР быў разьвінуты аддзел сучаснай прамысловасьці.

## 5. Аб Цэнтрархіве БССР і яго аддзелах.

Заслухаўшы інформацыю аб архіўнай справе на Беларусі, Зьезд пастанавіў:

Прыняць даклады да ведама і надрукаваць.

## 6. Аб звароце бібліотэк.

Абмяняўшыся думкамі па пытаньні аб бібліотэках, якія вывезены з межаў Беларусі, Зьезд пастанаўляе:

I. Прасіць Інбелкульт зьвярнуцца да ўраду з просьбай аб звароце ў БССР бібліотэк, вывезеных з Беларусі ў розныя часы, як напрыклад: а) бібліотэка Храптовіча, якая вывезена з Шчорсаў у Кіеўскі Дзяржаўны Унівэрсытэт у 1920 г., б) бібліотэка б. Полацкае Вуніяцкае Сэмінарыі, якая ў 1900 г. была вывезена з Віцебску ў Кіеўскую Духоўную Акадэмію, в) бібліотэка па беларусазнаўству пры музэі Каладзеева 1812 г., у Маскоўскім гістарычным музэі.

Прэзыдыум Зьезду: профэсар *М. Доўнар-Запольскі*, профэсар *У. Пічэта*, *З. Жылуновіч*, *А. Смоліч*, *Я. Дыла*.

Сакратары: *З. Даўгяла*, *В. Дружчыц*, *М. Мялешка*, *І. Сербаў*.

## Протокол Першага Зьезду Дасьледчыкаў Беларускае Археолёгіі і Археографіі.

*17-18 студзеня 1926 г.*

АДЧЫНЕНЬНЕ ЗЬЕЗДУ.

17 студзеня, а 12 гадзіне ў дзень Намесьнік[1]) Народнага Камісара Асьветы, Член Інбелкульту Антон Баліцкі, адчыніў Зьезд, вызначыўшы ў сваёй прамове [2]) задачы і мэты Зьезду:

„Таварышы! Сёньня адчыняецца Першы Зьезд беларускіх археолёгаў і археографаў. Народны Камісарыят Асьветы ўскладае на гэты Зьезд вялікія надзеі. Зьезд гэты аб'яднае беларускіх вучоных археолёгаў і археографаў і дапаможа паставіць стала вывучэньне помнікаў мінулага Беларусі як тых, якія знаходзяцца ў межах БССР, гэтак і вывезеных у Польшчу і РСФСР.

Зразумела, што тыя нашы помнікі, якія знаходзяцца ў СССР, мы лёгка выкарыстаем для навуковых мэт, бо брацкія народы Саюзу ў гэтым нам дапамогуць.

Адным з цікавейшых нашых помнікаў зьяўляецца Літоўская Мэтрыка, якая знаходзіцца ў Маскве. Польшча дамагаецца ад СССР, каб гэты наш помнік забраць да сябе. Мы павінны заявіць тут, што гэты помнік старасьветчыны—наш, і толькі Беларуская Савецкая ўлада мае на яго права.

Вывучэньне Беларусі да рэволюцыі ішло выпадкова ў большасьці тэндэнцыйна і не дало пэўных ведаў аб Беларусі. Толькі як утварылася БССР, пачынаецца запраўднае вывучэньне Беларусі. Заснаваныя навуковыя ўстановы Беларусі: Інстытут Беларускае Культуры, Беларускі Дзяржаўны Унівэрсытэт, Сельска-Гаспадарчая Акадэмія даюць магчымасьць плянова высьвятляць праўдзівы стан мінулага і сучаснага жыцьця Беларусі.

Ведаючы мінулае, лягчэй будаваць сучаснае. Савецкая ўлада занята зараз будаваньнем экономічнага і культурнага жыцьця Беларусі. БССР утворана, дзякуючы перамозе Кас-

[1]) У сучаснасьці—Народны Камісар Асьветы.
[2]) Прамова прыводзіцца паводле запісу сакратароў Зьезду.

трычнікавае рэволюцыі над буржуазіяй, але яе культура і гісторыя мае цьвёрдую падставу ў мінулым, і нам гэтую спадчыну абавязкова трэба высьветліць. Нам трэба распачаць распрацоўку крыніц свае мінуўшчыны. Мы пакуль што ня маем сталых падручнікаў з гісторыі Беларусі і мы спадзяемся, што Зьезд будзе мець на ўвазе патрэбы нашага культурнага будаўніцтва і дапаможа Беларускай Савецкай уладзе і яе ідэёвай кіраўніцы КП(б)Б у справе культурнага адраджэньня беларускіх працоўных мас, што, зразумела, нельга зьдзейсьніць бяз удзелу ў гэтай працы нашае інтэлігенцыі. І Савецкая ўлада і Комуністычная партыя вельмі цэніць гэтую працу інтэлігенцыі.

Савецкая ўлада і Комуністычная партыя вядуць ідэолёгічную барацьбу, а часамі даводзіцца ідэолёгічна змагацца і з інтэлігенцыяй. Мы хочам скарыстаць усе інтэлігенцкія сілы, мы імкнемся прыцягнуць да адбудаваньня Беларусі ўсе навуковыя сілы і, як вы самі ведаеце, Савецкая ўлада дае поўную волю і магчымасьць інтэлігенцыі ў яе разумовай працы. Інтэлігенцыя павінна працаваць пад кіраўніцтвам Комуністычнае партыі Беларусі, г. зн. пад кіраўніцтвам самога пролетарыяту. Большасьць інтэлігенцыі ў нас на Беларусі працуе прыхільна да Савецкае ўлады, а пролетарыят дае ёй магчымасьць разьвінуць сваю працу. Гэтая большая частка інтэлігенцыі йдзе разам з намі і разумее сутнасьць пролетарскае дыктатуры. Але ёсьць яшчэ і такая частка інтэлігенцыі, якая церпіць Савецкую ўладу толькі дзеля таго, што больш нічога ёй не застаецца рабіць. Яна не разьбіраецца ўва ўладзе і працуе для чыстай навукі і верыць як дзіцё, што Савецкая ўлада перарадзіцца. Урэшце, трэцяя група інтэлігенцыі, якая адкрыта вядзе барацьбу з Савецкай уладай. Калі ўся беларуская інтэлігенцыя зьвяжа свой лёс з работнікамі і сялянамі БССР, наша старонка пойдзе шпаркімі крокамі па шляху да дабрабыту.

Ваш Зьезд—навуковы. Вы сабраліся сюды, каб распрацаваць навуковыя пытаньні і гэтым дапамагчы дзяржаўнаму будаўніцтву. Савецкая ўлада з прыемнасьцю пойдзе на спатканьне і дапаможа ажыцьцёвіць вашыя пастановы.

Вітаю вас ад імя Народнага Камісарыяту Асьветы і жадаю посьпеху ў вашай працы".

---

Пасьля адчыненьня Зьезду *абіраецца прэзыдыум* у такім складзе:

1) Проф. А. Сьпіцын, 2) Проф. Доўнар-Запольскі, 3) Проф. У. Пічэта, 4) А. Смоліч, 5) Я. Дыла і 6) З. Жылуновіч.

Сакратарыят абіраецца ў складзе членаў Інбелкульту: З. Даўгялы, В. Дружчыца, М. Мялешкі, і І. Сербава.

У пачэсныя старшыні Зьезду аднагалосна абіраюцца: 1) А. Чарвякоў, 2) Я. Адамовіч, 3) У. Ігнатоўскі, 4) А. Крыніцкі і 5) А. Баліцкі.

Голас для *прывітаньня ад імя Інстытуту Беларускае Культуры* бярэ навуковы сакратар Інстытуту Д ы л а.— У сваёй прамове с. Дыла падкрэсьлівае задаваленьне ІБК з таго, што пачалося зьдзейсьненьне згуртаваньня навуковых сіл пры Гістарычна-Археолёгічнай Камісіі. Ня вельмі многа асоб аб'ядналася. Але ўжо маецца ўпэўненасьць, што пачаты ўклад беларускіх старажытнасьцяй будзе вясьціся ў належным сучаснаму навуковаму запатрабаваньню напрамку, што ён шырака разгорнецца, і што на вялікім шляху культуры— беларуская гістарычная навука ня толькі аб'яднае ўсіх сваіх і замежных вучоных, але і вызначыць шэраг новых беларускіх дасьледчыкаў.

Далей бярэ слова для *прывітаньня ад імя БДУ* дацэнт В. Д р у ж ч ы ц і адзначае наступнае: У мінулым Беларусь мела свой унівэрсытэт у Вільні. У пачатку (XVI ст.) гэта была акадэмія езуіцкая, а затым унівэрсытэт шляхоцкі. Такім ён застаўся да самага зачыненьня ў 1832 г. З Кастрычнікавай рэволюцыяй, калі рабочыя і сяляне ўзялі ўладу ў свае рукі, адчынілі сваю вышэйшую школу, якая павінна падрыхтаваць рабоча-сялянскую інтэлігенцыю. Падрыхтоўка, аднак, сустракае значныя перашкоды. Гэтыя перашкоды ляжаць у вадсутнасьці сталых і належна распрацаваных навуковых падручнікаў, якія высьвятляюць прыродныя, гаспадарчыя, эканомічныя і гістарычныя веды аб Беларусі. Жаданьне Інбелкульту сабраць крыніцы, падлічыць вынікі зробленага, пачаць плянавую працу ў археолёгіі і, разам з гэтым, высьветліць, дзе знаходзяцца архіўныя весткі. Грунтаваньне іх на тэрыторыі Беларусі зьяўляецца важным момантам для гістарычнай навукі Беларусі, асабліва для тых новых дасьледчыкаў, якіх рыхтуе Беларускі Дзяржаўны Унівэрсытэт. Адсюль, ад імя БДУ Зьезду шчырае прывітаньне.

---

## 1-е ПАСЕДЖАНЬНЕ ЗЬЕЗДУ.

*17 студзеня 1926 г.*

Прысутнічае 36 удзельнікаў Зьезду і 21 госьць.

Месца старшыні займае проф. М. Доўнар-Запольскі і дае слова З. Даўгялу для дакладу *„Мэтрыка Літоўская і яе значэньне для вывучэньня беларускай мінуўшчыны“*[1]).

Пасьля першага дакладу слова даецца дацэнту БДУ В. Дружчыцу, які падкрэсьлівае, што Мэтрыка, ня гледзячы на яе назву, напісана на выдатнай *беларускай мове* і ахоплівае тэрыторыю этнографічнай Беларусі. Дзеля гэтага Літоўская Мэтрыка зьяўляецца крыніцай ня толькі для вывучэньня гісторыі, але і мовы беларускай. І таму неабходна імкнуцца, каб гэты скарб атрымаць ізноў у Беларусь.

Адсюль вынікае патрэба падкрэсьліць у рэзолюцыі ня толькі неабходнасьць атрымаць Літоўскую Мэтрыку для карыстаньня пры распрацоўцы гісторыі Беларусі, але трэба ўзьняць пытаньне аб неабходнасьці працягу выданьня Літоўскай Мэтрыкі ў друку.

Слова бярэ Язэп Васілевіч. Ён задае пытаньне, у якім стане знаходзіцца справа аб аддачы Мэтрыкі Літоўскай у Беларусь.

На гэта старшыня проф. Доўнар-Запольскі дае спраўку, што справа гэтая яшчэ вырашаецца ў цэнтры, але, паколькі яму вядома, адпаведныя архіўныя ўстановы РСФСР ідуць на спатканьне пажаданьням БССР аб звароце старых беларускіх архіўных фондаў і, затым, рэзюмуючы думкі дакладаў, старшыня выклікае жадаючых выказацца па закранутых пытаньнях і пасьля ставіць пропозыцыю аб уключэньні ў рэзолюцыю трох пунктаў: а) наконт бязумоўнага захаваньня Мэтрыкі Літоўскай у межах СССР, каб гэтым адбіць дамаганьні аб аддачы за межы гэтага архіўнага фонду, б) аб перадачы Мэтрыкі Літоўскай у БССР і в) аб працягу выданьня Літоўскай Мэтрыкі.

---

[1]) Даклад З. Даўгялы дадаецца, стар. 53.

Пропозыцыя прыймаецца аднагалосна і апрацаваньне рэзолюцыі даручаецца прэзыдыуму.

Месца старшыні займае Я. Дыла.

Слова для дакладу *аб старых архіўных беларускіх фондах за межамі СССР* бярэ проф. М. Доўнар-Запольскі.

Дакладчык інформуе, што за часы сваёй працы ў архівах Варшавы, Кракаву, Львову і інш. гарадоў цяперашняе Польшчы,—ён высьветліў знаходжаньне там вельмі вялікай колькасьці старых беларускіх архіўных фондаў, аб якіх невядома калі і як яны туды трапілі. Так, у Кракаве, а таксама ў Варшаўскіх архівах ён знайшоў многа дакумантаў, якія маюць датычэньне да гісторыі Беларусі. Ёсьць цэлых 29 №№ кніг Літоўскае Мэтрыкі, якія перапісаны калісь-та лацінкай. У Львове ў бібліотэцы Ассалінскіх ёсьць паперы з многіх архіваў Беларусі і, паміж іншым, з б. канцэлярыі Віленскага генэрал-губарнатара, матар'ялы для гісторыі Беларусі ў XVI сталецьці, шмат пасольскіх дыплёматычных актаў, скарбовыя дакуманты XVIII сталецьця [1]).

Усе пералічаныя матар'ялы маюць выключную варнасьць для гісторыі Беларусі і бяз іх нельга абыйсьціся пры належнай навуковай яе распрацоўцы.

На запрашэньне старшыні, даваць пытаньні дакладчыку, робіць запытаньне Язэп Васілевіч.

— Ці паднята пытаньне аб звароце ў БССР беларускіх старых архіўных фондаў з Польшчы?

Дакладчык Доўнар-Запольскі адказвае, што дагэтуль, як яму вядома, такіх перамаўленьняў не вялося і ў Рыскай умове, здаецца, нічога аб гэтых архівах няма.

Язэп Васілевіч выстаўляе пропозыцыю:—Трэба вынесьці рэзолюцыю: а) аб звароце ў БССР усіх, вызначаных у дакладзе проф. М. Доўнар-Запольскага, папер, кніг і спраў старых беларускіх архіваў і б) аб тым, каб у склад камісіі, якая існуе ў Маскве, з прадстаўнікоў ад РСФСР, УССР і Польшчы, быў уведзены прадстаўнік ад БССР.

Пропозыцыя пастаўлена на галасаваньне і прынята аднагалосна. Канчатковая формулёўка рэзолюцыі даручана прэзыдыуму.

Пасьля гэтага абвяшчаецца перарыў на 10 хвілін, у працягу якога робіцца падрыхтоўка матар'ялаў для дакладу А. Ляўданскага *аб беларускіх гарадзішчах* [2]).

---

[1]) Сьпіс старых беларускіх фондаў, якія знаходзяцца ў межах Польшчы, далучаецца да протоколу, стар. 40.

[2]) Науч. изв. Смол. Гос. Университета. т. III, вып. 3.

У сваім дакладзе архэолёг Ляўданскі азнаёміў Зьезд з вынікамі сваіх дасьледваньняў шэрагу гарадзішчаў, з падзелам іх на групы (пяць груп) і даў падрабязнае апісаньне кожнае групы. Асобная ўвага была зьвернута ім на наступныя гарадзішчы трох груп:

**Гарадзішчы I групы.**

Гарадзішча каля в. Лахцеева, Грынеўскай вол., Смаленскага пав.
„ „ в. Беленкі, Букінскай вол., Смаленскага пав.
„ „ в. Абодрава, Грынеўскай вол., Смаленскага пав.
„ „ Рачэўскага ручча ў г. Смаленску.
„ „ на Саборнай гары ў г. Смаленску.
„ „ в. Верхне-Ясеная пад Смаленскам.
„ „ с. Багародзіцкага пад Смаленскам.
„ „ в. Царкавішча 1-е, Грынеўскай вол., Смаленскай губ.
„ „ маёнтку Праабражэнскага, Кардымскай вол., Смал. пав.
„ „ в. Бабынава, Перасьнянскай вол., Смаленскага пав.
„ „ в. Пуцяцінкі, Перасьнянскай вол., Смаленскага пав.
„ „ в. Калупаева, Перасьнянскай вол., Смаленскага пав.
„ „ в. Вошкіна, Перасьнянскай вол., Смаленскага пав.
„ „ в. Калычава, Перасьнянскай вол., Смаленскага пав.
„ „ в. С. Прудкоў, Пачынкаўскай вол., Смаленскага пав.
„ „ в. Гарадок, Пачынкаўскай вол., Смаленскага пав.
„ „ маёнтку Мачулы, Хмараўскай вол., Ельнінскага пав.
„ „ в. Каўшары (Пакроўка таксама), Грынеўскай вол., Смал. пав.
„ „ в. Кокава, Хахлоўскай вол., Смаленск. пав.
„ „ в. Яршы-Ладыжыцы, Катыньскай вол., Смаленскага пав.
„ „ в. Ладыжыцы, Катыньскай вол., Смаленскага пав.
„ „ маёнтку Вонлярова, Катыньскай вол., Смаленскага пав.
„ „ в. Горы, Дзямідаўскай вол., Смаленск. пав.

**Гарадзішчы II групы.**

Гарадзішча каля в. Кучына, Перасьнянскай вол., Смаленскага пав.
„ „ в. Дзямешкі, Пачынкаўскай вол., Смаленскага пав.
„ „ в. Рудні, Пачынкаўскай вол., Смаленскага пав.

**Гарадзішчы III групы.**

Гарадзішча каля в. Кушляншчына, Хахлоўскай вол., Смаленскага пав.
„ „ в. в. Булавіц, Зяхіна і Белай, Перасьнянскай вол., Смаленскага пав.
„ „ маёнтку Краснагор'я, Перасьнянскай вол., Смаленскага пав.
„ „ в. Холм, Перасьнянскай вол., Смаленскага пав.
„ „ в. Нікульшчыны, Балтуцінскай вол., Ельнінскага пав.
„ „ в. Шапырава, Грынеўскай вол., Смаленск. пав.
„ „ в. Купрына, Катыньскай вол., Смаленск. пав.
„ „ в. Ермакоў, Катыньскай вол., Смаленск. пав.

Па заканчэньні дакладу Ляўданскага паседжаньне спыняецца а 3 гадзіне з поўдня.

2-е ПАСЕДЖАНЬНЕ.

*У вечары таго-ж 17 студзеня 1926 году.*

За сталом прэзыдыуму знаходзяцца: М. Доўнар-Запольскі, У. Пічэта, З. Жылуновіч, Я. Дыла.

Сакратары; Даўгяла, Дружчыц, Мялешка, Сербаў.

Прысутнічаюць тыя-ж сябры, што і на дзенным паседжаньні.

Старшыня М. Доўнар-Запольскі адчыняе паседжаньне і прапануе даваць дакладчыку Ляўданскаму пытаньні.

Даюцца пытаньні:

1. Даўгяла—пытае аб астатках усходаў на гарадзішчах—ці ўсюды значны і з якіх бакоў яны?

Адказ: Усходы ёсьць на гарадзішчах І-й групы (напр. у Лагойскім раёне); ёсьць яны таксама на гарадзішчах 4-й групы (Гнездаўскае гар.). На іншых няпрыкметны. Але яны маглі апаўзьці, так што страцілі свой ранейшы выгляд.

2. Сербаў — дае пытаньне аб падставе для падзелу гарадзішчаў: чым кіруецца дакладчык, дзелячы іх на пяць, а не на 2-3 віды.

Адказ: Гарадзішчы клясыфікаваны ў яго па культурных адзнаках, па пасудзе, па касьцяных падзелках.

1-я група — гэта гарадзішчы тыпу Дзьякова—ён лічыць іх ваеннымі.

2-я група—гарадзішчы бяз усякіх астаткаў жыцьця. Гэта гарадзішчы дзеля зборышчаў ці ігрышчаў.

3-я група—балотныя гарадзішчы: яны міньятурныя,—круглыя, авальныя, трохкутнікавыя. На іх не сустракаюцца чарапкі і попел—гэта рэлігійныя гарадзішчы.

4-я група—па форме вялікія, па фігуры нармандзкія (напр., Гнездаўскія 2). Да гэтых гарадзішчаў прылягаюць групы курганоў. Гарадзішчы не раней IX сталецьця, а курганы, паводле сваіх прадметаў,—X-XI сталецьця.

5-я група—позьнія гарадзішчы: каля вёскі Панізоўя (на р. Гайне),—тыпу арконы на востр. Ругене,—XII сталецьця—канец XV сталецьця.

Яны бясформенныя; для абароны яны абгароджваліся валам. У параўнаньні з Гнездавам яны вельмі вялізарныя. Ад пазьнейшых гарадзішчаў XVI сталецьця яны вельмі адасабляюцца. Дата іх прыблізна XII—XV сталецьці.

3. Кованаў — цікавіцца датай Каўшараўскага гарадзішча: ці ножніцы, якія там знойдзены, маюць адносіны да VIII сталецьця?

Адказ: Каўшараўскае гарадзішча не VI—VIII стал., а належыць да дзьвюх эпох, бо яно мае два напластаваньні. Ніжняе па грубай пасудзе, па касьцяных падзелках можна адносіць да VI—VIII стал. Слой верхні ўжо славянскай эпохі: тут знаходзяцца персьцені, брасьлеты, пасуда XII-XIII-XIV стал.

4. Доўнар-Запольскі — чаму за падставу пры дасьледваньні гарадзішчаў ня ўзяты рэчкі, па якіх яны знаходзяцца, і іх вадазборы?

Адказ: Свае зьвесткі аб гарадзішчах архэолёг Ляўданскі групуе па паветах дзеля таго, што ня мае сродкаў, каб зрабіць дакладную карту гарадзішчаў па рэках. Аднак, самыя гарадзішчы абавязкова знаходзяцца пры рацэ, ці пры ручаіне, ці пры балоце.

5. Дыла — Ці ёсьць падстава гаварыць аб распалажэньні на гарадзішчах будынкаў?

Адказ: Па Каўшараву можна ўстанавіць, што будынкі былі па краёх, каля валу.

Далей бярэ слова архэолёг А. Сьпіцын. Зварочваючы ўвагу на рысункі, іх прыгожасьць і навуковую дакладнасьць, а таксама на вынікі разьведак і дасьлед-

ваньняў тав. Ляўданскага ў працягу трох апошніх год, пераконваемся,—кажа проф. Сьпіцын,—у тым, што Ляўданскага магчыма лічыць першарадным археолёгам. Нават агульныя віды, малюнкі, зробленыя Ляўданскім, захопліваюць сваім уражаньнем старыны. Ад іх ня хочацца адарвацца. Нават фотографіі паказываюць надзвычайнае захапленьне археолёгіяй і ўменьне працаваць. Разрэзы Каўшараўскага гарадзішча проста ўсьцешылі.

Аналізуючы малюнкі, магчыма бачыць, што тут належыць да споднягa і што да верхняга слою.

Недахваты, аднак, ёсьць: 1) няясна таўшчыня попельнага слою, ці ён зьверху пранік, ці гэта стары ахвярны слой; 2) на малюнку паказаны палі, якія быццам былі ўвагнаныя на адзін сажань у зямлю, хоць ніхто на такую глыбіню паляў не забівае. Аднак, рэконструкцыя паляў прымушае верыць; 3) няясна, адкуль сыпаўся вал. Праца павінна была рабіцца ня зразу.

З погляду проф. Сьпіцына трэба абвязкова прадоўжыць раскопкі Каўшараўскага гарадзішча, каб устанавіць, якія рэчы належаць да XII і XIII сталецьцяў, хронолёгіі якіх яшчэ ня дадзена.

Тая хронолёгія, якая даецца Ляўданскім, дасканалая, паколькі яна прынята ў археолёгічнай навуцы.

Інвэнтар Смаленскіх гарадзішчаў падобны да інвэнтароў т. зв. „літоўскіх“ пілекальнісаў. Адсюль магчыма думаць, што гэты край у VII-VIII ст. быў заняты літоўцамі. Рэчы, якія знаходзяцца ў гарадзішчах літоўцаў і крывічоў (Ноўгарад. вобл.), ад XII-XIII ст.—тыя-ж самыя. І гэтыя гарадзішчы, дзе-б яны ні былі, трэба лічыць літоўскімі. Яны йдуць да р. Арэдзежа. Цьвер поўна літоўскімі гарадзішчамі. Гарадзішчы „літоўскія“ пашыраюцца на ўсю Ковенскую губэрню.

Пасьля прамовы А. Сьпіцына старшыня абвяшчае, што па навуковым дакладзе Ляўданскага ёсьць адна пропозыцыя: прыняць да ведама і выказаць Ляўданскаму падзяку за яго даклад, які будзе хутка надрукаваны ў працах Смаленскага Унівэрсытэту, а за ахвяраваныя ім экспонаты-дублеты яго знаходак у Менскі Дзяржаўны Музэй выказаць таксама шчырую падзяку ад імя Зьезду.

Пропозыцыя ставіцца на галасаваньне і прыймаецца аднагалосна ўсім Зьездам.

Мейсца старшыні займае З. Жылуновіч і дае слова для дакладу проф. М. Доўнар-Запольскаму *аб старых беларускіх архіўных фондах, якія знаходзяцца ў РСФСР.*

Проф. М. Доўнар-Запольскі падрабязна высьвятляе пытаньне аб старых беларускіх архіўных фондах у Ленінградзе, Маскве і інш. мясцох[1]).

[1]) Даклад дадаецца. стар. 31.

У Ленінградзе перш за ўсё зьвяртае ўвагу: а) архіў б. Міністэрства Зямляробства і Зямлябудаўніцтва. У ім захоўваецца шмат дакумантаў, якія былі ў Беларусі па езуіцкіх маёнтках (т. зв. фундушы). Яны былі перададзены Мін. Асьветы. Затым, у былой Публічнай Бібліотэцы ў аддзеле рукапісаў захавалася як у лацінскіх, так і рускіх манускрыптах розныя прывілеі, часткі кніг Літоўскае Мэтрыкі, люстрацыі Вял. Княз. Літоўск., рэестры падымнага, сьпісы, статуты, хронікі, копіі дакумантаў з Нясьвіскага архіву і г. д.; б) у б. Сінод. архіве — архіў беларускіх вуніяцкіх мітрополітаў; в) у вархіве і бібліотэцы былога Галоўнага Штабу цэлы шэраг люстрацый, дакумантаў і матар'ялаў да гісторыі Беларусі.

У Маскве: а) у б. арх. Мін. Замежных спраў і б) архіве Мін. Юстыцыі, якія цяпер зьліты ў адзін архіў—Мэтрыка Літоўская і вялікі шэраг розных спраў і паасобных дакумантаў, якія маюць вялікае значэньне для Беларусі.

У Яраслаўлі знаходзяцца эвакуаваныя кнігі былых Віцебскага і Віленскага цэнтральных архіваў даўнейшых актавых кніг.

Дакладчык зварочваецца да Зьезду з пропозыцыяй, каб абгаварыць пытаньне аб неабходнасьці звароту ў БССР вызначаных у дакладзе старых беларускіх архіваў.

Старшыня заклікае жадаючых выказацца.

Падаецца прапанова галасаваць пропозыцыю дакладчыка, бо справа ясная і не патрабуе тлумачэньня.

Зьезд аднагалосна падтрымлівае прапанову і прэзыдыуму даручаецца апрацаваць рэзолюцыю згодна з высунутаю пропозыцыяй.

Мейсца старшыні займае М. Доўнар-Запольскі і дае слова для дакладу І. Сербаву *аб выніках археолёгічных дасьледваньняў каля Нова-Быхаву і на сярэднім Сожы* (на Ухлясьці і Перагонцы, Пяшчанцы і Баброве).

Каля Нов-Быхаву, на правым беразе Дняпра захавалася стаянка з мікролітамі (адбіўныя крэмневыя стрэлкі, скрабкі, нажы, пілы і г. д.). Ёсьць і знаходкі нэоліту. На полі ў вялікім ліку сустракаюцца чарапкі з орнамэнтам. Па досьледах тут трэба шукаць поляў пахаваньняў. Нядаўна адзін селянін у час воркі выараў урну. На крутым беразе Дняпра знойдзена пахавальная урна. Сербаў дэмонстраваў Нова-Быхаўскія мікролітычныя знаходкі, якія былі прадстаўлены на дзьвёх табліцах, таксама знойдзеныя тут урны і, на 2 табл., выстаўленыя фрагмэнты керамікі, зробленыя бяз кружала з орнамэнтам сеткавым.

Далей Сербаў зрабіў даклад аб раскопках кurганоў: а) каля Нова-Быхаву—дзе ім раскапана пяць кurганоў—

знаходкі: ліравідная пражка каля пояса (літоўская), знойдзеная каля мужчынскага шкілету. Жаночых курганоў ня знойдзена; б) на р. Баброве ў вёсцы Абідавічы, дзе ёсьць група ў ліку 78 курганоў, раскапана 8 курганоў. Знойдзены грабы з дубовай калоды. Інвэнтар значны і цікавы: чыста радзіміцкія прывескі-луньніцы, агніва і крэмень. Пад галавой жанчыны прадка сьветла-русых валасоў, невялічкі срэбраны драцяны брасьлет, віты срэбраны пярсьцёнак і інш.; в) на р. Перагонцы дасьледваны волак, гарадзішча і, па дарозе ў Слаўную, 4 курганы, з якіх раскопаны адзін. Знойдзен касьцяк 2 арш. 9 верш., мэзоцэфал, бяз інвэнтару; на р. Перагонцы каля Косарава абсьледвана гарадзішча, пры ўтоцы ручаіны, на высокім абрыве да 12 сажняў з двух бакоў, а з другіх двух—выкапаны роў. Культурны слой каля 3 арш.; д) за вярсту, але на правым баку р. Перагонкі, каля хутара „Курганьне“, налічана 52 курганы, але многія з іх парушаны; раскапаны з іх 4. Устаноўлена, што мужчын хавалі галавою на ўсход, а жанчын—на захад. Інвэнтар: чатыры 2-лопасн. завушніцы, дробныя пацеркі, луньніцы, брасьлеты з меднага дроту (2), гліняны гаршчок, нашыйнік з бусаў, бубенцы з 2 частак (два бубенчыкі—значныя, з грохатам у сярэдзіне), медны пярсьцёнак, пласткаваты пярсьцёнак з правай рукі, грыўні срэбныя, вітыя (2); е) на р. Пяшчанцы кургаоў налічана 170. Па форме аднолькавыя. Раскапана 4 курганы, з іх 2 жаночыя. Інвэнтар: астаткі дубовай труны; пры левым клубе мужчыны—нож у чахле; пры жаночым шкілеце нашыйнік з сэрдалікавых даўгаватых караляй (гранёных), з якіх адна караля буйнага зерня, адна з чыстага крышталю і дыргем 911 г. Тут-жа захавалася гарадзішча: яно мае форму сьцятага стажка з равамі і з двух бакоў валы; ж) на верхавіне ёсьць гарадзішча і каля яго да 20 курганоў, а далей у сасновым ляску яшчэ каля 270 курганоў. Раскапаны адзін курган на полі і два ў лесе. Інвэнтару ў першым ня знойдзена, а ў двух апошніх знойдзена—шмат луньніц, дробных пацерак, адна прывеска срэбная з нямецкай монэты (па заключ. Эрмітажу XI ст.) і пражка; з) на р. Ухлясьці ёсьць гарадок і пры ім курганы. Раскапана 2 курганы, знойдзена месца, дзе палілі мерцьвякоў, прычым у вадным кургане знойдзена 4, а ў другім 3 гаршкі, лепленыя, з попелам і вугольлямі.

Гарадзішча тут такое, як на вярхавінах Перагонкі, мае форму сьцятага стажка, з седлаватай плошчай на версе.

На процілеглых берагох р. Дняпра ў Нов.-Быхаве і Абідавічах, па Перагонцы і Пяшчанцы дасьледваньнямі 1925 г. устаноўлена наступнае:

I. Курганы могілак раскінуты па групах без парадку.



II. Форма курганоў купалавідна-круглая з лейкаватай западзінай на версе і даўгаватымі ямамі ля падашвы.

III. Сыстэма будовы кургана такая: на грунце насыпаўся ценкі (каля $^1/_4$ мэтру) пласт гліны або пяску; затым яшчэ больш ценкі (каля $^1/_8$ мэтру) пласт белага рэчнага пяску ці суглінку, вышынёй каля $1^1/_2$ мэтраў, на версе якога знаходзіцца кастрышча. Над кастрышчам насыпаўся пласт звычайнае зямлі ў таўшчыню да 1 мэтру.

IV. Абрад пахаваньня высьвятляецца так: па ўсёй плошчы кургана галоўны пласт грунту выпальваўся моцным агнём і, затым, насыпаўся пласт белага пяску ў якасьці падсьцілкі, на якую і зьмяшчаўся труп нябожчыка галавой на ўсход, ці на захад, тварам угару, з рукамі і нагамі, працягнутымі ўдоўж тулава. Паверх трупа накладваліся грабавішчы: гэта былі драўляныя плашкі, або карыта, выдзяўбленае з цэльнай калоды. Зьверху рабіўся купалавідны насып, а паверх яшчэ раскладалася вялікае вогнішча. Каля вогнішча ўтваралася трызна.

V. На р. Ухлясьці пераважна знаходзяцца сьляды трупапаленьня. У кургане пры гэтым ставіліся гаршкі з вугольлямі і попелам (магчыма ад дамовага вогнішча).

Пасьля дакладу з пытаньнямі зьвярнуліся Ляўданскі і Сьпіцын.

Ляўданскі выказвае погляд, што знаходкі ля Н.-Быхаву, якія зроблены Шутавым, можна адзначыць па кераміцы, як пераходны час да нэоліту. Гаршчок—з ліку хаўтурных урнаў. Мае сэнс, каб знайсьці стаянку: адна яна тут была, ці дзьве, ці гэта мае адносіны да гарадзішча, якое тут знаходзіцца. З гэтае прычыны пункт у Н.-Быхаве з археолёгічнага боку трэба лічыць асабліва цікавым.

Сьпіцын лічыць, што ў Н.-Быхаве трэба шукаць поле урнаў (пахаваньняў). Адносна таго, быццам тут маем выдуцьце курганоў—нейкае непаразуменьне. Знаходкі керамікі з клеймамі ў Н.-Быхаве трэба параўнаць з клеймамі на гаршкох у Бабынавічах. Адно кляймо, падобна да крыжавіднай фігуры, зьяўляецца сувязьзю паміж каменнымі прыладамі і крэмневымі.

З усяго, што даложана, асабліва цікавымі зьяўляюцца знаходкі мікроліту. Колекцыя вельмі цікавая. Цікавыя і урны. На жаль, аднак, няма ў іх знаходак, няма ніводнае рэчы. Іншае ўсё зьяўляецца звычайным, апроч аднае пражкі. Яна „літоўская“, але больш позьняя, чым X стал. Трэба лічыць, што яна сталецьця XII. Гэта адмысловая літоўская рэч.

У заключным слове І. Сербаў кажа, што ў Н.-Быхаве ім організаваны дагляд над археолёгічнымі мясцовасьцямі, і што яны будуць добра, пакуль што, захоўвацца.

Пасьля бярэ слова Васілевічі прапануе зьвярнуць увагу Інбелкульту на неабходнасьць апрацаваць і правясьці праз дэкрэт правілы для раскопак з бязумоўнаю забаронаю нішчыць курганы і іншыя архэолёгічныя помнікі.

Пропозыцыя ставіцца на абмяркоўваньне, аднагалосна падтрымліваецца Зьездам, і прэзыдыуму даручаецца апрацаваць адпаведную рэзолюцыю.

Паседжаньне зачыняецца а $10^1/_2$ гадзіне ў вечары.

## 3-е ПАСЕДЖАНЬНЕ.

*18 студзеня 1926 году.*

Паседжаньне адчыняецца а 6 гадзіне ў вечары.

Старшыня проф. Доўнар-Запольскі, сакратары Даўгяла, Дружчыц, Мялешка і Сербаў.

Прысутнічаюць удзельнікі Зьезду і да 40 гасьцей.

Слова даецца дэлегату Смаленскага Губэрскага Архіўнага Бюро—В. Дмітрыеву для дакладу *аб стане і навуковым зьмесьце Смаленскіх архіўных фондаў* [1].

Галоўныя тэзісы дакладчыка наступныя:

а) Амаль што ўсе архівы ад 1813 году; да гэтага-ж часу захаваліся вельмі мала: ёсьць толькі ў архіве б. Дух. Консысторыі (з 1723 г.).

б) Архівы дарэволюцыйных устаноў якія захаваліся найбольш добра—судовы архіў і Смаленскага Губ. Земства.

в) Ёсьць некалькі валасных архіваў. З іх адзін Вярхоўскай вол. з 1811 г.

г) Ёсьць некалькі прыватных усадзьбовых архіваў (Барышнікава, Валконскага, Рачынскага, Хамякова, Шарапава).

д) Вайсковы архіў Абласнога Выканаўчага Камітэту Заходняй арміі.

е) Усяго па губэрні ёсьць 1.363 архіўных фондаў.

ж) У Смаленску архіў зьмяшчаецца ў 10 памяшканьнях.

Дакладчыку даюцца пытаньні, і ён адказвае на іх.

Даецца слова дэлегату Віцебскага Акруговага Аддзелу Цэнтральнага Архіву БССР Н. Ясеневу для дакладу *аб складзе і навуковай вартасьці Віцебскага Цэнтральнага Архіву* [2])

Тэзісы:

1) Віцебскі архіў—захаваўся здавальняюча і мае тры памяшканьні, з які толькі былога судовага архіву добрае

2) Старых фондаў няма, апроч Дух. Консысторыі.

---

[1]) Даклад надрукаваны ў дадатку, стар. 75,

[2]) Даклад надрукаваны ў дадатку, стар. 69,

3) Найбольш каштоўнымі зьяўляюцца справы былога Смаленск., Віцебск. і Магіл. ген. губарнатарства, Дваранскага Дэпутацкага Збору і Віцебскай Навуковай Арх. Камісіі.

Слова для чарговага дакладу даецца намесьніку загадчыка Беларускага Цэнтральнага Архіву М. Мялешку на тэму: *„Палажэньне архіўнай справы ў Беларусі“* [1]).

Заслухаўшы даклады па архіўнай справе, Зьезд выносіць пропозыцыю, каб апрацавана была рэзолюцыя аб прыйме дакладаў аб навуковай вартасьці архіваў да ведама і каб даклады былі надрукаваны ў свой час.

Слова даецца загадчыку Менскага Дзяржаўнага Музэю П. Харламповічу, які робіць наступны даклад *аб сучасным становішчы даручанага яму музэю.*

Ідэя беларускіх музэяў, як навуковых і шырака асьветных установ, у першы раз высунута толькі Савецкаю ўладаю. Музэі, якія былі да Кастрычнікавай рэволюцыі, і якія часта былі недаступны ня толькі для шырокіх мас, але, часам, і для навуковых дасьледчыкаў, — зьяўляюцца цяпер ня толькі месцам зьбіраньня і захаваньня гістарычных і архэолёгічных каштоўнасьцяй і навуковай іх апрацоўкі, а, галоўным чынам, можна сказаць,—аўдыторыямі для азнаямленьня шырокіх мас грамадзянства з мінулым бацькаўшчыны. Патрэбна, казаў Баліцкі ў сваім прывітаньні Зьезду, будаваць наступнае, вывучаючы мінулае.

Гэтае назначэньне музэю, зразумела, патрабуе адпаведнае працы ня толькі бліжэйшых супрацоўнікаў музэю, але і шырокіх слаёў насельніцтва і самае ўлады.

Беларуская рэспубліка, у яе папярэдніх межах, знаходзілася заўсёды ў вельмі цяжкіх музэйных умовах. Хоць вывучэньне Беларусі пачалося даўно, але ўсе вынікі гэтае працы не заставаліся на месцы, бо траплялі за межы яе.

Багатыя раскопкі гр. Тышкевіча каля Лагойску, сабраныя ў аго палацы, у час вайны былі вывезены за межы.

Раскопкі проф. Завітневіча ў Мазыршчыне, Рэчыцкім і Бабруйскім паветах знаходзяцца ў Маскве ў Гістарычным Музэі.

Шэраг іншых раскопак захованы ў Ленінградзе—у Акадэміі Навук, Эрмітажы і інш.

Шмат зроблена ў напрамку археолёгічных досьледаў Раманавым, Татурам і іншымі, але вынікаў іх працы таксама ня мае Беларусь.

Табліцы раскопак Татура, без дакумантаў, захоўваюцца ў музэі, але ўся яго каштоўная колекцыя прадана ў Нямеччыну.

---

[1]) Даклад надрукаваны ў дадатку, стар. 60.

Гісторыя Беларускага Дзяржаўнага Музэю ў яго працы пачынаецца толькі з месяца сьнежня 1921 г., калі быў вызначаны новы штат і пад музэй быў адведзены будынак быўшага архірэйскага дому, у якім музэй знаходзіцца і цяпер.

З гэтага часу музэй расьце і пашыраецца.

У музэй пачынаюць пастунаць выпадковыя знаходкі—курганныя і каменныя прылады, дзякуючы тэй агітацыі, якая вялася па музэйнай справе навуковымі супрацоўнікамі ў часы правядзеньня экскурсій. Сярод гэтых рэчаў ёсьць вельмі каштоўныя. Між іх першае месца займае колекцыя каменных прылад і кераміка.

Трэба адзначыць з вялікай падзякай асаблівую тую дапамогу, якую аказалі і аказваюць пашырэньню Гіст.-арх. аддзелу ў музэі тут прысутныя таварышы І. Сербаў і А. Ляўданскі.

Далей вялікае значэньне для музэю мае пастанова ад 19 лістапада 1924 г. аб музэях дзяржаўных і мясцовых.

На падставе гэтае пастановы музэйныя фонды, якія захаваліся ў Горках, Мсьціслаўлі і Чэрыкаве пераданы ў Дзяржаўны Музэй.

У вапошні момант паднята пытаньне аб звароце з цэнтральных музэяў—Масквы і Ленінграду дублетаў з тых колекцый археолёгічнага значэньня, аддача якіх не парушыць асноўных колекцый расійскіх музэяў.

Зразумела, гэтыя паступленьні часткова папоўняць недахоп і прабелы па розных аддзелах музэю, але нашы беларускія галоўныя музэйныя фонды знаходзяцца ня ў музэях Масквы і Ленінграду, а ў тых тысячах, дзесятках тысяч курганоў і гарадзішч, якія раскінуты ў абшарах Беларусі і якія троху-па-троху зьнішчаюцца рукамі сялян ці аматараў-архэолёгаў, ці пры шуканьні скарбаў.

Гэтыя курганы і гарадзішчы хаваюць у сабе шмат неспадзейнасьцяй, шмат новага навуковага матар'ялу. Гэтае наша багацьце павінна быць абаронена праз выданьне адпаведных пастаноў.

Неабходна таксама ўпарадкаваць і пытаньне аб выпадковых знаходках скарбаў, каменных прылад і інш. Неабходна, каб усё гэтае культурнае багацьце ня зьнішчалася, не трапляла за межы, а заставалася на Беларусі.

Слова бярэ дэлегат Віцебскага Дзяржаўнага Музэю Я. Васілевіч для дакладу *аб сучасным становішчы даручанага яму музэю і яго навуковых архэолёгічных каштоўнасьцях.*

Віцебскае Аддзяленьне Беларускага Дзяржаўнага Музэю, згодна з пастановамі—Калегіі Наркамасьветы ад 30 мая 1924 г. і Савету Народных Камісараў Беларусі ад 19 лістапада г. г.

лічыцца заснаваным з 1 кастрычніка 1924 г. Фактычна-ж музэй пачаў дзейнічаць з 27 красавіка 1925 г. і, выконваючы сваё назначэньне, ён дагэтуль знаходзіцца яшчэ ў пэрыодзе організацыі.

Галоўнымі часткамі, з якіх складаецца музэй, зьяўляюцца музэйныя фонды існаваўшых раней у Віцебску музэяў:

1) Віцебскай Навуковай Архіўнай Камісіі; 2) Царкоўна-археолёгічнага „дрэўнехранілішча“ (заснавана ў 1893 г. з рэчаў, сабраных па епархіі і з колекцый Віцебскага Статыстычнага Камітэту); 3) Музэю В. П. Федаровіча (заснаваны ў 80-х гадох мінулага сталецьця з колекцый Бэргнера, Кусьцінскага, Валадковіча, Плятара і папоўнены прадметамі раскопак на тэрыторыі старадаўных Віцебскіх замкаў, а таксама рэчамі старасьветчыны, сабранымі ў былых губэрнях—Віцебскай, Магілеўскай і Менскай); 4) адчынены ў 1918 годзе Губэрскі Музэй складаўся: а) з рэчаў мясцовай старасьветчыны і мастацтва, сабраных у час рэволюцыі; б) з колекцый зброі былога „Віленскага Вайсковага Збору“, эвакуаваных у час імпэрыялістычнай вайны; в) з колекцый А. Брадоўскага, прывезеных ім з Вільні ў час тэй-жа вайны; яны цяпер зьяўляюцца, згодна законапалажэньняў 1923 году, дзяржаўнай уласнасьцю БССР.

Да гэтага часу організаваны аддзелы:

1. Гісторыка-археолёгічны;

2. Мастацка-прамысловы, які патрабуе яшчэ больш сталай сыстэматызацыі;

3. Вайсковы;

4. Дзяржаўнага і хатняга быту XVIII і пачатку XIX сталецьцяў;

5. Сучаснай прамысловасьці Віцебшчыны.

*Гісторыка-археолёгічны аддзел* складаецца амаль што выключна з помнікаў Віцебшчыны і Полаччыны, пачынаючы з дагістарычнага пэрыоду і канчаючы XIX сталецьцем.

У склад яго ўваходзяць:

а) колекцыі палеонтолёгічныя, галоўным чынам, косьці маманта і акамянеласьці дрэва, аммонітаў, белемнітаў, караляй і інш.;

б) каменныя прылады часоў шліфаваньня і сьвідраваньня;

в) кераміка гэтай пары;

г) курганавая кераміка;

д) мэталічныя рэчы раскопак, галоўным чынам, Люцынскага могільніку, якія датуюцца XI сталецьцем;

е) рэчы раскопак старадаўных Віцебскіх замкаў, галоўным чынам, мэталічныя прылады будоўлі, замкі і інш.;

ж) колекцыі кахель XVI—XIX сталецьця.

*Мастацкі аддзел* зьмяшчае ў сабе:

а) жывапіс—алей;
б) жывапіс—акварэль;
в) жывапіс—гравюры;
г) жывапіс па эмалі, фарфары, сланёвай косьці, мэталі і інш.
д) разьбу па дрэве, косьці, мэталі;
е) мастацкі фарфар;
ж) мастацкую бронзу;
з) мастацкія вышыўкі і інш.

*Вайсковы аддзел* складаецца са зброі мясцовай, расійскай і замежнай, менавіта: халоднага ад XIII да XIX сталецьця і агнястрэльнага ад XV стал. да сучаснасьці.

*Аддзел дзяржаўнага і дамашняга быту* XVIII і пачатку XIX сталецьця:

а) портрэты і барэльефы палітычных дзеячоў;
б) нумізматычныя колекцыі;
в) тыпы вопраткі;
г) сялянскія вырабы (нязначны лік);
д) набоечныя клішэ;
е) цэхавыя харугвы;
ж) колекцыя масонскіх знакаў;
з) курыльныя прылады і інш.

*Аддзел сучаснай прамысловасьці* зьмяшчае ў сабе экспонаты амаль што ўсіх Віцебскіх фабрык і заводаў, менавіта: акулярнай, трыкатажнай, толевай, кардоннай, тэкстыльнай, ігольнай, табачнай, гнутай мэблі і заводаў—маслабойнага, скуранога і інш.

Значэньне апошняга Аддзелу, які мае непасрэдную сувязь з экономічным разьвіцьцём краіны, надзвычайна вялікае. Такі аддзел пры музэі ня толькі будзе дапамагаць, праз пастаянны агляд і вывучэньне сконцэнтраваных у ім продуктаў вытворчасьці і ўсіх дасягненьняў у гэтай галіне, удасканаленьню продукцыі нашай здабываючай і абрабляючай прамысловасьці, але будзе служыць яшчэ і зьвязваючым зьвяном з рынкам. Гэтая акалічнасьць, а таксама і тое, што ў цяперашнюю эпоху социялістычнага будаўніцтва, калі кожны музэй павінен займаць ня толькі ў навукова-асьветнай працы наагул, але і ў справе падняцьця нашай вытворчасьці і экономічнага разьвіцьця адно з першых месц, і калі музэі павінны быць праваднікамі і практычных ведаў у самыя шырокія колы працоўнага грамадзянства, прымушае нас разгарнуць Аддзел сучаснай прамысловасьці як найшырэй, тым больш гэта патрэбна дзеля таго, што Віцебшчына зьяўляецца адным з самых выдатных асяродкаў фабрычна-заводзкай прамысловасьці на Беларусі. Але на шляху далей-

шага разьвіцьця Аддзелу сучаснай прамысловасьці стаіць вялікая перашкода ў сэнсе памяшканьня. Справа ў тым, што цесната памяшканьня музэю не дазваляе разгарнуць гэты аддзел ува ўсёй паўнаце. Для гэтага патрэбен вялікі будынак. Такім будынкам мог-бы быць былы Усьпенскі сабор— гэты выдатнейшы помнік архітэктуры XVIII сталецьця, які стаіць зачыненым бяз усякай карысьці і развальваецца. Але, каб зрабіць Усьпенскі сабор „палацам працы“, трэба зрабіць грунтоўны рамонт, на які па каштарысе, зложаным мясцовым архітэктарам Кібардзіным, патрэбна 39.480 руб.

Старшыня ставіць на галасаваньне прапанову: унесьці ў рэзолюцыю пажаданьне:

а) аб звароце вывезеных з БССР музэйных скарбаў і б) аб адчыненьні пры ўсіх музэях БССР аддзелаў сучаснай прамысловасьці і высьвятленьні вытворчых сіл Беларусі.

Пасьля гэтага даецца слова для па-зачарговага дакладу дырэктару Менскай Дзяржаўнай Бібліотэкі Сімановускаму. Ён выходзіць з фактаў, што з межаў Беларусі ў розныя часы былі вывезены бібліотэчныя фонды, у якіх цяпер у БССР адчуваецца вялікая патрэба. Так, напрыклад, у 1900 годзе была вывезена ў Кіеўскую Дух. Акад. бібліотэка былой Полацкай Вуніяц. Сэмінарыі, у якой была значная колькасьць інкунабул, і цяпер гэтая бібліотэка зусім без ужываньня знаходзіцца ў Кіеве; таксама ў Кіеве ляжыць бібліотэка Храптовіча з Шчорсаў, якая была туды завезена ў 1922 г. М. Доўнар-Запольскім і часова зложана ў бібліотэцы унівэрсытэту; у Маскве пры б. Музэі Каладзеева 1812 г. ёсьць асобная невялічкая (да 700 нумароў) бібліотэка выключна па беларусазнаўству, якая вельмі патрэбна цяпер БССР.

Зьезд выказвае пажаданьне, каб пытаньне было ўнесена ў рэзолюцыю, якая будзе апрацавана прэзыдыумам.

Слова для навуковага дакладу даецца археолёгу проф. А. Сьпіцыну *аб Сучасным становішчы археолёгічных досьледаў аб Беларусі*“. Дакладчык выказаўся прыблізна гэтак аб выніках прац па археолёгіі Беларусі.

1. Аб эпосе палеоліту на Беларусі пакуль што маем адну зьвестку: дачка Е. Р. Раманава, якая жыве ў Мцэнску, прыслала ў Акадэмію Навук СССР дзьве пляншэты з вынаходкамі Раманава, якія ён лічыць палеолітам (з Горадзеншчыны і Віцебшчыны). Але гэта застаецца яшчэ пытаньнем.

2. Нэоліт займае шырокую паласу: ад Зах. Дзьвіны да Лепелю. На Бярозе шмат усялякіх прылад з крэмня: шліфаваныя, сьвідраваныя рэчы, стрэлы, скрабкі і інш. Але зроблены нядбала, асэмэтрычна. Найлепшымі зьяўляюцца колекцыі Шукевіча з дасьледваньняў у Віленскай губэрні. Гэта культура Літоўская.

Апошнія знаходкі Палікарповіча на ніжнім Сожы сьведчаць, што гэтая культура была пашырана па Сожы. Рэчы гэтай культуры пазнаць няцяжка: малаткі, напрыклад, маюць дзірку бліжэй да тульлі. Зроблены нядбала. Іх можна бачыць у значным ліку ў Менскім Дзяржаўным Музэі, дзе іх больш за 100 штук. Відавочна, што майстра браў першы трапіўшы ў рукі камень і рабіў малаток, або якую іншую рэч. Раманаў набраў гэтых малаткоў, зубіл і г. д. у Лепельскім павеце некалькі сот. У Барысаўскім павеце іх зьбіраў Авэнарыус. Шмат рэчаў гэтае культуры з Беларусі знаходзіцца ў Румянцаўскім музэі.

Багацьце гэтых вырабаў на тэрыторыі Беларусі бязумоўнае.

З поўдня гэтую культуру падпірае культура мікролітаў. У колах археолёгаў ідуць цяпер спрэчкі: старая гэта культура (Ефіменко), ці новая (Сьпіцын). У кожным выпадку, калі ставіць зьяўленьне славян з захаду, то абмінуць гэтае культуры немагчама: Вісла і Нова-Быхаў маюць агульныя адзнакі. Але ў Нова-Быхаве ёсьць нэоліт усходні. На поўначы ёсьць свой асобны нэоліт, ён прасочаны да Заходняй Дзьвіны, Дзясны і Уралу.

Нейкія адзнакі гэтай культуры можна бачыць у Нова-Быхаве на гліняных чарапкох (па складзе і колеры). Але па шнуравым орнамэнце тут ёсьць ужо адзнака меднага веку. Гэта культура даволі блізкая да Ноўгародзкай і позьняя па формах.

Пачынаючы з Бярозы йдзе іншая культура. На Прыпяці можна знаходзіць інвэнтар Харкаўскага тыпу.

3. Пасьля нэоліту—век **медны**. Ён таксама прадстаўлены ў Беларусі: знойдзены медны клін з асобнымі бакавымі вушкамі, меднае долата, бляшкі. Але прадметаў гэтае эпохі мала.

4. **Бронзавы** век мае больш вялікі інвэнтар: Наваградзкі меч, палова маленькага тапорыка ў Менскім музэі (падобны да Горадзенскіх знаходак каля Кнышына, 53 бронзавыя сякеркі знойдзены ў Калінаўцы-Касьцельнай); у Зыкаўцах, Менскага павету, знойдзены каменныя кісты. Сюды-ж трэба аднесьці раскопкі Мышанкова каля Любоніч (Лягонічы) Бабруйскага павету, дзе былі зложаны ў аднэй магіле крамнёвыя VI-VII веку малаткі, пакрытыя зьверху гаршком.

Такія знаходкі былі ў Хвойкі. У Галіцыі яны маюць адносіны да меднага веку.

Зыкаўскія і Любоніцкія знаходкі павінны сур'ёзна цікавіць археолёгаў. Кісты йдуць толькі з захаду і дзеля высьвятленьня пытаньня аб часе прыходу славян трэба вывучаць і дасьледваць Зыкаўцы.

5. Прыход славян на тэрыторыю Беларусі покуль што ня можа быць датаваны.

Пры славянах ужываліся каменныя малаткі Фацьянаўскага тыпу. Яны вельмі прыгожага вырабу. Яны прасочваюцца з Каргопалю да Бранску, на ўсход да Сулы, на захад да Ліфляндыі і Эзэлю. Гэтыя рэчы сустракаюцца на Беларусі: у Дабрынічах, Бабруйскага павету—шліфавальныя кліньні і малаткі; у вёсцы Забярэзіні каля м. Бакштаў, Ашмянскага павету. (Калі ў 1917 г. у нізіне акопваліся немцы—афіцэр-немец заўважыў сьлед каменнага веку і жыльля. Тут-жа быў знойдзены шкілет, прычым у руце чалавека быў каменны клін. Знаходка цяпер у Мюнхенскім музэі). Мастацкі па форме фацьян належыць да меднага веку.

У Менскім музэі ёсьць некалькі кліньняў заходняга тыпу. У параўнаньні з Літоўшчынай іх ня вельмі многа, але яны па большасьці з добрага крэмню і бакі не шліфаваны, а адбіты. Усе гэтыя рэчы з Менскага і б. Ігуменскага павету. Ідуць гэтыя рэчы з поўдня.

Далей, дзеля вырашэньня пытаньня аб часе зьяўленьня славян, патрэбен бронзавы інвэнтар, кісты, палі урнаў. Калі-б яны былі знойдзены, дык гэтым быў-бы вызначаны шлях па якім ішлі славяне.

6. Культура Гольштадзкая пакуль што ня выяўлена: няма ні могілак, ні палёў урнаў. Адзін паасобнік пустога ў сярэдзіне брасьлету знойдзены Сьпіцыным.

7. Культура Лётэн таксама застаецца ня выяўленай.

8. Пераходзячы да пытаньня аб зьяўленьні славян, трэба заўважыць, што Прыпяць зьяўляецца тым форпостам славянскай колёнізацыі, дзе іх больш усяго патрэбна шукаць. Такім чынам, беларускія археолёгі павінны вышукаць першыя сьляды славян на сваёй беларускай тэрыторыі. Для гэтага трэба шукаць палі урнаў, якія йдуць з Галіцыі праз Кіеўшчыну і Палтаўшчыну на Прыпяць. Яны могуць быць каля Нова-Быхаву, Рагачэву. Калі-б іх знайсьці, дык яны будуць ня літоўскія, а славянскія.

9. На Беларускай тэрыторыі знаходзяцца рэчы рымскай старасьветчыны: монэты, пярсьцёнкі з характэрным памаляваньнем (накавальня і сыцячка). Апроч таго, рымскія каралі—лігнітавыя дробныя, ці з шкла. У Пінскіх балотах знойдзены жалезны вызалачаны шлем. У ніжняй частцы Валынскай губэрні знойдзены шчыт з выпуклымі памаляваньнямі.

Той пэрыод, які йдзе паміж Гольштадтам і Рымскім, прыблізна да VI сталецьця, ў беларускіх cтарадаўніх помніках вельмі скупа прадстаўлены. Але гэта ня сьведчыць аб тым, што народ ня жыў. У Літве ёсьць амаль тысячалецьці бяз помнікаў. Гэтую пару трэба лічыць добрым часам, бо ён быў

пэрыодам організацыі жыцьця, выпрацоўкі вераваньняў, творчым пэрыодам.

У працягу VI—VIII сталецьця Літва зьяўлялася месцам для організацыі заходніх культур. Ад гэтага часу захавалася ажурная бронза з эмальлю чырвонага і зялёнага колеру, якая йшла з захаду ў Вэнэцыю. Яна ахоплівала Прыбалтыцкі край (Ліфляндыя) і пашыралася на ўсход. Па Прыпяці, па Нёмне гэтыя рэчы пашырыліся ў добрай колькасьці. Напрыклад, у Красным Бары знойдзены: срэбраны вобад у некалькі абаротаў, пакрыты бляшкамі з эмальлю. Яны знойдзены ў Дзяковым гарадзішчы на Палтаўшчыне і трэба спадзявацца, што іх можна знайсьці ў вусьці Прыпяці.

Больш позьнія літоўскія рэчы IX сталецьця (фібулы) пакрыты ўжо не эмальлю, а срэбнымі бляшкамі.

Літоўскі пэрыод VI—VIII сталецьця ў Беларусі—сьмелы погляд самога Сьпіцына. Падставай для яго зьяўляецца вялікі шэраг гарадзішч, якія праз усю Беларусь ідуць да Балтыцкага мора. Да ліку такіх належыць і Каўшараўскае гарадзішча на рацэ Сожы, у якім знойдзена кераміка шыпком і Рэгінянская культура (на Ковеншчыне). У той-жа самы час у Нова-Аляксандраўскім павеце на Ковеншчыне, у губэрні Віцебскай, Пскоўскай, Цьвярской і недалёка ад Смаленску йдуць удоўжаныя курганы, якія належаць да Літвы. Фінам яны невядомы. Шэраг рэчаў, якія належаць да літоўскае культуры VIII сталецьця, калі літоўцы жылі ў гэтых мясцох, грунтуе такі погляд.

Філёлёгі-літоўцы падмацоўваюць гэтую тэорыю, высьвятляючы шэраг назваў мясцовасьцяй і рэк Смаленшчыны, Віцебшчыны, Меншчыны і Магілеўшыны з літоўскае мовы. Напрыклад,—назва Лучэсы з літоўскага—быстрая (Буга, Шахматаў). Упа, па думцы Бугі, таксама літоўская.

Такім чынам, усе дасьледчыкі беларускае гісторыі павінны лічыцца з элемэнтам літоўскім. Літоўскія прысыпныя валы сустракаюцца на Орэдзежы (Ленінградзкай губ.). Элемэнт літоўскі існуе тут да VIII сталецьця.

10. Пытаньне аб тым, як стварылася беларуская народнасьць,—яшчэ ня мае адказу. Яна злажылася з розных элемэнтаў. Яе раньняе пахаджэньне прасачыць пакуль што нельга. Злажылася яна ў больш позьні час. Архэолёгі-ж будуць шукаць яе ў больш раньніх матар'ялах. У гэтым можа дапамагчы артыкул проф. Сьпіцына аб літоўскіх курганох, якія йдуць на захадзе па рацэ Віліі да Вільні ўключна. Культура гэта жалезная. Яна падобна гэтым да агульнаўсясьветнай культуры. Культуру гэтую можна знайсьці ў музэях Бэрліну, Кёнігзбэргу. Гэтыя музэі поўны знаходкамі гэтае культуры.

Медныя рэчы ў літоўцаў пакрыты срэбрам, напрыклад: літоўская грыўня X ст. (Менскі музэй). Шмат іх у Ленінградзе, Пскове, Цьверы.

Жалезныя рэчы: кап'ё, сякера, каралі сапфіравыя, гранчатыя або круглыя—усё з VIII-IX сталецьця (Менскі музэй), знойдзеныя шмат у якіх курганох Беларусі (знаходкі каля Радашковіч, у Менскім музэі)—даюць магчымасьць думаць, што тут маем культуру крывіцкую, бо ўдоўжаныя курганы—крывіцкія, і, такім чынам, паўстае пытаньне аб заходнім пахаджэньні крывічоў, як і ноўгародцаў.

У той час, калі украінцы прышлі з Карпат, беларусы іншага пахаджэньня—заходняга і перасунуліся на тэрыторыю, якую яны цяпер займаюць, у часы Карла Вялікага.

Крывіцкія курганы з захаду цягнуцца ў Віцебскую губ. і Пскоўскі край і адсюль ідуць на ўсход. У Віцебшчыне сустракаюцца курганы з трупаспаленьнем. Інвэнтару яны не даюць. Але яны вельмі раньнія. Напрамак іх да Пскову. Пахаваньне ў зрубох.

Трэба перагледзець раскопкі Завітневіча, Мышанкова, Авэнарыуса, а таксама і курганныя знаходкі. Магчыма тады адкрыецца, што там курганы якраз не IX-X сталецьця, а больш раньнія. Напрыклад, Менскі музэй дае права думаць, што крывіцкія старажытнасьці маюцца тут бязумоўна: такімі зьяўляюцца Заслаўскія знаходкі. Крывічы пасоўваюцца да Пскову і Ноўгараду, куды яны зьявіліся шэрагам народных хваляй з Нямеччыны. У гэтых беларускіх курганох адбіваецца час Карла Вялікага.

Асноўным элемэнтам беларускага народу зьяўляюцца драгавічы. Час іх зьяўленьня на тэрыторыі Беларусі застаецца вялікім пытаньнем, але для XI сталецьця ёсьць адказ. Яны сядзяць па Прыпяці, Бярозе. Шмат да (600) драгавіцкіх курганоў раскапаў Завітневіч. Атрымана добрая колекцыя і дзеньнікі раскопак. У драгавічоў пахаваньне адбываецца ў церамкох: драўляны зруб у некалькі вянкоў і страха з 2 скатамі. Знаходка цьвікоў упэўняе, што і драгавічы хаваліся ў зрубох. Пры гэтым клаўся ў церамок агонь, згараў кавалак трупу і іншае, што там было, покуль было паветра і не абсыпалася зямля кургана.

Ад драгавічоў іх інвэнтар ідзе праз Валынь і Кіеўшчыну да палякаў і драўлян. Рэчы характэрныя для драгавічоў: малыя вісочныя кольцы і вялікія філігранныя бусы.

Такім чынам, драгавіцкія курганы таго-ж тыпу, што і крывіцкія.

Трэці элемэнт у складзе беларускага народу—Чорнае Русі, як то можна ўбачыць з курганоў Горадзеншчыны (раскопкі Дубінскага). Курганы з спаленьнем зьмяняюцца

тыпам каменных магіл, якіх у Горадзеншчыне шмат. Каменныя магілы выступаюць у XI сталецьці. Росквітам для іх зьяўляецца XII-XV сталецьце. У Віленскім краі яны раскопаны Шукевічам.

Элемэнты Чорна-Рускай стыхіі знаходзяцца ў Бабруйскім павеце і прытым аднолькавыя. Мы гэта знаходзім у Завітневіча.

Што датычыцца радзімічаў, дык яны падыходзілі на беларускую тэрыторыю з усходняга боку Дняпра. Верагодна, што ў старыя часы радзімічы ня мелі адносін да беларусаў.

Пры беларускіх раскопках сустракаюцца рэчы, якія дапамагаюць вызначыць дату археолёгічных знаходак: гэта манэтныя клады, і гэтым матар'ялам трэба як найбольш карыстацца.

---

Заслухаўшы навуковы даклад проф. А. Сьпіцына, Зьезд выказвае яму падзяку і пераходзіць да заслуханьня і галасаваньня апрацаваных прэзыдыумам рэзолюцый і прымае іх.

Пасьля агалашэньня і прыйма Зьездам рэзолюцый старшыня Зьезду проф. М. Доўнар-Запольскі зварочваецца з прамовай, у якой адзначае, што паступіла пропозыцыя аб звароце да ўлады БССР з выразам пачуцьцяў падзякі ад імя Зьезду за тое, што толькі дзякуючы Савецкай уладзе пытаньні аб гісторыі беларускага грамадзянства і беларускай археолёгіі атрымалі магчымасьць быць прадметам грамадзянскай працы Зьезду. Удзельнікі Зьезду ў адзін голас падтрымліваюць пропозыцыю і просяць аб уключэньні гэтае падзякі ў протокол Зьезду.

Пасьля гэтага Зьезд зачыняецца а 23 гадзіне 18 студзеня 1926 г.

Сакратары Зьезду: *Д. Даўгяла, В. Дружчыц, М. Мялешка. І. Сербаў.*

---

Проф. М. Доўнар-Запольскі.

# Старыя Беларускія архівы за межамі БССР.

## I. Старыя Беларускія архівы ў РСФСР.

*(Кароткі пералік).*

### 1) У Публічнай бібліотэцы Ленінграду.

Я займаўся ў гэтай бібліотэцы ў 90-х гадох і вельмі кароткі час. Маім заданьнем было знайсьці кнігі Скарбовай Мэтрыкі Літоўскай. Значыцца, толькі выпадкова я рабіў некаторыя нататкі. Гэтыя нататкі паказваюць, як багата Публічная бібліотэка на матар'ялы для гісторыі Беларусі. Матар'ял гэты самага рознастайнага паходжаньня. У тым ліку павінны быць і кнігі Мэтрыкі, бо частка іх перададзена Публічнай бібліотэцы ў часы Кацярыны II (Летапіс заняткаў Археограф. Камісіі. Вып. V, протоколы, стар. 35. СПБ. 1871 г.).

Каталёгі бібліотэкі, як вядома, прынамсі па аддзелах чужаземных кніг, складзены вельмі нядбала і ў даўні час. Апісаньня дакумантаў няма, а ў кнігах ёсьць толькі кароткія зьместы кніг, або проста надпісы.

Вось некалькі ўспамінаў з маіх заняткаў у гэтай бібліотэцы.

I. Лацін., F. II, № 149. Зборнік агульных прывілеяў Вялікага Княства Літоўскага. Пад загалоўкам (кінаварам) Confirmatio generalis privilegiorum et statutum M. D. L. per seren. Sigismundum Augustum.

Пачынаецца пацьвярджальная грамата Жыгімонта Аўгуста, у якой бакі вельмі абарваныя. У пацьвярджэньнях ёсьць:

Ліст 1 на адвароце—2. Гарадзельскі прывілей 1413 г.

Л. 2 Б на адв.—3 на адв. Грамата Жыгімонта Кейстутавіча 1434 г. Трокі.

Л. 3 на адв.—6 на адв. Прывілей Казімера 1457 г.

Л. на адв.—13. Грамата Аляксандра 1492 г. Вільня.

Л. 12. Грамата Жыгімонта I—1522 г.

Л. 13—14. Грамата Жыгімонта I Віленскаму ваяводзе Канстантыну Іванавічу Астроскаму 1522 г.

Л. 14—16. Яго-ж грамата аб абраньні на княства Жыгімонта II Аўгуста 1529 г.

Л. 16—20. Яго-ж, 1522 г. (?) аб жаданьні баронаў і шляхты абраць Жыгімонта II Аўгуста.

Л. 20 на адв.—28. Яго-ж грамата 1529 г., пацьвярджэньне правоў Вялікага Княства Літоўскага.

Л. 28—31. Яго-ж пацьвярджэньне грамат Ягайлы і Вітаўта 1529 г.

Л. 31—51. Прывілей Жыгімонта Аўгуста 1547 г. з пацьвярджэньнем усіх папярэдніх прывілеяў.

Прывілей, пацьверджаны клятвай на эвангельлі in conwentione generali Wilnae feria secunda ipsa die S. Valentini (14 лютага) 1547 г.

У канцы ёсьць прыпіска, што гэты прывілей пацьверджаны ў 1551 г. на сойме.

Л. 52. Прывілей Жыгімонта Аўгуста на беларускай мове (усе папярэднія на лацінскай) 1553 г.

Л. 55. Яго-ж аб пацьвярджэньні 2-га статуту ў Бельску, 1564 году. (Аб абраньні камісіі для складаньня 2-га статуту).

Л. 41 (Пагінацыя падвойная). Яго-ж прывілей у Бельску, 1566 году, зацьвярджэньне 2-га статуту.

Л. 41 на адв. Аб зраўнаньні ў правох праваслаўных з р. каталікамі.

Л. 47—49 на адв. Агульнае пацьвярджэньне правоў 1558 году 21 сьнежня ў Воіне.

Л. 49 на адв. Аб згодзе Літоўскае Рады і Ізбы на вунію, 1 ліпня 1569 г.

Л. 56 на адв. і наступ. Пацьвярджальная грамата караля Стафана Баторага.

Усе гэтыя граматы канчаюцца лістом Стафана Баторага з яго подпісам і пячаткай. Відавочна, гэта афіцыяльны паасобнік пацьвярджальнае прысяжнае граматы.

II. У бібліотэцы я сустрэў шэраг статутаў. Вось прымечаныя мною паасобнікі:

Рус. F. II, № 95 і Рус. I. II, № 187. Статуты 1588 году, пісаныя ў XVIII сталецьці На апошнім ёсьць такі надпіс: „Сей статут Переяславского городового магістрата секретаря Герасима Григорьева, сыном боярина, трудом и старанием его собраной і собственным ево коштом переплетенный 1789 г.“

Поль., F. II, № 9. Regestr statutu W. X. Lit. rozdziałów czternaście, którym się sądzą województwa Kijowskie, Wołyńskie y Bracławskie y powiaty, do nich należące, wydany w Wilnie roku 1566.

Гэты статут — відавочна, скарочаны пераклад статуту 1566 году. На лісьце 93 на адв.—95 на адв. ёсьць паправы статутавыя на сойме Берасьцейскім 1566 г.: арт. 14 раз. 3; арт. 1, 2, 3, 4 раз. 7; арт. 23 раз. 3. Паправа на сойме Горадзенскім: л. 95 на адв.—97. Сьледам за арт. 27, л. 96 на адв.—97, ідзе наступнае:

Roz. 4, art. 20: „A co w rozdziale czwartym, artykule 20 postanowiono y opisano,—że ten, który będąc pozwany do urzędu zamkowego, albo dworu naszego o rzeczy zamkowemu sądowi należące y w tymże artykule mianowicie wyrażone, a za niestaniem swoim do prawa na rok pozwany był by, wywołany nie miał hospodarskiego podniesienia na takowe wywołanie dawać, ażby się pierwiey obwiniony z stroną żałobliwą rozprawił. My, obaczywszy, że tem artykułem zagrodziła się niepomału sprawiedliwość ludzka, przeto na teraźniejszem walnem wielkiem seymie Grodzieńskim, w roku teraźniejszym idącym 68, namówiwszy się o tem z ich mościami pany radami naszemi stanu duchownego y świeckiego, ten artykuł 20 poprawili y tak, to mocą seymu teraźniejszego uchwaliwszy, wprzód ustawujemy i chcemy mieć, że każdemu z poddanych naszych jakiego kolwiek stanu y w którym kolwiek uczynku s tych na sąd grodzki wyjętych y w onym że artykule 20 pomienionych obwinionemu, który za nieposłuszeństwem, a niestaniem swoim tak przed majestatem naszym hospodarskim, jako i przed urzędom naszym zamkowym y dwornym po temuż wyroku y za roskazaniem naszym wedle opisania tegoż artykułu 20 wywołan był, tedy hospodar takowym wywołancom mamy podniesienie na wywołanie y listy nasze gleytowe ku sprawie z zamierzeniem na to pewnego czasu dawać, aby się za gleytem naszym tego, w czym kto obwinion, sprawował przed urzędem naszym onego województwa, albo powiatu, gdzie się początek tey sprawy stanie...

Далей ідзе арт. трыбунала Валынскага і Брацлаўскага 1569 г., л. 27 на адв.—87.—Паправа Варшаўская 1578 г., л. 107.

Пад статутам подпіс папольску: Міхайла Гарабурда, пісар.

Поль., F. II, № 36. Statut Wołyński i Wielkiego Xięstwa Litewskiego.

Вельмі прыгожы паасобнік з загалоўкамі кінаварам і з напісамі на палёх з паказаньнем адпаведных артыкулаў. У канцы кніг прыпісаны: „паправы статутавыя на сойме вальным Варшаўскім 1578 г.“ л. 153—162 на адв. Спосаб правоў трыбунальскіх на сойме Варшаўскім 1581 г., л. 162 на адв.—168.

Абодва гэтыя статуты, магчыма, ёсьць пераклады з другога статуту на польскую мову. Як відаць (кажу з многімі

абмоўкамі), рукапіс № 36 ёсьць дакладны пераклад. Але рукапіс № 9 мае скарачэньне, прынамсі няма поўных загалоўкаў.

Перакладаў статутаў ёсьць яшчэ некалькі. Напр., Поль. F. II, № 21. Рус. 3, II, № 51. Статут 1529 г.

Лацін., II, № 174. Лацінскі пераклад статуту 1566 г. на 196 лістох.

III. Вось яшчэ некалькі ўваг адносна дакумантаў, якія тут сустрэліся.

Поль., F. IV, № 253. Збор падымнага 1567 г. ёсьць і каронныя дакуманты.

Поль., F. IV, № 116. Пасольства ад Рад Каронных праз пана Валентага Дзямбінскага, Пётру Мышкоўскага, Мікалая Лысакоўскага, Станіслава Чарыкоўскага,—паслоў ад усіх станаў да Рад і ўсіх станаў Вялікага Княства, па Малдаўскіх справах, 1567 г. Уся кніга—зборнік розных дакумантаў.

Рас., F. IV, 258. Апісаньне розных манускрыптаў у мэтрычных актах, якія знаходзяцца для даведак па справах Сэнату і разьмешчаны па частках пад загалоўкам: папскія буллы і г. д. Гэта пералік паасобных актаў.

Поль., F. II, № 12. Люстацыя Вялікага Княства Літоўскага і акты конфэдэрацыі Торнаградзкай 1715 г.

Поль., F. II, 37. Інзэнтар каронных констытуцый і літоўскіх Лядоўскага.

Поль., F. IV, № 43. Рэестры кніг Смаленскіх актаў.

Поль., F. IV, № 87 Рэестр падымнага пагалоўнага Ноўгародзкага павету 1667—1674 г.

Поль., F. IV, № 110. Лічба падскарбія земскага Яроша Валовіча 1604—1615 г. г.

Поль., F. IV, 159. Попіс войска 1561 г.

Поль., F. IV, № 181 і 182. Лісты да Аляксандра Хаткевіча.

Поль., F. IV, № 183. Лісты фаміліі Радзівілаў 1548—1689 г. г.

Поль., F. IV, № 184—223. Копіі з Радзівілаўскага архіву ў Несьвіжы.

Поль., O. IV, № 3. Земскія літоўскія ўрады, сьпісаныя рукой Залускага.

Поль., 18, F. № 11. 9 фоліянтаў лістоў Чартарыйскага па кіраўніцтве Віленскай Акадэміяй 1803—1824. Сюды-ж усе №№, да 17 і далей кнігі Адукац. Камісіі і Віл. Унів.

Розн., F. VI, № 90. Перапіс войска Польскага і Вялікага Княства Літоўскага.

Розн., F. IV, № 97. Тэкі каралеўскія,—заслугоўваюць, зразумела, уважлівага вывучэньня.

Розн., F. IV, № 143.—Кодэкс Догеля, рукапісная частка. Значэньне гэтага збору агульна вядома.

Розн., F. IV, № 169, на лл. 64—дакуманты вуніі 1544 г.

Рас., F. в. № 42. Копія рэвізіі Берасьцейскага староства 1566 г., на 305 л. з Радзівілаўскай бібліотэкі.

Тое-ж, № 85. Выпісы з Радзівілаўскага архіву.

Рас., F. с. IV, 80. Кніга Полацкага павету 1578 г.

Тое-ж, № 107. Летапісец Літоўскі; таксама № 152: кароткае апісаньне хронікі Польскай і Літоўскай. Да гэтага-ж мае адносіны № 214 і № 215. № 372—Літоўская і Жамойцкая хроніка.

Лацін., F. IV, № 166. На 5 лл. Пералік урадавых асоб В. К. Літоўскага.

Лацін., F. IV, № 177. На 192 л. Розныя акты адносна Літвы і Курляндыі.

Лацін., F. IV, № 162. Зборнік, у якім на л. 504: Articuli constitutionum bellicorum M. D. L. in comitis generalibus constituti a supremoque copiarum imperatore Hreh. Chodkewicz confirmati.

У Публічнай Бібліотэцы я мог прымеціць толькі вельмі нямногае, бо кароткі час займаўся ў ёй. Усё-ж такі відаць, што тут павінна быць шмат дакумантаў, якія адносяцца да Беларусі, не гаворачы ўжо аб копіях Радзівілаўскага архіву.

IV. Магілеўскі летапіс Трубніцкага. На польскай мове. Ёсьць зьвесткі ад найдаўнейшых часоў да 1864 году. Пад гэтым годам запісаны ўжо на расійскай мове зьвесткі аб страшэннай навальніцы ў Магілеве ў сакавіку 1864 г. а 9 гадзіне ў вечары. У канцы летапісу знаходзіцца пераклад з нейкай францускай гісторыі швэдзкай рэволюцыі, надрукаваны ў 1701 г., і подпіс лацінкай: Пісаў Георгі Трубніцкі, году 1747.

Рас., F. IV, № 107. (З бібліотэкі графа Толстога І, № 443). Агульны загаловак кнігі: „Летописания о Рождестве Г. Н. Иисуса Христа и о царствах Греческих, Римских, Российских и о Литовских княжествах написася о сих из книг Малороссийского языка в царствующем граде Москве лета от сотворения мира 7196, от Рождества же Бога Слова 1685“. Усіх лістоў 330. У пачатку хронограф грэцкага тыпу. Потым, пасьля хронографу, з новай пагінацыяй славянскай, ідзе Літоўскі летапіс. Загаловак такі—„Летописания о Российском народе Смоленском, о великом Царстве Московском и о польском государстве, о войнах и незгодах, между ими бывших, написася в Москве, царствующем граде, в лето от начала мира 7196 а от Рождества Христова 1686“. Усіх лістоў летапісу 152 і адзін ліст у канцы без нумарацыі. Рука тая-ж, што і ў першай частцы—прыгожы „полуустав“ XVII стагодзьдзя. Летапіс даведзены да 1587 году.

Рас., F. IV, № 372. Яшчэ рэдакцыя таго-ж летапісца 484—570 лл. Канчаецца 1588 годам.

Рас., F. IV, № 152 (з збору Толстога І, № 192). „Краткое описание кройники польской". Напісаньне (почерк) беларускае канца XVI, пачатку XVII сталецьцяў.

Рас., F. IV, № 215. Летапіс 1681 году, Галіцкі. Усіх лістоў старой славянскай нумарацыі ў першай частцы 388 і ў другой 288. Навейшая нумарацыя бібліотэкі 675 лістоў. Лл. 365—388 Літоўская хроніка. На лісьце 389 новай нумарацыі сьпіс хронографа.

Рас., F. IV, № 214. (З бібліотэкі Толстога І, № 145). Хронограф на лл. 496—518. Літоўская хроніка да 1534 году.

**2. У архіве былога „Галоўнага Кіраўніцтва Зямляробства і Зямлябудаўніцтва" [1]) ў Ленінградзе.**

У гэтым архіве мноства спраў, якія адносяцца да Беларусі і яе лясных багацьцяў—справаздачы, перапіска, пытаньні кіраўніцтва. Тут трэба пашукаць і дакументы перад падзелам, дзеля характарыстыкі нашых старых лясных багацьцяў. Архіў гэты быў вядомы вельмі мала. Гэта быў аграмадны склад папер, у якім бадай што ня было службовага пэрсоналу. Меўся архіварыус, які, часам, прыходзіў на адну гадзіну з іншае пасады.

Але ў гэтым архіве, апроч спраў лясных па пытаньнях сялянства, г. зн. спраў па кіраўніцтве дзяржаўнымі маемасьцямі, пасьля далучэньня Беларусі, быў паасобны архіў даўнейшых грамат і іншых матар'ялаў. Гэта архіў паезуіцкіх фундушоў. Гэты архіў першапачаткова быў Міністэрства Народнае Асьветы, бо паезуіцкія фундушы перададзены былі на справу асьветы. Потым архіў быў перададзены Міністэрству Зямляробства.

У канцы 90-х гадоў паезуіцкі архіў зьяўляўся архівам, які займаў усю сьцяну ад падлогі да столі. Былі кнігі і зьвязкі паасобных дакумантаў. Ён ня быў апісаны. Чытаць яго ніхто ў архіве ня мог. Мне прышлося самому зьнімаць з паліц зьвязкі і, наўдачу, іх разгледжваць. Зразумела, ад гэткіх разьведак многа застацца не магло. Сёе-тое я адзначыў для сваёй дысэртацыі, над якой я тады працаваў. Потым засталося толькі агульнае ўражаньне. Тут былі па кожным маёнтку падабраныя дакументы, даравальныя, купчыя і жалаваныя, у арыгіналах. Відавочна, рабілася так: калі езуіты атрымлівалі які-небудзь маёнтак, дык яны старанна падбіралі і ўсе папярэднія дакуманты аб правох на гэты маёнтак, тут-жа былі і інвэнтары. Пазьнейшыя судовыя акты і інвэнтары таксама далучаліся ў гэтыя папкі. Дзеля гэтага, часта дакуманты ўсходзяць да XIV—XV сталецьцяў.

---

[1]) Главного Управления Земледелия и Землеустройства.

зьвязкі складаюцца з масы пэргамінавых грамат з пячацямі. Гэта адзіны аграмадны збор.

Апроч грамат і інвэнтароў тут ёсьць маса дакумантаў, якія датычацца да паезуіцкіх калегій. Кожная калегія вяла дзеньнікі, або летапісныя нататкі, якія асьвятлялі дзейнасьць установы. Гэта вельмі цікавыя матар'ялы. Я разглядаў дзеньнікі Полацкай калегіі, дзеньнікі Смаленскай конгрэгацыі. Сустракаюцца матар'ялы, якія апісваюць гарадзкія фундушы езуітаў. Напрыклад, памятаю адну зьвязку з апісаньнем пляцоў і будынкаў у Смаленску, Белай Царкве, Пераяслаўлі і іншых гарадох. Топографічна гэтыя дакуманты адносяцца пераважна да Ўсходняй Беларусі.

**3. У былым архіве Міністэрства Замежных Спраў у Маскве.**

Як вядома, пры Кацярыне II Мэтрыка Літоўская была падзелена на дзьве часткі, з якіх адна адаслана ў Сэнат, а другая частка, якая адносілася да дачыненьняў Польшчы і Літвы з чужаземнымі дзяржавамі, перададзена ў Калегію Замежных Спраў. Гэтую справу выконваў Папоў. Адпаведны акт быў зложаны асаблівай камісіяй у 1794 г. Пры гэтым падзеле да Калегіі Замежных Спраў адышло: 21 кніга Каронпае Мэтрыкі, 7 кніг Літоўскае, 19 тамоў кніг рознага зьместу і 62 картоны паасобных аўтэнтычных грамат. У 1828 годзе ўсе гэтыя кнігі былі перададзены дзеля захаваньня у Галоўны Архіў Міністэрства Замежных Спраў.

Фактычна Камісія адбірала кнігі даволі выпадкова. Гэта тлумачыцца тым, што ў Мэтрыцы ня было асобнага аддзелу пасольскіх кніг. Выпадковасьць падзелу Мэтрыкі Літоўскай была заўважана ў 1869 годзе. Асобная Камісія з дырэктара Джяржаўнага Архіву Жлобіна, намесьніка дырэктара Публічнае Бібліотэкі Бычкова і профэсара М. Каяловіча ізноў пераглядала гэтае аддзяленьне Мэтрыкі. Было прапанавана злучыць усю Мэтрыку ў адзін архіў пры Публічнай бібліотэцы. Даклад Камісіі быў ухвалены, але ня быў выкананы, галоўным чынам з прычыны протэсту архіву Міністэрства Замежных Спраў, які мог, протэстуючы, прывесьці той адзіны аргумант, што архіў зрабіў шмат новых шаф, на якія дзяржава патраціла сродкі.

У перадваенныя часы ў архіве хавалася: 36 кніг Каронпае Мэтрыкі, 5 кніг і 1 зьвязка, як відаць, тае-ж Мэтрыкі, перададзенай у вархіў у 1875 г., 13 кніг Літоўскае Мэтрыкі, 110 кніг з ліку кніг, вядомых пад назваю кніг „Непременного Совета", і кнігі спраў.

Апошнія кнігі трапілі ў архіў, відавочна, у пазьнейшы час. Апроч гэтага, тут хаваліся паасобныя дакуманты, сьпіс

якіх невядомы. У вархіве старая нумарацыя (па літарах) была заменена новай.

Прывяду некаторыя паказаньні зьместу кніг. У Каронных кнігах ёсьць шмат спраў, якія адносяцца да Беларусі:

Кніга № 2, на лісьце 8 на адв.—10 на адв., 27 на адв.—29 на адв., 31—33, 46—49, 49—50 знаходзіцца перапіска літоўскіх магнатаў з польскімі.

№ 3, лл. 63—66, адрывак на лацінскай мове з радаводнай Ягайлы і Вітаўта; лл. 87—89 на адв. ленная прысяга вялікага князя Сьвідрыгайлы Ягайлу і грамата аб перадачы Кіеўскае зямлі Сьвідрыгайлу і іншыя граматы; лл. 27—61 дакуманты, прамовы і пастановы провінцыяльных соймікаў у Петракове, Пазнані, Парчове і Корчыне.

№ 4, л. 10, Інструкцыя 1512 году, разасланая з Кракаўскага сойму; л. 14 на адв. пацьверджаньне вуніі Літвы з Каронай.

№ 5, л. 99 на адв.—ліст Жыгімонта I да Мікалая Радзівіла 1519 г.; л. 102—ліст яго-ж Радзе Літоўскай пра Маскоўскія справы.

№ 7, л. 105. Разьлік мытаў, якія браліся на Ковенскай мытніцы.

№ 9, л. 243 на адв.—ліст Жыгімонта I да біскупа Віленскага аб нязгодах сярод віленскіх манахаў.

№ 10, л. 81 на адв.—пералік тавараў на малым Камянецкім замку, якія прайшлі 10 мая 1741 г.

№ 14, л. 95—да пытаньня аб вуніі Літвы з Каронай.

№ 18, уся кніга адносіцца да Люблінскай вуніі 1569 г.

Я падаў не апісаньне кніг, а толькі выняткі, выпадковыя паказаньні.

Сярод кніг „Непременного Совета“ сустракаем кнігі, якія характарызуюць дзейнасьць Вярхоўнага Савету (№№ 153, 161, 194 па старой нумарацыі), і адносяцца да Адукацыйнай Камісіі (напр., № 200), да Ваеннага Кіраўніцтва (№№ 158, 163, 198, 199), справы судовыя, справы гораду Варшавы, справы Мэдычнага Кіраўніцтва, справы Паліцэйскага Кіраўніцтва. Усё гэтае, зразумела, не адносіцца да гісторыі Беларусі.

Папярэднія нататкі кажуць толькі аб тым, што ў кнігах Кароннае Мэтрыкі, а тым больш у кнігах „Непременного Совета“ і іншых навейшых ёсьць шмат матар'ялаў, якія адносяцца да гісторыі Беларусі. Дзеля гэтага мы, на ўсялякі выпадак, больш дэтальна пералічым №№ кніг і гады, да якіх яны адносяцца.

## Пасольскія кнігі.

| | | | |
|---|---|---|---|
| 1. | А. | 1502 г. | л. 173 |
| 2. | В. | 1503—1504 | „ 66 |
| 3. | С. | 1512 г. | „ 145 |
| 4. | Д. | 1513 „ | „ 178 |
| 5. | Е. | 1517 „ | „ 377 |
| 6. | | 1537 „ | „ 236 |
| 7. | | 1539 і 1544 г. | „ 253 |
| 8. | Н. | 1539 г. | „ 315 |
| 9. | | 1540 і 1542 г. | „ 266 |
| 10. | | 1540 | „ 24 |
| 11. | | 1542 | „ 188 |
| 12. | М. | 1548 і 1550 г. | „ 306 |
| 13. | | 1548 і 1549 „ | „ 111 |
| 14. | О. | 1551 і 1557 „ | „ 395 |
| 15. | | 1552 і 1558 „ | „ 717 |
| 16. | | 1557 і 1559 „ | „ 258 |
| 17. | | 1557 і 1559 „ | „ 70 |
| 18. | | 1559 | „ 93 |
| 19. | | 1569 | „ 90 |
| 20. | | 1569 і 1570 | „ 348 |
| 21. | | 1569 | „ 424 |
| 22. | (21) | 1577 і 1578 | „ 327 |
| 25. | (23) | 1524 і 1525 | „ 26 |
| 26. | (31) | 1633 і 1634 | „ 721 |
| 27. | ВО | 1649—1666 | „ 115 |
| 28. | (25)ВС | 1669—1673 | „ 566 |
| 29. | (26) | 1568 | „ 39 |
| 30. | | 1619 | „ 386 |
| 31. | | 1625 | „ 129 |
| 33. | | 1636 | „ 60 |
| 34. | | 1713—1714 | „ 668 |
| 35. | (32) | 1742—1745 | „ 144 |
| 36. | | 1758—1759 | „ 73 |
| 37. | (23) | 1526 і 1528 | „ 440 |
| 38. | (27) | 1596 і 1600 | „ 147 |
| 39. | (28) | 1609 і 1612 | „ 400 |
| 40. | (29) | 1618 | „ 167 |
| 41. | | 1644—1650 | „ 80 |
| 42. | | 1650 і іншых гадоў. | |

Нарэшце, пералічу кнігі Літоўскае Мэтрыкі таго-ж архіву:

№ 1. перапіска між Іванам III і Казімерам 1488 году.

№ 2. 1517—1538 г., перапіска між Масковіяй і Літвой.

№ 3. 1534—1538 г. г., копіі рэляцый літоўскіх паслоў у Маскве.
№ 4. 1545—1582 г. г.
№ 5—6 належаць да 1581 году.
№ 7—8 належаць да 1585—1595 г. г.
№ 9—10. 1610—1611 г. г.
№ 11—да 1647 г., перапіска Яна Казімера з Масквой.
№ 12—13. Трактат 1681 г.

Сярод пасольскіх кніг трапілася адна кніга з Скарбовае Мэтрыкі. Яна выдадзена мною ў друку. (Изв. Тавр. Уч. Арх. Ком.).

### 4. У розных архівах Ленінграду.

*Архіў заходня-рускіх вуніяцкіх мітрополітаў* знаходзіцца пры былым архіве Сыноду. Ён датычыць ня толькі вуніі, бо ў ім ёсьць шмат матар'ялаў і перад-вуніяцкіх. Ёсьць друкаванае апісаньне гэтага архіву[1]). Гэтае апісаньне дакумантаў пачынаецца з 1478 году. Гэта адзін з найважнейшых архіваў па гісторыі Беларусі, ня толькі па рэлігійна-культурным пытаньні, але і па экономічным, бо тагочасная царква была, перш за ўсё, моцна зьвязана з сьвецкаю справаю ўладаньня маёнткамі.

*Ваенна-навуковы архіў б. Галоўнага Штабу.* Ёсьць друкаваны каталёг, з якога відаць, што ў гэтым архіве і ў бібліотэцы былога Галоўнага Штабу ёсьць шмат архіўных матар'ялаў, якія паступілі з тэрыторыі Беларусі.

*Архіў Археографічнае Камісіі,* у якім, паводле надрукаваных „Летапісаў Заняткаў" і ў „Протоколах" гэтае камісіі, сабраны ў розныя часы з Беларускіх архіваў шмат каштоўных рукапісаў і матар'ялаў да гісторыі Беларусі.

## II. Старыя Беларускія архівы ў Польшчы.

*(Кароткі пералік).*

### 1. Архіў Варшаўскае Казённае Палаты.

Гэта надзвычайна багаты архіў. Дзяржава, якая ніколі ня мела грошай, у якой ніхто не хацеў плаціць падаткаў, вельмі старанна, аднак, вяла свае прыхода-расходныя запісы. Да нашых часоў захавалася маса кніг.

У часе маіх заняткаў архіў яшчэ ня быў апісаны. Падзел на аддзелы і нумарацыя былі старыя, так што аддзелы адрозьніваліся колерам ярлыкоў. Зразумела, праз 100 з лішнім год колеры зьмяніліся, чаму знаходзіць і парадка-

---

[1]) Описание документов архива западно-русских униатских митрополитов, т. I—II.

ваць кнігі было справаю цяжкаю. Апісы мелі вельмі агульны характар. Я працаваў тры разы ў гэтым архіве і пераглядзеў кнігі проста на паліцах. Разумеецца, гэтакі спосаб даў мне магчымасьць, параўнальна з адзнакамі каталёгу, знайсьці вельмі многае, але з другога боку, зразумела, шмат чаго я мог і не дагледзець.

Лічу небескарысным прывесьці перш за ўсё кароткае апісаньне гэтага архіву.

Аддзел I. Кнігі паборавыя, мануалы і інш. 1494—1775 г.г. Усіх 177 №№. Сярод іх адзначым: № 31, які датычыцца Валынскае зямлі. № 32—тэй-жа зямлі і зямлі Кіеўскай. № 47 адносіцца да Падляхіі. № 64 рэестр даходаў (провэнтаў) з Ліфляндзкіх замкаў: Ібэрполю, Трэйдэну, Фэліну і Дэрпту, 1588, 1589 і 1590 г. г. Справаздачы аб падатках, якія паступілі з Валынскага ваяводзтва, справаздачы аб паступленьні падаткаў з Вялікага Княства Літоўскага 1578—79 г. г.

№ 69. Рэестры субсыдый—харытатывум розных ваяводзтваў.

№ 70. Тое-ж Падляскіх ваяводзтваў.

№ 71. Тое-ж Валынскага ваяводзтва.

№ 89. Рэестр замковых падаткаў на маёнткі ў розных ваяводзтвах. 1577 г.

З № 98 і далей ідуць рэестры кварты ў розных каронных ваяводзтвах з 1566 г. і інш.

№ 111. Падлік зборшчыкаў падаткаў Вялікага Княства Літоўскага 1565—1569 г. г. №№ 118, 122. Тое-ж за 1577 г. і 1582 г. № 124. Рэестр падаткаў на сьпірытусавыя напіткі 1582—1583 г. г. № 176. Справаздача аб прыбытках і выдатках за 1616 г.

Аддзел II. Першыя нумары кніг ёсьць разрахункі з сборшчыкамі падаткаў. № 25—29 справаздачы аб паступленьні дзяржаўных прыбыткаў 1567—1580 г. г.

Аддзел III. № 1—4. Рахункі прыбыткаў і выдаткаў караля. Усіх кніг 10,—1597, 1599 г. г. У № 3 на л. 576 рэестр упамінкаў, перададзеных цару Крымскаму праз Аляксандра Ўладыку.

Аддзел IV. Квіты розных асоб аб узносе падаткаў; паасобныя квіты, злучаныя ў форме рэестраў. Усіх 51 №№. Між іншым № 41 аб узносах падаткаў з Падляскіх ваяводзтваў.

Аддзел V. Квіты аб прыбытках і выдатках з 1502 да 1567 г., усіх №№ 18.

Аддзел VI. Асыгноўкі на водпуск з кароннага скарбу розных сум, квіты аб атрыманьні, з 1503 да 1784 г., усяго 28 кніг.

Аддзел VII. Ведамасьці, журналы, дзеньнікі, якія датычацца даходаў і расходаў кароннага скарбу, з 1764 да 1777 г. Усяго 77 кніг.

Аддзел VIII. Справаздачы і запісныя акладныя кнігі (тарыфы), лічачы іншыя паперы, якія датычацца кварты і інш., з 1569 да 1692 г., 246 кніг.

Аддзел IX. Інвэнтары каралеўскіх маёнткаў і справаздачы за XVI ст. 61 кніга.

Аддзел X. Рэестры, справаздачы, ведамасьці і інш. на кварту і рэестры пазямельнага падатку 1650—1796 г. г., 20 кніг.

Аддзел XI. Рэестры генэральнага і пагалоўнага і субсыдыум-харытатывум ад духавенства 1662—1793 г. г., усяго 47 кніг.

Аддзел XII. Адносіцца да Пазнанскай і іншых мытніц вялікае Польшчы, 1549—1695 г. г., усяго 85 кніг.

Аддзел XIII. Мытніцы Малой і Вялікай Польшчы 1509—1738 г. г., усяго 43 кнігі.

Аддзел XIV. Даходы і расходы расійскіх і украінскіх мытніц 1541—1699 г. г., усяго 11 кніг.

Аддзел XV. Мытніцы на водных шляхох 1587—1773 г. г., 22 кнігі.

Аддзел XVI. Контракты з гандлярамі на правоз тавараў, 1739—1793 г. г., 15 кніг.

Аддзел XVII. Ведамасьці, сьпісы і інш. па мытных справах, 1531—1767 г. г., 19 кніг.

Аддзел XVIII. Мытныя справы XVI сталецьця, часткі XVII—XVIII, 54 кнігі.

Аддзел XIX. Прысяжныя пасьведчаньні аб прыналежнасьці тавараў, якія перавозіліся праз мытніцу, 1563—1753 г.г., 16 кніг.

Аддзел XX. Прыбыткі ад продажы гэрбавае паперы, 1775—1792 г. г., 12 кніг.

Аддзел XXI. Тое-ж, 15 кніг.

Аддзел XXII. Тое-ж, 1775—1793 г. г., 25 кніг. Сярод іх № 24 люстрацыя кніг старых яўрэйскіх у провінцыі ўкраінскай, 1776 г.

Аддзелы XXIII XXIV, XXV, Тое-ж, датычыцца штамповай паперы.

Аддзел XXVI. Зборы з цюцюнавых вырабаў 1775—1794 г. г. 63 кнігі.

Аддзел XXVII. Датычыцца замку Варшаўскага і яго аколіц, 1593—1791 г. г., 38 кніг.

Аддзел XXVIII. Аб выдатках на рамонт і ўтрыманьне палацу Красінскіх, 1765—1795 г. г., кніг 28.

Аддзел XXIX. Тое-ж адносна Брулаўскага палацу, 1676—1794 г.г. Тут ёсьць дакуматы, якія датычаць Тыкоціна.

Аддзел XXX. Адносіцца да ільнянай мануфактуры, 1766—1789 г.г., 24 кнігі.

Аддзел XXXI. Расходы і даходы па ўтрыманьні водных шляхоў і мастоў, рапарты інжынэраў аб дасьледваньні цячэньня рэк: Варты, Бабра, Нарвы, Піліцы, Дунайка, Водры, Буга, Случы, Гарыні. Тут-жа нейкія проекты Чацкага, 1569—1796 г.г., 26 кніг.

Аддзел XXXII. Тое-ж адносіцца да водных комунікацый, прыбыткі маставыя, грэбельныя, 1767—1794 г.г., 19 кніг.

Аддзел XXXIII. Тое-ж, 1617—1872 г.г. 6 кніг.

Аддзел XXXIV. Кнігі камісіі скарбу кароннага, рэзолюцыі Рады Канечнай. 1765—1794 г., 69 кніг.

Аддзел XXXVI. Зьвязкі з рознымі дакумантамі і граматамі каралёў Жыгімонта I і інш., корэспондэнцыя подскарбіяў, пісароў, 1522—1609 г., 29 кніг.

Аддзел XXXVII. Розныя скарбовыя справы, 1764—1794 г.г., кніг 46.

Аддзел XXXVIII. Рапарты супэр-інтэндантаў, рэвізораў і інш. скарбовыхураднікаў, якія адносяцца да мытніц і камісій скарбу кароннага, 1764—1794 г.г., 86 кніг.

Аддзел XXXIX. Розныя дакуманты кароннага скарбу, 1510—1795 г.г., 126 кніг.

Аддзел XL. Асыгнацыі, дакуманты, квіты мытныя, 1536—1782 г.г., 1 кніга.

Аддзел XLI. Дакуманты скарбовай камісіі, 1789—1796 г.г., 46 кніг.

Аддзел XLII. Друкаваныя выданьні і інструкцыі.

Аддзел XLIII. Протоколы скарбовай кароннай камісіі адносна кварты і падымнага, 1764—1789 г.г., 108 кніг.

Аддзел XLIV. Каралеўскія лісты-прывілеі і консэнсы на маемасьці гаспадарскія, лісты скарбовай камісіі аб уводзе ўва ўладаньне, 1765—1793 г.г., 48 кніг.

Аддзел XLV. Датычыцца Монэтнага двара, 1588—1794 г.г. 26 кніг. № 3 (1546 г.), 44 (1550 г.), 4 Б (1550—3 г.г.)—кнігі Віленскае Мынцы.

Аддзел XLVI. Гэта аддзел люстрацый, кніг 219.

Аддзел XLVII. Унівэрсалы, протоколы, ахвяры на войска, 1739—1792 г.г., 117 кніг.

Аддзел XLVIII. Люстрацыі, табліцы дымаў каралеўскіх і царкоўных маёнткаў, 1775—1790 г.г., 95 кніг.

Аддзел XLIX. Тарыфы і ахвяры; кадастр зямель прускіх і аўстрыйскіх, 1796 г., кніг 51.

Аддзел L. Тарыфы дымаў і падымнага, 1771—1790 г.г., 56 кніг.

Аддзел LI. Тое-ж, маёмасьцей земскіх каронных, 162 кнігі.

Аддзел LII. Паасобныя акты 1794—1806 г. г., 66 кніг.

Аддзел LIII. Рэкогніцыі і табліцы чопавага 1526—1775 г. г., 41 кніга.

Аддзел LIV. Аддзел розных дакумантаў і прывілеяў з XIV сталецьця. Кніга 146 мае адносіны да Беларусі.

Аддзел LV. Розныя дакуманты, якія адносяцца да скарбу, 1410—1795 г.г., сабраныя ў зьвязкі, 107 нумароў.

Аддзел LVI. Інвэнтары каралеўскіх маёнткаў, 335 кніг.

Аддзел LIX. Кніга кварты, тарыфы, гіберны і інш., 1643—1794 г.г., 30 кніг.

Аддзел LX. Дакуманты, якія адносяцца да маёнткаў і фундушоў духавенства і шпіталяй, 10 кніг.

Аддзел LXI. Фундушы адукацыйнае камісіі, 28 кніг.

Гэтае апісаньне дае частковае паняцьце аб багацьці архіву. Яно-ж дае паняцьце і аб тым, з якіх частак складалася Літоўская Скарбовая Мэтрыка, якая рассыпалася і, відавочна, безнадзейна загубілася. Увесь гэты архіў, з нямногімі выключэньнямі, адносіцца да Кароны. Але, зразумела, па меры зьбліжэньня ў галіне адміністрацыі Беларусі, Літвы і Польшчы, асабліва з другой паловы XVIII сталецьця, трэба шукаць і ў гэтым архіве дакумантаў, якія датычацца Беларусі. Для гісторыі Украіны ў гэтым архіве шмат дакумантаў. Мяне цікавілі толькі найдаўнейшыя дакуманты. Я браў наўдачу тыя ці іншыя кнігі, шукаючы там матар'ялу па гісторыі Беларусі. Пры гэткіх умовах у мой агляд маглі трапіць і трапілі толькі нямногія дакуманты. Патраціўшы шмат часу на працу, я мог толькі прыйсьці да выніку, што тут бадай што няма кніг, якія адносяцца да Літоўскага скарбу.

Вось некалькі больш дэтальных паказаньняў. Аб кнігах Віленскай мынцы я ўжо ўспамянуў вышэй. Гэта кнігі з скарбу. Імі я пакарыстаўся ў сваёй „Дзяржаўнай Гаспадарцы“.

Аддзел I, кніга 61. Ёсьць такі дакумант: Distributa militibus antiquiori serviti in Ducatu Lituaniae retenti... anni 1570 ex contributionibus 1576 demonstrata.

Аддзел I, кніга 111. Архіў Варшаўскае Казённае Палаты. „Реестр слухания личбы податков земенских через комисаров, депутованых королем на Варшавском сойме 1570 г., Валериана бискупа Виленского, канцлера Остафия Воловича, Яна Ходкевича, маршалкаў земских и падскарбия Нарушевіча“.

Камісія сабралася ў Вільні і была з канца 1571 да 5 студзеня 1574 г. Кожны год разьлічаны паасобна. Галоўнымі паборцамі ў 1569 г. былі: ксёндз Ян Макавецкі і Ян Гарайскі. Гэтыя паборцы „чинили личбу“ ў тым, што слухалі

лічбу і прымалі прысягу ад павятовых паборцаў і прадстаўлялі рэвэрсалы новых паборцаў.

Далей там ідуць пералікі паборцаў.

Аддзел I, кніга 64. Сумарыуш пабораў 1569 г., падлічаны дэпутатамі 30 лістапада 1570 г. з іх подпісамі і пячаткамі.

Аддзел III, кніга 1. Рахункі Падляскіх ваяводзтваў 1569 г.

Аддзел XVI, кніга Д-3. Рэестр Дуванскага цівунства, зроблены па загаду Гароніма Хадкевіча, вельмі дрэнна захаваны.

Ня прыводжу дробных нататак, якія захаваліся ў мяне.

Аддзел XVI, у кнізе 7—інвэнтар Берасьцейскае эканоміі 1588 году, у кнізе 43—інвэнтар Дуванскага цівунства на Жамойці 1594 г., у кнізе 59—староствы Троцкае і Гарадзенскае, у кн. 91 (10)—Ковельскі павет, у кн. 92 (К. II)—інвэнтар Кнышына 1569 г., у кнізе 178 (Р. 20)—інвэнтар Палонкі Троцкага ваяводзтва 1791 г., у кн. 204 (І. 3)—інвэнтар Падляхіі, у кнізе 252 (6)—Вількамірскі павет.

Аддзел XLVI. Замыкае ў сабе рэвізы і ілюстрацыі Ліфляндзкіх староствaў.

У вапошні час маіх заняткаў я аддаў многа ўвагі адшуканьню ў гэтым архіве дакумантаў, якія датычаць гісторыі насельніцтва Украінскіх ваяводзтваў.

## 2. Архіў Варшаўскага Галоўнага Суду.

Архіў Варшаўскага Галоўнага Суду надзвычайна рознастайны і багаты зьместам. Дазволю сабе, перш за ўсё, пералічыць агульна галоўнейшыя аддзелы гэтага архіву.

Акты Мэтрыкі Кароннае (аддз. I); Акты канцлерскія (аддз. III); Акты судоў Кароннай асэсорыі (аддз. V); Акты судоў рэфэрандарскіх (аддз. VII); Констытуцыі соймавыя (аддз. IX); Акты генэральных конфэдэрацый (аддз. X); Акты маршалкоўскіх судоў (аддз. XXII); Адукацыйнае камісіі (аддз. XIV); Скарбовае камісіі (аддз. XV).

Асабліва цікавыя і шматлікавыя аддзелы, у якіх сабраны люстрацыі і інвэнтары каралеўскіх маёнткаў і тарыфы пагалоўнага (аддз. XVIII—XXII); Акты нунцыятуры (аддз. XXIII); Акты каронных трыбуналаў—Петракоўскага, Пазнанскага, Быдгоскага, Люблінскага (аддз. XXVI). Гэта вельмі буйны аддзел). Ня менш буйны аддзел дакумантаў грод. і земск. Варш. (аддз. XXII і XXX). З астатніх аддзелаў зварочваюць на сябе ўвагу буйны аддзел XXIX, у якім згрупаваны дакуманты, якія датычацца Галіцыі, і аддзел XXVIII дакумантаў Каралеўскае Прусіі. Адзначым яшчэ сакрэтны архіў (асобны аддзел XXXI), утвораны ў 1613 г. дзеля захаваньня розных спраў, якія пераважна датычацца дыплёматычных зносін. У гэтым аддзеле захавана 3.110 паасобных дакумантаў.

У гэтым архіве для нас цікавыя часткова Каронныя справы, бо і сярод іх можна знайсьці тыя ці іншыя зьвесткі аб Беларусі, і асабліва тыя кнігі, якія трапілі ў гэты архіў, відавочна, з Мэтрыкі Літоўскай. Цэлая група дакумантаў і кніг адносіцца да Украіны—пасьля яе далучэньня да Кароны. Урэшце, у XVIII сталецьці ўжо ў значнай меры аб'ядналіся польска-літоўска-беларускія ўстановы.

Адзначым некаторыя паасобныя нумары.

У ваддзеле 20, № 22, інвэнтар каралеўскіх двароў Аліцкага, Враноўскага, Краснапольскага і лясьніцтва Аліцкага, 1581 г.

Там-жа, № 23, розныя прывілеі, якія датычацца экономіі Берасьцейскай, Горадзенскай і Аліцкай, 1582—1762 г. г.

Там-жа, № 31. Сумарыуш кварты і гібэрны старостваў Вялікага Княства Літоўскага, 1766 г.

№ 31-а. Likwidacya strat przy zajęciu Mohilowa w czasie okupacyi Białej Rusi przez wojska Rossyjskie.

Аддзел XXI: № 67—Рэвізія Горадзенскай экономіі, 1558—1561 г.; № 68—Рэвізія Аліцкай экономіі 1663 г.; № 70—Рэвізія Сакольскага лясьніцтва 1676 г.; № 72—Інвэнтар Горадзенскай экономіі 1680 г.; № 73—Камісія па рэвізіі тэй-жа экономіі 1682 г.; № 74—тое-ж 1683 г.; № 75—Рэвізія Аліцкай экономіі 1686 г.; № 76—Камісія Новадворскага лясьніцтва 1689 г.; №№ 77—79—Кнігі рэвізій Горадзенскай экономіі 1692—1700 г.-г.; №№ 80—81—Інвэнтар лясьніцтваў Сакольскага і Новадворскага; №№ 83—84—Рэвізія Аліцкай экономіі 1712 г.; № 85—Рэвізія лясьніцтваў Горадзенскай экономіі; № 82—87—Інвэнтар Аліцкае экономіі 1719 г.; № 88—89—Інвэнтар лясьніцтваў Горадзенскай экономіі 1738 і 1735 г. г.; № 90—Dyspartyment wiktowy Горадзенскай экономіі 1735—8 г. г.; № 91—Дыспартымэнт гібэрны тае-ж экономіі 1739 г.; № 92—Дыспартымэнт віктовы Горадзенскай і Аліцкай экономій 1748 г.; № 93—Дыспартымэнт гібэрны ў тых-жа экономіях 1748 г.; № 94—95—тое-ж 1748—1754 г.г.; № 96—Апісаньне крыўд Горадзенскае экономіі 1757—1758 г. г.; № 97—тае-ж Аліцкае экономіі 1757 г.; № 98—Сумарыуш архіву Горадзенскае экономіі 1765—1782 г. г.; № 99—Стан мануфактуры ў Горадзенскай экономіі за 1782 г.; № 100—тое-ж за 1783 г.; № 101—Інвэнтар Горадзенскае экономіі за 1783 г.; № 102—тое-ж; № 103—тое-ж; № 104—Рэвізія Аліцкай экономіі 1783 г.; № 105—Рэвізія замку Горадзенскага 1784 г.; № 106—Інвэнтар Магілеўскае экономіі 1604 г.; № 107—тое-ж за 1761 г.; № 108—Прывілеі донатарыяў тае-ж экономіі за 1662 г.; № 109— тое-ж за 1682 г.; № 110—Аўкцыя чыншу тае-ж экономіі 1636 г.; № 111—Акт камісіі тае-ж экономіі 1687 г.; № 112—114—Інвэнтар тае-ж экономіі за 1695—1712 г. г. Да

тае-ж экономіі адносяцца: № 115—рахунак прыбыткаў 1719г.; № 116—Дыспартымэнт гібэрны 1722 г.; № 117—Ордынацыя 1722 г.; № 118—Протокол дэкрэтавы 1725 г.; № 119—Рэвізія 1725 г.; № 120—Розныя дакуманты 1725—1726 г. г.; № 121—Дыспартымэнт 1716 г.; № 122—Дыспартымэнт падаткаў гораду Магілеву 1716—1718 г.г.; № 123—Інвэнтар экономіі 1736 г.; № 124—рахунак чыншу і гібэрны; № 125—Інвэнтар валок і фальваркаў, прыпісаных да тэй-жа экономіі 1736 і 1738 г. г.; № 126—тое-ж за 1639 г.; № 127—Расклад гібэрны за 1739 г.; № 128—Дараваньні падскарбіяў з тэй-жа экономіі 1736—1740 г. г.; № 129—Акты спраў 1782 г.; № 130—Дакрэты тае-ж экономіі па Аршанскім павеце 1743 г.; № 131—Дакрэты камісарскія; № 132—Азначэньне меж за розныя гады. № 133—Інвэнтар Берасьцейскай і Кобрынскай экономіі 1662 г.; № 134—Інвэнтар Белавескага лясьніцтва за 1739 г.; № 135—Рахунак гадавога збору хлеба (крэсцэнцыі) тае-ж экономіі 1730 г. Далей, да тых-жа экономій адносяцца: № 136 — Генэральная камісія 1731 г.; № 137 — Інвэнтар 1735 г.; № 138 — Рахунак падымнага і гібэрны 1742 г.; № 139—Інвэнтар 1742 г.; № 140—Інвэнтар ключоў Кіявецкага і Мілейчыцкага 1747 г.; № 141—Інвэнтар 1783 г. тых-жа самых экономій; № 142—Рэвізія Шавельскае дзяржавы 1619 г. Да тае-ж экономіі адносіцца: № 143—Інвэнтар 1764 г.; № 144—тое-ж; № 145—тое-ж, 1780—1782 г. г.; № 146—Інвэнтар жывёлы і прылад 1733 г.; № 147—Інвэнтар 1783 г., такі-ж самы; № 148—Альфабэт да інвэнтароў Літоўскае экономіі.

Аддз. XX, № 32 А. Кніга протоколаў аб маёмасьцях каралеўскіх 1724—1727 г.г.; № 41—Спэцыфікацыя лясьніцтваў Кароны і Вялікага Княства; № 44—Сьпіс каралеўскіх маёмасьцяй у Кароне і Літве.

Кнігі рэвізій інвэнтароў і інш. бязумоўна прадстаўляюць сабою частку архіву Мэтрыкі Літоўскай. Частка іх трапіла ў ваенна-навуковы архіў галоўнага штабу.

Пасьля вуніі 1569 г. для новых анэксаў Польшчы: Валыні, Кіеўшчыны, Браслаўшчыны, украінскае часткі Падоліі і беларускіх частак Падляхіі, ў Каронnай Мэтрыцы заведзены былі асобныя кнігі.

У ваддзеле XVIII, кніга 25—люстрацыі староствaў ваяводзтва Падляскага 1576 г. У ваддзеле XX, № 4—копія тае-ж кнігі.

Люстрацыі і тарыфы Украінскіх ваяводзтваў знаходзяцца ў наступных кнігах: № 25—28, аддз. XXII.

Да Украіны-ж маюць вялікія адносіны кнігі Люблінскага трыбуналу аддз. XXVI, пачынаючы з № 611 да № 737. Сярод тых-жа кніг №№ 614, 618, 666, 670, 679, 693, 709, 725, адносяцца да Падляхіі.

У тым-жа аддзеле XXVI, шэраг кніг гродзкіх, Луцкіх, Чарнігаўскіх, Кіеўскіх, Валынскіх (№№ 8, 11, 108, 111, 119, 123, 124, 129, 133, 136, 134—139, 143—147, 150, 152, 153, 155, 158, 161, 162, 163—165).

У ваддзеле XXVII, кніга 7. Перанос выракаў Літоўскага Трыбуналу 1777 г. паміж князямі Масальскімі, Несялоўскімі і інш.

Вось яшчэ некалькі ніг, якія маюць адносіны да гісторыі Беларусі. У ваддзеле VI, № 220-а знаходзім кнігу: „Xięga Metryki kancellaryi mniejszej Xięstwa Litewskiego, obejmująca konfirmacye przywilejów, dyplomatów, insignaty, nobilitacye etc“. 1775—1779 г. г.

У тым-жа аддзеле № 220-b acta appellationum terrarum Podlachiae, 1554—1558 г. г., на 410 лістох.

На вокладцы гэтае кнігі яшчэ захаваўся налеплены нумар Мэтрыкі Літоўскай: Суд. Д., № 32.

Абедзьве кнігі ў 1827 г. былі пераслапы ў галоўную прокураторыю з Мэтрыкі Літоўскай, а прокураторыя здала іх ў галоўны Варшаўскі архіў.

Да таго-ж аддзелу, відавочна, адносяцца і 4 кнігі „Acta appellationum terrarum Podlachiae“ з аддзелу VIII, №№ 13—16, за 1538—1546 г. г. Гэтыя кнігі былі ў ліку кніг, перададзеных Прускаму ўраду, але потым зьвернуты чамусьці не ў Пецярбург, а ў Варшаву. На гэтых кнігах захавалася нумарацыя кніг судовых спраў.

У ваддзеле XVI, № 1. Кніга з архіву каралевы Боны: Acta judicalia commissariorum capitaneatus Podlascensis et Grodnensis de mandato S.R.M. Bonae recogniti, 1543—6.

У тым-жа архіве ёсьць шэраг дакумантаў, якія знаходзяцца ў кнігах супольных як для Польшчы, так і для Літвы. Такімі ёсьць матар'ялы Камісіі Адукацыйнай і Камісіі Вайсковай. Характар гэтых матар'ялаў агульнавядомы. Зьвернем увагу на тое, што дакуманты Адукацыйнае Камісіі аказаліся падзеленымі паміж былым архівам Міністэрства Юстыцыі, Варшаўскім галоўным архівам і былым Маскоўскім архівам Міністэрства Замежных Спраў.

Сярод спраў Адукацыйнай Камісіі адзначым тыя, якія маюць бліжэйшыя да нас адносіны, але не бяруся цьвердзіць аб паўнаце паказаньняў.

У ваддзеле XIV разьдзел B зьмяшчае ў сабе 15 зьвязак спраў Адукацыйнае Камісіі, якія адносяцца да Літоўска-Беларускіх зямель і да Прусіі.

У тым-жа аддзеле XIV, разьдз. C., № 3—Connotatio causarum Collegii Drohiciensis, 1701 году.

Далей №№ 13, 17, 19, 20, 25—прадстаўляюць сабою інвэнтары і іншыя дакуманты тае-ж Драгічынскае калегіі. №№ 238—242 адносяцца да Украіны.

Нарэшце, прывядзем кароткія зьвесткі яшчэ аб некаторых іншых матар'ялах. Як вядома, у гэтым архіве захаваны копіі 65 кніг Літоўскае Мэтрыкі ў парадку іхняй ранейшай нумарацыі. У вархіве яны лічацца ў аддз. IV пад № 191—219, бо ў адну кнігу ўносіліся па некалькі мэтрычных кніг. Па нумарацыі 900-х гадоў сярод копій Варшаўскіх ёсьць копіі наступных №№ кніг запісаў: 1/2, 3/4, 5, 6, 7, 8, 9, 10, 11, 12, 14, 15, 16, 39, 33, 28, 30, 31; копіі кніг судовых спраў: 1—12, 19, 23. Кнігі публічных спраў: 2, 5. Кнігі перапісу: 1, 4.

На жаль, копій 9 кніг старой нумарацыі я ня мог знайсьці і, не пасьпеўшы праверыць, не магу сказаць, ці ёсьць сярод копій кнігі, якія не захаваліся ў Маскоўскім архіве, ці няма. Архіў такі вялікі і парадак заняткаў такі нявыгодны для таго, хто мае мала часу, што магу, зразумела, падаць толькі некаторыя зьвесткі.

### 3. Бібліотэка Ассалінскіх у Львове.

Як вядома, ёсьць друкаваны каталёг гэтае бібліотэкі, выдадзены Канчынскім. Карыстаючыся кароткім каталёгам, зразумела, цяжка гаварыць аб складзе папер, тым больш, што ў бібліотэцы шмат зборнікаў, у якіх сабраны дакуманты рознастайныя па зьмесьце і па часе напісаньня. Мае шуканьні зводзіліся да шуканьняў скарбовых дакумантаў і, пры праверцы зьместу №№ тых ці іншых кніг, я зрабіў некаторыя нататкі. Больш за ўсё я сустракаў матар'ялы, якія характарызуюць гісторыю Украіны. Сярод дакумантаў навейшых часоў, канца XVIII і пачатку XIX сталецьцяў, якімі я тады ня цікавіўся, ёсьць, бязумоўна, справы афіцыяльныя, якія былі выняты, напрыклад, з Віленскага генэрал-губарнатарскага архіву. Гэтае зьявішча мне прышлося констатаваць выпадкова.

Зразумела, падрабязнае вывучэньне архіўнага матар'ялу, які захаваны ў бібліотэцы Ассалінскіх, дало-б надзвычайна важныя вынікі для гісторыі Беларусі. Але, на жаль, мае заметкі будуць надзвычайна кароткія, прычым я адзначу як беларускія, так і украінскія матар'ялы.

№ 213. На лл. 613 ёсьць Articuli inter R. Pol. et M.D.L. Cracoviae, die 26 martis anno 1572.

№ 214. Пасольства літоўцаў да Рады Польскай, таго-ж 1512 году на лл. 615. № 132. Тое-ж пасольства літоўцаў (лл. 433). № 307: лл. 16—лісты Віньніцкае шляхты; лл. 125, 129, 133, 137—лісты каралевы Боны; лл. 199—лісты каралевы Лізаветы да Жыгімонта Аўгуста; лл. 143—145—лісты Жыгімонта Аўгуста да Жыгімонта I.; лл. 145—193—лісты літоўскіх сэнатараў да польскіх 1563 году; справа йдзе аб вуніі.

№ 239. Дыплёматычныя зносіны Беларусі з Польшчай, да пытаньня аб вуніі, лл. 263, 353—тое-ж, перапіска аб вуніі. І да пытаньня аб правох Жамойці.

№ 74: да пытаньня аб вуніі і зьезьдзе ў Бельску: лл. 29, рэцэст 1564 году, лл. 51—76 на адв. лл. 197—202, лл. да Мікалая Радзівіла 1564 г., перапіска з ім-ж, №№ 70—143 (у кнізе №№ лл.). Ліст 691—693 на адв.—абавязак Жыгімонта Аўгуста выплаціць заробленае жаўнерам і заплаціць ваенныя даўгі (1565 г.).

№ 73. Перапіска з Мікалаем Радзівілам.

№ 1682. Л. 30 на адв. Лісты Мазэпы.

№ 1622. На лл. 25—29, 63—72 да пытаньня аб вуніі.

№ 1133. Датычыць ордынацыі Астроскай.

№ 917. Лістоў 831. Прысяжная Жыгімонта Кейстутавіча 1432 г., л.л. 927—942 упамінкі цару Перакопскаму 1576 г.

№ 916 лл. 61—66. De tradito Sigismundi Augusti regis Lituanorum—сойм 1544 г.

Тут-жа апісаньне сойму 1544 г.

№ 1977. Дзеньнік вядомага Орліка. Вельмі падрабязнае апісаньне яго замежных вандраваньняў.

№ 2579. л. 83. Ліст да Мікалая Радзівіла 1549 г.

№№ 3913 і 3914—інквізыцыя і судовы вырак з прычыны забойства Кунцэвіча.

№ 3912—Лісты гэтмана войска запароскага—Хмяльніцкага, Дарашэнкі, Ханенкі.

№ 1621: лл. 14 на адв.—15 на адв. Лісты Жыгімонта Аўгуста да Польскай Рады з Вільні з паведамленьнем аб лівонскіх і маскоўскіх справах, 1560 г.; лл. 616 на адв.—625. лісты Мікалая Радзівіла 1561 г.

№ 2893. Ёсьць дакуманты—лісты Орліка, Хмяльніцкага Выгоўскага.

№ 3912, № 3776—справы казацкія. № 3911—дыарыуш Маскоўскай выправы 1617 году Яна Сабескага; № 3913 і № 3914—інквізіцыя аб бунтах у Віцебску 1636 г.; № 3915 лісты Хадкевічаў 1606—1611 г. г.

№ 44469—475—інвэнтар Шклова. № 1927—1930—рахункі Віленскай мынцы. Да таго-ж пытаньня трэба глядзець №№ 1033 і 1037. № 1041 (рахункі з Дэцыусам), № 1035 (рахункі з Бонэрам), № 1043 рахункі маёмасьцяй каралеўскіх. 1579 г.

№ 1740 гэрбоўнік XVII сталецьця.

№ 2179 конфірмацыя прывілеяў Жыгімонта Аўгуста 1569 г.

№ 2182—надзвычайна цікавы ўзор панскага законадаўства XVIII сталецьця, але мясцовасьць не ўдалося азначыць.

№ 2208. Шэраг дакумантаў вуніі, сьпісы, надасланыя з Віцебску, пасольства Хадкевіча (лл. 269—287, 350 на адв.—352, 329—346 на адв., 494 на адв.—499 на адв.).

№ 2217. Гэрбоўнік XVIII сталецьця.

№ 475, лл. 263—265, сакрэтны ліст аб абароне Украіны. Лл. 27—130 лісты Жалкеўскага, пасылка Альшанскага да запароскіх казакаў, дыарыуш экспэдыцыі да Украінскіх казакаў... Лл. 175—180 на адв. камісія пад Масквой. Лл. 99—100 унівэрсал казакам 1625 г. Лл. 100—101 ліст ад казакаў да камісараў польскіх, пад Крыловым. Лл. 102 асэкурацыя паноў сэнатараў і камісараў казацкіх. Лл. 102 і 103 унівэрсал 1621 г. Лл. 103—108 дэклярацыя 27 кастрычніка 1625 г. Лл. 108—111 дэкларацыя 20 кастрычніка 1625 г. Лл. 112—114 ліст ад казакаў да камісараў 3 лістапада 1625 г. з Крукова. Лл. 114 ліст пана Канецпольскага 1625 г. Лл. 115—116 Інструкцыя паслом войска запароскага 3 лістапада 1625 году. Лл. 116—117 рэспонс камісара таго-ж году. Лл. 117 ліст прывітальны гэтмана Канецпольскага да казакаў і адказ казакаў. Лл. 118. Лл. 118—120 кондыцыі камісараў 4 лістапада 1625 г, Лл. 75—7 — лісты запароскіх казакаў да Жалкеўскага. Лл. 79—84 унівэрсал Жыгімонта III да казакоў 1617 г. Лл. 84 — 85 транзакцыя камісарская казакамі запароскімі 1619 г. (тое-ж у рукапісе № 175 л. 65—67). Лл. 86—87 ліст ад казакаў запароскіх да Жалкеўскага 17 кастрычніка 1619 г. з подпісам Канашэўскага. Лл. 89—97 дыарыуш экспэдыцыі Украінскай з казакамі запароскімі 1625 г. Ліст 97 копіі ліста гэтмана пасьля экспэдыцыі 7 лістапада 1625 году. Л. 99 ліст Канецпольскага да казакаў запароскіх 30 верасьня 1625 году. Лл. 120—123—3 лісты ад казакаў 4 лістапада 1625 г. Л. 123 ліст Канецпольскага на сойме 1625 г. Лл. 124—125 ліст Лукаша Маскоўскага да стольніка Падольскага аб абозе пад Каруковым 7 лістапада 1625 г. Лл. 126—130 копіі пастаноў аб згодзе паміж казакамі запароскімі з камісарамі (абраньне гэтмана Дарашынскага), Лл. 184—192 лісты Жалкеўскага Тэрабоўльскаму старасьце.

№ 358. Гэрбоўнік Каяловіча. № 248, апісаньне Магілеўскае экономіі 1772 году.

№ 173. Перапіска Жыгімонта I з Жыгімонтам II.

№ 1423, лл. 138—139 рэестр палкоўнікаў войска запарожскага ў экспэдыцыі пад Хоцінам 1620 году.

№ 4111, лл. 686—689 інструкцыя Паўла Цяцеры з волі войска запароскага яго каралеўскай міласьці, 1663 г. (перапісана).

№ 199, лл. 51, 28—29, 123—124, 147, 149—150 лісты Жыгімонта II Аўгуста да Радзівіла. Там-жа лл. 199 — 202,

203—204 прамова пасла Сандамірскага павету на сойме: адзначаецца, што літоўцы пры нябожчыку-каралю ня толькі не дапамагалі палякам супроць прусакаў, але дазвалялі ворагу дастаўляць у свае замкі хлеб з Масквы. Літоўцы ўчынілі статут, па якому ніхто ня можа набываць у Літве зямельнае ўласнасьці. Усё накіравана супроць палякаў. 1563 г.

№ 173, лл. 34—35 прывілей Жыгімонта 1506 г. Лл. 57—59 на адв. пасольства Літоўскае да Рады Польскай 1512 г.

№ 113, лл. 167—168 сьпіс сэнатараў каронных і літоўскіх, сьпісураднікаў, якія прыналежаць да парадку сэнатарскага: маршалак найвышэйшы, канцлер, падканцлер, падскарбі, маршалак дворны.

№ 296, лл. 279—290 на адв. сьпіс запароскіх куранёў, і далей шмат матар'ялаў адносна казакаў.

### 4. Бібліотэка графаў Бавароўскіх у Львове.

Мусіць больш ёсьць матар'ялаў да гісторыі Украіны і Галіцыі, пачынаючы з грамат Галіцкіх князёў (мусіць фальшывых грамат). № 3 копія пактаў татараў з Ханенкам (1649). № 3 дэклярацыя войска запароскага. № 5 ліст Хмяльніцкага да караля. № 6, лл. 101 на адв.—102, копіі лісту запароскага да гэтмана, шэраг лістоў у зьвязку з паўстаньнем Хмяльніцкага. Тое-ж лл. 109 на адв.—120, між іншым рэляцыя аб бітве пад Берастэчкам.

### 5. Бібліотэка Ягелёнскага Унівэрсытэту ў Кракаве.

Вельмі невялічкі збор рукапісаў. Я пераглядзеў толькі некаторыя. № 91—кніга лістоў Жыгімонта Аўгуста Зыгмунту бацьку. № 906—кніга мернічага каралеўскага 1621 г., які рабіў абмер зямель, дараваных кляштарам і прыватным асобам у Смаленскім ваяводзтве. № 58—дыплёматычныя перамаўленьні аб далучэньні Лівоніі да Польшчы і Літвы.

### 6. Віленскі былы Цэнтральны Архіў.

Тут старадаўнія актавыя кнігі Віцебскай, Менскай, Магілеўскай і іншых губэрняў, якія складалі, так званы, Заходня-Расійскі край. Кнігі гэтыя ў большасьці не эвакуаваны і засталіся на месцы.

### 7. Віленская былая Публічная бібліотэка.

У рукапісным аддзяленьні яе захавалася шмат рукапісаў, сабраных з усяе Беларусі, і старыя архіўныя фонды пасобных гарадоў, напр. Лепелю, Навагрудку і іншых.

Зьмітра Даўгяла.

Член-супрацоўнік Інстыту-
ту Беларускае Культуры.

# I. Літоўская Мэтрыка і яе каштоўнасьць для вывучэньня мінуўшчыны Беларусі.

Літоўскай Мэтрыкай называўся архіў даўнейшай канцэлярыі вялікага князя Беларускага і Літоўскага. У ім захоўваліся акты або кнігі, у якіх знаходзіліся ўсе граматы і дакуманты, напісаныя па ўстаноўленай у дзяржаўнай канцэлярыі форме.

Памянёны архіў дзяліўся на Мэтрыку вялікую, якая знаходзілася пад назіраньнем канцлера, і Мэтрыку меншую—пад назіраньнем падканцлера. Абодвы гэтыя саноўнікі вызначалі, беспасрэдна ад сябе залежных, загадчыкаў архіву, пад назвай „мэтрыкантаў“.

Мэтрыка Літоўская мае для нас надзвычайна вялікае значэньне і вартасьць. Вось што кажа аб гэтай Літоўскай Мэтрыцы проф. Доўнар-Запольскі: „Перш за ўсё справа ў тым, што мы ня можам ня ведаць свайго мінулага, што мы павінны вывучаць яго. Мы—народ малады. Рэволюцыя зьвярнула нам правы на самавызначэньне, што зьяўляецца адным з найвялікшых рэволюцыйных здабыцьцяў, якімі мае магчымасьць карыстацца былы прыгнечаны беларускі народ. Але мы павінны гэтае права ўзмацніць.

Пашыраючы вывучэньне гісторыі Беларусі, мы яшчэ больш, яшчэ глыбей высьветлім для сябе гэтае сваё права на самавызначэньне. У нашых руках будзе больш аргумэнтаў, каб даць адказ і нашым ворагам і няпрыхільнікам, і адхіліць іхнія напады.

Літоўская Мэтрыка—найбагацейшая крыніца гістарычных ведаў аб мінулым Беларусі. Крыніца гэтая ўваскрашае перад намі багатую культуру старой Беларусі, яе прававыя падставы, яе соцыяльную і экономічную структуру.

Тут гісторыя беларускага сялянства, тут гісторыя барацьбы мяшчан з шляхтай, тут гісторыя нашай старой кон-

стытуцыі, тут гісторыя змаганьня беларускага народу за сваю свабоду і за сваю культуру.

Па сваей структуры Літоўская Мэтрыка—надзвычайны помнік, асаблівы, калі не адзіны, ў гістарычным мінулым усей Эўропы.

У беларускай дзяржаве юрыдычная думка была высока разьвіта. Мова беларускіх юрыдычных актаў—дакладна адзначаная і добра характарызуе кожнае юрыдычнае пытаньне. Гэткай якасьцю мовы тлумачыцца і сьцісласьць выразаў актавага матар'ялу мэтрыкі.

Усё гэта—такія якасьці гісторыка-юрыдычнага матар'ялу, якія робяць яго з усіх бакоў матар'ялам выключным". („Сав. Бел." 1925, № 292).

Гэтая адозва павінна быць прынята кожным з дасьледчыкаў, хто працаваў у Вархіве Літоўскае Мэтрыкі.

## II. Гісторыя Літоўскае Мэтрыкі.

Гісторыя Літоўскае Мэтрыкі пачынаецца з канца XV сталецьця, з тых часоў, як дзякі пры вялікім князю Казімеры Жыгімонтавічы пачалі вясьці запісы данін князевых і розных яго грамат. Аднак, архіў Літоўскае Мэтрыкі быў у XV веку толькі ў пачатковай стадыі. Ад старых часоў там захавалася ня дужа многа актаў, напрыклад: прысягі Карыбута (Зьмітро) Альгэрдавіча, Сьвідрыгайлы (Балеслава) Альгэрдавіча і інш., аб якіх ёсьць успаміны ў Мэтрыцы.

Ёсьць паказаньне аб тым, што ўжо ў пачатку XVI сталецьця, калі ў адміністрацыйным жыцьці Беларусі пачалі існаваць ваяводзтвы (якія зьмянілі намесьніцтвы)—Полацкае, Віцебскае, Смаленскае,—усе дакуманты і паперы архіву Літоўскае Мэтрыкі захоўваліся ў некалькіх мяшкох. На кожнае ваяводзтва быў асобны свой мяшок, у якім дакуманты былі зложаны па літарах.

Такі надзвычайны спосаб архіўнае аховы (мяшкі замест скрыняў ці шафаў) сьведчыць аб тым прымітыўным стане, у якім знаходзіўся архіў Літоўскае Мэтрыкі. Аднак, той факт, што гэты архіў захоўваўся ў Троцкім замку, пабудаваным на востраве прыгожага возера Гальвэ, у 18 кілём. ад Вільні,—сьведчыць аб прыхільных адносінах ураду да гэтага архіву. Троцкі замак быў у гэты час мацнейшы за Віленскі і іншыя.

З пачатку XVI сталецьця канцэлярыя вялікага князя Беларуска-Літоўскага пашыраецца. Маюцца веды ўжо аб некалькіх дзяках, з якіх адзін, пры пераездах вялікага князя, знаходзіцца пры яго асобе для вядзеньня рэестраў данін і пісаньня ўсялякіх грамат, а другія ў той самы час, застаюцца

ў Вільні, куды ў 1511 годзе быў перавезены архіў Мэтрыкі Літоўскае з Трок.

Наагул, у XVI сталецьці канчаткова склалася організацыя Літоўскае Мэтрыкі. Вялі яе прысяглыя дзякі. Беспасрэдна Мэтрыка залежала ад канцлера вялікага князя Літоўскага.

Архіў Літоўскае Мэтрыкі цяпер пачаў складацца організавана. У другой палове XVI ст. дзейнасьць і значнасьць архіву пашырыліся. Калі ў 1558 годзе зрабіўся канцлерам вялікага князя Літоўскага швагер вял. кн. Жыгімонта II., вядомы Мікола Іван. Радзівіл, то 2 траўня 1558 г. ён зрабіў пропозыцыю: „абы ўсе пажалованьня і даніны князскія на адно месца пэўнага замкненьня зношаны і да кніг упісованы былі“.

Відавочна, што новы канцлер хацеў, каб у Мэтрыку Літоўскую былі запісаны ўсе даніны, якія калі-б то ні былі зацьверджаны князямі, каралямі. Для захаваньня такіх дакумантаў і для „выкладу слоў пісьма“,—яны павінны былі быць зьнесены, сабраны ў адно месца і там захоўвацца пад замком.

Архіў Літоўскае Мэтрыкі павінен быў ад гэтага часу вельмі пашырацца.

Да 1569 г., калі Кіеў, Валынь і Падольле былі далучаны да Кароны, архіў Літоўскае Мэтрыкі быў так добра організаваны, што з агульнага складу былі лёгка вылучаны кнігі і дакуманты вызначаных ваяводзтваў і перададзены ў Карону.

Да канца XVI сталецьця надворны стан актавых кніг Літоўскае Мэтрыкі быў кепскі. Ад частага ўжываньня, а магчыма, і ад іншых прычын (як, напр., ад непрыстасаванага вільготнага памяшканьня) кнігі пачалі псавацца і часткай спарахнелі. І вось, па загаду канцлера вялікага князя Літоўскага Льва Сапегі, з 1594 году дзякі пачалі перапісваць гэтыя кнігі. Некаторыя з прозьвішч гэтых перапішчыкаў нам вядомы: Вышчынскі, Гескоўскі, Каралеўскі, Мархач, Пашкевіч, Радзецкі, Розэн, Яцыніч. Праца вялася 14 год (1594-1607). Перапісаныя кнігі дапаўняліся рээстрамі (зьместам) і рабілі на іх вокладкі; затым, у працягу 14 год (1607-1621) перапісаныя кнігі ўзгоднены з аўтэнтыкам. Пасьля гэтага старыя паасобнікі кніг былі складзены на захаваньне ў Віленскім скарбе, а перапісаныя кнігі пашлі на штодзеннае карыстаньне.

Да 1636 году архіў Літоўскае Мэтрыкі знаходзіўся ў Віленскім замку. У тым жа годзе, 21 красавіка, на хаваньне актаў Мэтрыкі (вялікай) вялікага князя Літоўскага была ўзята, з дазваленьня Уладыслава IV, прыватная камяніца

віленскага грамадзяніна Яна Ключаты ў Віленскім рынку, на Рыбным канцы, каля царквы Ўваскрасенскай. Гэтая камяніца знаходзіцца ў цэнтры Вільні, каля Шкляной вуліцы. Тут Мэтрыка Літоўская знаходзілася яшчэ і ў 1700 годзе. Для зьмяшчэньня-ж канцэлярыі канцлера і Мэтрыкі Літоўскай (меншай) 21 ліпня 1636 г. быў узяты другі прыватны мураваны дом па Шкляной вул.,—немца Ланга.

Казачы рух 1648 году, швэдзкі наход і, нарэшце, заваяваньне Вільні (1655-1661 г.) Масквой—адбіліся на страце многіх кніг Мэтрыкі Літоўскай, але ўсё-ж яна ня зьнішчылася і існавала.

У XVII сталецьці Літоўская Мэтрыка знаходзілася ў Вільні. Ёсьць весткі, што яна была зьмешчана на ахову ў Віленскім Казімераўскім касьцёле да самага часу далучэньня Літвы і Беларусі да Расіі ў 1794 годзе.

21 лістапада 1794 г. вышаў указ сэнату аб перавязеньні архіву Мэтрыкі Літоўскай у Пецярбург. У студзені 1795 г. яна ўжо была зьмешчана ў архіве сэнату.

З 1803 да 1836 г. цягнулася ўпарадкаваньне Мэтрыкі. Галоўнае кіраўніцтва ёю належала да Міністэрства Юстыцыі. З гэтага часу пачалося навуковае карыстаньне кнігамі Мэтрыкі. Але доступ да іх быў вельмі абмежаваны. Толькі з перавозам Мэтрыкі ў 1889 годзе ў Маскву, дзе быў да гэтага часу пабудаваны архіў Міністэрства Юстыцыі на Дзявочым Полі, Мэтрыка была адчынена для шырокага карыстаньня навуковых дасьледчыкаў. Там было добрае памяшканьне, былі створаны і добрыя ўмовы для навуковае працы.

### III. Склад Літоўскае Мэтрыкі.

Архіў Мэтрыкі Літоўскай па ліку кніг, якія ў ім маюцца ў цяперашні час, ня вельмі вялікі. Кніг усяго будзе крыху больш за поў-тысячы №№. Паасобных дакумантаў і лістоў (апроч кніг)—каля сотні.

Усе гэтыя кнігі паводле зьместу могуць быць падзелены на катэгорыі: а) кнігі запісаў, б) кнігі судовых спраў, в) кнігі спраў публічных і г) кнігі перапісаў.

Трэба крыху застанавіцца на зьмесьце вызначаных катэгорый кніг Мэтрыкі Літоўскай, каб бліжэй азнаёміцца з яе складам і адсюль наагул, уразумець яе навуковую вартасьць для гісторыі Беларусі.

*У кнігах запісаў* знаходзяцца прывілеі местам, мястэчкам, вёскам; прывілеі на майдэборскае права, на кірмашы, гандаль; пастановы наконт новых пабораў; справы цэхаў; граматы на ўрады; лісты на маёнткі князём, паном, шляхце і ўсім тым, наагул, каму даваў ці зацьвярджаў даніны гаспадар (князь) і ў канцы—бягучыя справы князёўскае канцэ-

ляры. Гэтыя кнігі ахопліваюць прыблізна $3^1/_4$ сталецьці (з канца XV да канца XVIII сталецьця). Вялікая вартасьць кніг гэтага аддзелу відавочна.

Другі, таксама вельмі каштоўны для гісторыі Беларусі, аддзел—*кнігі спраў судовых*. У гэтых кнігах знаходзяцца дэкрэты (пастановы) вышэйшых судоў, якія існавалі ў Беларуска-Літоўскай дзяржаве: а) суд самога вялікага князя, б) суд маршалкоўскі (з XVI ст.), які разьяжджаў па дзяржаве, в) суд паноў з князёўскае рады, г) задворна-асэсарскі суд (пачаў існаваць з 16 сакавіка 1623 г.), д) рэляцыйны суд самога князя, рэфэрандарскі суд (з пачатку XVIII ст.), е) суды конфэдэрацкія (з часоў бескаралеўя), ж) суд па апэляцыях на суды майдэборскія. Паміж названых галін суду вышэйшага, больш за ўсё захавалася кніг спраў судовых задворнага асэсарскага суду. Гэтыя кнігі чатырох відаў: рэестры канцлера, рэестры пісарскія, протоколы паседжаньняў і дэкрэты. Да гэтага аддзелу павінны быць далучаны справы „паточныя“ з усялякімі забясьпекамі і „жалезныя“ унівэрсалы, прызначэньні і г. д.

Для распрацоўкі і дасьледваньня праўных адносін, а таксама характару судовых установаў былой Беларуска-Літоўскае дзяржавы, дзеля вывучэньня быту і жыцьця беларускага народу, усе гэтыя кнігі зьяўляліся матар‘ялам выключнага крынічнага значэньня, за часы з пачатку XVI сталецьця да апошняга падзелу Польска-Літоўскае Рэчы Паспалітай у канцы XVIII сталецьця.

У гэтых судовых справах захавалася некалькі кніг XVI сталецьця, якія ня маюць дачыненьня да Мэтрыкі Літоўскай. Напр.: кніга Віцебскага гродзкага суду і Віцебскага земскага суду за 1530—1540 г.г.; кніга Віленскага замкавага суду за 1542 г.; кніга Берасьцейскага старасты за 1569—1574 г.

На трэцім месцы належыць зьмясьціць *кнігі публічных спраў*, або, інакш кажучы, такія, якія мелі агульна-дзяржаўную вартасьць. У гэтых кнігах знаходзяцца соймавыя пастановы конфэрэнцый, усялякія соймавыя запытаньні да ўраду і адказы караля і ўраду, наказы паслом, якія пасылаліся ў чужаземныя дзяржавы, а таксама ў Польшчу; справы ваяводстваў; загады вышэйшае ўлады па справах унутраных; тутжа трапляюцца прывілеі гарадом і мястэчкам з рознымі вольнасьцямі і па розных інтарэсах, граматы на ўрады, прапановы наконт розных падаткаў і павіннасьцяй вайсковых і земска-грамадзянскіх.

Чацьверты аддзел складаюць *кнігі „перапісаў літоўскіх“*. Тут знойдзем апісаньні замкаў, староstваў, эканоміяў, зямель, паветаў, маёнткаў, усялякія межавыя кнігі, як: разьмежаваньне Беларуска-Літоўскае дзяржавы з суседнімі дзяржа-

вамі—асабліва з XVII сталецьця. Ёсьць шмат апісаў татар і татарскіх маёмасьцяй.

Апроч паказанага, архіў Мэтрыкі Літоўскай захаваў і наступныя віды кніг: выпісы пастаноў Князёўскае рады інвэнтары, апісы, альфабэты і паасобныя акты, пляны, мапы, радаводныя дыяграмы і інш.

Да гэтага, па розных архівах і бібліотэках у Ленінградзе і Варшаве захаваліся кнігі пасольскія і скарбовыя кнігі Літоўскае Мэтрыкі. Як яны разышліся па гэтых установах—невядома. Але яны таксама належаць да архіву Літоўскае Мэтрыкі.

## IV. Неабходнасьць вывучэньня Літоўскае Мэтрыкі і выданьня яе ў друку.

Літоўская Мэтрыка, як крыніца для гісторыі Беларусі, мае вялізарнае значэньне.

Якое-б пытаньне не закрануць па гісторыі Беларусі соцыяльна-грамадзкага, экономічнага і іншага зьместу ад XIV да канца XVIII сталецьця, мы напэўна знойдзем заўсёды найлепшыя веды ў Літоўскай Мэтрыцы.

Вось факт, толькі з таго недалёкага ад нас часу, як пачалося вывучэньне Літоўскае Мэтрыкі і яе распрацоўка, пачала існаваць навуковая гісторыя беларускага народу.

Каштоўнасьць Літоўскай Мэтрыкі, як навуковае крыніцы, была падкрэсьлена рускай Архэографічнай Камісіяй, калі яна пачала друкаваць дакуманты Літоўскае Мэтрыкі ў сваім выданьні (Акты Западной России, том I—V, 1846—1853 г.). З 1903 году матар'ялаў Мэтрыкі Літоўскай яна надрукавала пяць томаў.

Дагэтуль больш ці менш яскрава высьветліліся дзьве школы ў беларускай гісторыяграфіі: а) школа проф. Доўнара-Запольскага і б) школа проф. Любаўскага. Першая ў падставу гістарычных дасьледваньняў кладзе права і экономіку. Другая грунтуецца на вывучэньні адміністрацыйна-політычных зьмен.

Працы па гісторыі Беларусі, якія вышлі толькі з гэтых школ, зьяўляюцца паваротам да ўсебаковага вывучэньня Беларускае гісторыі. Дасьледваньне Літоўскае Мэтрыкі стала цяпер кіруючым мэтодам у выкладаньні мінулага жыцьця Беларусі. Щырокае скарыстаньне Літоўскае Мэтрыкі ў працы па беларускай гісторыі дае права лічыць гэтую працу грунтоўнай і каштоўнай на доўгі час. І асабліва гэта трэба адзначыць цяпер, калі гісторыя беларускага народу высьвятляецца з новага пункту погляду, для якога ў друкаваных выданьнях ня маецца многа матар'ялаў.

З другога боку такі дасьледчык беларускае гісторыі, як проф. М. Доўнар-Запольскі, мае на мэце плян аб выданьні Літоўскае Мэтрыкі ў друку. Вось што ён кажа адносна гэтага:

„У цяперашні час матар'ялы Літоўскае Мэтрыкі знаходзяцца ў Маскве. Але з часам, яна бязумоўна, вернецца да нас. Помнік былой самастойнасьці беларускага народу будзе захоўвацца ў нас.

Аднак, мала яшчэ таго, каб мець Мэтрыку пры сабе, як сваю ўласнасьць. Каштоўныя помнікі не павінны ляжаць дарэмна і пакрывацца пылам у архівах". („Сав. Бел." 1925 г., № 292).

Архіўны матар'ял, які мае вялікую гістарычную і нацыянальную вартасьць, павінен адслужыць сваю службу перад працоўным народам. Ён павінен быць даступным да вывучэньня самых шырокіх колаў грамадзянства. Загэтым, працяг друкаваньня Літоўскай Мэтрыкі зьяўляецца вымаганьнем часу. На гэтае вымаганьне павінна зьвярнуць увагу Савецкая ўлада.

---

Міхал Мялешка.
Правадзейны Член Інстыту-
ту Беларускае Культуры.

# Архіўная справа ў БССР да сучаснага моманту.

Беларускія архівы ў часы імпэрыялістычнай вайны і Вялікай Рэволюцыі народаў былой царскай Расіі апынуліся ў вельмі дрэнных умовах.

Пры эвакуацыях з Беларусі былі вывезены ў далёкія куткі Расіі найкаштаўнейшыя матар‘ялы ўсякіх устаноў, дзе яны ў большасьці і згінулі. У часы грамадзянскай вайны у Беларусі згінула шмат архіўных фондаў, у тым ліку амаль што ўсе архівы былых валасных праўленьняў, валасных судоў і зямельных валасных ўпраў.

Белапалякі, пакідаючы Беларусь, таксама вывезьлі ў Польшчу шмат каштоўных архіўных дакумантаў. Паны павывозілі фамільныя і усадзьбовыя архівы, якія маюць да гісторыі краю большую вартасьць, чымся да самага іх уласьніка. Белапалякі, выходзячы з Менску, забралі архіў Менскай Губэрскай Зямлябудаўнічай Камісіі і частку архіву Менскай Губэрскай Земскай Управы. Частка архіву канцэлярыі Менскага Губарнатара, Менскай Гарадзкой Управы са старадаўнымі плянамі Менску, друкаваныя матар‘ялы бібліографічнай рэдкасьці аб Меншчыне, узятыя белапалякамі з архіваў для вывазу ў Польшчу, згінулі ў агні на вакзале.

Яшчэ да прыходу белапалякаў, нямецкія окупанты Беларусі, зьбіраючы па ўсім краі помнікі Беларускае культуры для вывазу ў Нямеччыну, не пакідалі бяз увагі і архіваў. А што было ўзята як немцамі, так і белапалякамі з паасобных цікавейшых дакумантаў, падлічыць цяпер вельмі цяжка.

У час рэволюцыі згінуў архіў Вастрожнага Замку, Менскага Губэрскага Жандарскага Праўленьня, шмат якія справы (больш 2 вагонаў) канцэлярыі Менскага губарнатара і Губэрскага Праўленьня; архіў гэтых устаноў у 1921 г. быў вывезены ў Шклоў на папяровую фабрыку для пераробкі. Гэты найцікавейшы архіў толькі выпадкова быў выратаваны і ў разбураным стане быў прывезены назад у Менск, толькі ў

большай частцы. Згінулі ўсе справы Губэрскага Статыстычнага Камітэту і шмат іншых. Усяго, паводле падліку Цэнтральнага архіву, згінула толькі ў адным Менску больш за 45 архіўных фондаў, ня лічачы дробных архіваў.

У гэты час вялікай барацьбы, многія старыя ўстановы зьніклі бяз сьледу. Паўсталыя на іх месцы новыя ўстановы сталі выкідваць архіўныя справы, якія засталіся, як нікому непатрэбны папяровы хлам, ад царскіх установаў. Архіўныя справы шырокай ракой пацяклі на папяровыя фабрыкі і да розных гандляроў, хаваючы разам з сабою назаўсёды цікавейшыя веды нашай сумнай мінуўшчыны. Гэтая страта для выведаў Беларусі ў галінах гістарычных, эканамічных, палітычных і інш. вельмі нядобра адзавецца пры дасьледваньнях Беларусі, калі ўмацуецца самастойная беларуская навука і разгорне свае веды па ўсіх галінах жыцьця.

У дарэволюцыйныя часы архівы на Беларусі ня мелі правільнага кіраўніцтва. Калі з аднаго боку былі організаваны цэнтральныя архівы ў Вільні і Віцебску, куды, галоўным чынам, вывозіліся на захову старадаўныя архіўныя матар'ялы, дык, з другога боку, ўсе ведамственныя архівы зьбіраліся пры ўстановах. Гэта і паслужыла галоўнай прычынай таго, што архівы зьнішчаліся ў час рэволюцыі, калі былі зачынены ўстановы, пры якіх яны знаходзіліся.

У час панаваньня над нашай краінай царскага самаўладзтва даўнейшае Расійскае імпэрыі, усе цікавейшыя архівы, на Беларусі, былі забраны ў цэнтр Расіі. Мы бачылі з дакладаў проф. М. Доўнар-Запольскага, які багаты беларускі архіўны скарб старых часоў знаходзіцца ў Польшчы і РСФСР. Матар'ялы да нашай гісторыі сьцягваліся тады ў Пецярбург і Маскву. Камісія, якая ўтворана ЦВК БССР па рээвакуацыі беларускіх архіўных матар'ялаў устанавіла каля 70 фондаў, якія скл
аліся на Беларусі і былі вывезены ў Расію. І гэта ня лічачы асобных спраў, кніг і дакумантаў, якія маюцца ў архівах і інш. навуковых установах РСФСР і падлягаюць перадачы БССР.

Але, калі беларускія архівы, дзякуючы іх распыленасьці ў старыя часы, пацярпелі ад вайны, окупацый і ў час ужо рэволюцыйнай барацьбы, дык, з другога боку, толькі дзякуючы перамозе рэволюцыі і ўтварэньню Беларускае Савецкае Соцыялістычнае Рэспублікі ўтварылася поўная магчымасьць упарадкаваць архівы Беларусі, зьмесьціць архіўныя матар'ялы ў пэўныя архівасховы, сабраць параскіданыя архіўныя адзінкі з па-за межаў БССР і прывесьці архіўныя фонды ў такі стан, каб можна было карыстацца імі, для практычных і навуковых мэт.

12 верасьня 1922 г. ЦВК БССР выдаў пастанову: Аб палажэньні Цэнтральнага Архіву БССР". Паводле гэтай паста-

новы, ўсе дарэволюцыйныя архівы і скончаныя па дзелаводзтве архівы савецкіх устаноў, павінны захоўвацца ў Цэнтральным Архіве. Загадвае архівамі кіраўніцтва Цэнтральнага Архіву. У кожным павеце (цяпер акрузе) організуюцца аддзелы Цэнтральнага Архіву. Гэта першы закон аб архівах Беларусі, які кладзе пачатак цэнтралізацыі архіўных матар'ялаў БССР.

З утварэньнем Цэнтральнага Архіву БССР пачалася праца па ўпарадкаваньні архіваў. Праўда, яшчэ да ўтварэньня Цэнтральнага Архіву архіўнай справай кіраваў Народны Камісарыят Асьветы, як гэта раней было і ў РСФСР. Пры камісіі па ахове памятнікаў старасьветчыны была сэкцыя па ахове архіваў; гэтая сэкцыя не магла справіцца з упарадкаваньнем архіву, тым больш што яна ня мела і сродкаў і ўся яе праца была накіравана на спыненьне самавольнае продажы архіваў.

З утварэньнем Цэнтральнага Архіву пачалася праца па організацыі і ўпарадкаваньню архіўных фондаў; у студзенісакавіку 1923 г. ўжо організаваліся пры прэзыдыумах павятовых Выканаўчых Камітэтаў аддзелы Цэнтральнага Архіву. Пачалі выяўляцца і падлічвацца архіўныя фонды. Як у цэнтры, так і на мясцох пачынаецца праца па цэнтралізацыі архіўных матар'ялаў.

У 1923 годзе былі прыняты захады да вынаходкі дворных архіваў, якія засталіся на Беларусі. Шмат хто з ваколічнага шляхоцтва ў Беларусі валадаў каштоўнейшымі архіўнымі скарбамі. Архівы Любамірскіх, Радзівілаў, Храптовічаў, Завішаў, Хмараў, Ельскіх і інш. хавалі ў сабе найцікавейшыя першакрыніцы. На жаль Цэнтральны Архіў БССР ня меў патрэбных сродкаў, каб аглядзець найбольш цікавыя двары, з мэтай вынаходак дворных архіваў, наладзіўшы для гэтага камандыроўкі. У выніку зробленых захадаў па выяўленьні дворных архіваў супрацоўнікамі Цэнтральнага Архіву былі агледжаны восьгэткія двары БССР.

1. М. Лагойск, які належаў да б. гр. Тышкевічаў.
2. Двор Стара-Барысаў, які належаў да б. кн. Мікалая Мікалаевіча Раманава.
3. „ Весялова, які належаў да фон-Панцара.
4. „ Крычын „ Кукевічаў і Цундзевіцкіх.
5. „ Сержпутова „ Држэневіча.
6. „ Кімія „ Пятроўскіх.
7. „ Смаляры „ Бачыжмальскага.
8. „ Казімірава „ Сьвянціцкага
9. „ Дзядзілавічы „ Сьлізьняў.
10. „ Будзенічы „ Булгакаў.
11. „ Плешчыніцы „ Тышкевічаў.

12. Двор Мураваны-Двор, які належаў да Буркашова.
13. „ Мсьціж „ гр. Сьлізьняў.
14. „ Хоцюхава „ Брадоўскіх.
15. „ Халопінічы „ Маліноўскага.
16. „ Нова-Барысаў „ Каладзеева.
17. „ Глівень „ Сьвіды.
18. „ Кішчына-Слабада „ Цундзевіцкіх.
19. „ Нежыцы „ Мацьвеева.
20. „ Дзівінявы „ Цундзевіцкага.
21. „ Блонь „ Цундзевіцкага.
22. „ Семкава „ Хмараў.
23. „ Аннопаль „ Хмараў і інш.

У выніку гэтага абсьледваньня пастугілі у Цэнтральны Архіў наступныя дворныя архівы:

Архіў Хмары—з „Семкава-Гарадку", Завішаў, Вайсэнгофа, Прозара, Сямашкі і Немаршанскіх, Ельскіх, Зыбэрга, Абуховіча—з двара Сідзельнікі на Мазыршчыне, Любамірскіх (Дубравенскіх), старадаўныя акты XVI-XVIII сталецьця розных паноў, сабраныя Магілеўскім Аддзелам Аховы Старасьветчыны, і Пячкоўскага.

Апроч таго, што многа архіваў ці каштоўных матар'ялаў з ім было вывезена панамі пры эміграцыі, выявілася некалькі выпадкаў, што дворныя архівы аказаліся вельмі старанна схаванымі. Напр., архіў Хмараў быў замураваны ў сьцяне, архіў у двары Сідзельніках на Мазыршчыне быў зложаны ў абітую жалезам скрыню, і схаваны ў зямлі пад падлогай. Шмат дакумантаў з дворных архіваў трапіла ў прыватныя рукі, адтуль і дагэтуль ня ўзяты. Перад Цэнтральным Архівам стаіць заданьне выявіць і сабраць гэтыя дакуманты, каб яны маглі быць даступны ўсяму грамадзянству. Але падыход да гэтага вельмі цяжкі.

Горш яшчэ справа з царкоўнымі і манастырскімі архівамі. Вядома, усе архіўныя дакуманты да часу ўвядзеньня ў жыцьцё дэкрэту аб адлучэньні царквы ад дзяржавы павінны адыйсьці ў веданьне Цэнтральнага Архіву. Але паступленьне іх у архіўныя ўстановы затрымліваецца часта па шмат якіх прычынах. Што датычыць тых дамоў малітвы, якія самі па сабе зачыняюцца, дык усе архіўныя матар'ялы адтуль передаюцца Цэнтральнаму Архіву або яго акруговым аддзелам.

Што датычыць працы ў самым Менску, дык тут прышлося зразу зьбіраць у вадно месца архівы былых установаў. Архівы гэтыя былі ў вельмі дрэнным выглядзе.

Перакіданыя па некалькі разоў з аднаго памяшканьня ў другое, пасьля выразак установамі з іх чыстай паперы, пасьля „падрыхтоўкі" іх да перадачы на папяровыя фабрыкі

ў часе папяровага крызісу, частковай распродажы іх проста гандляром, архівы дарэволюцыйных установ зьяўляліся кучай паперы, часам напалову падгнілай у вільготных сутарэньнях і хлявох. Уся гэтая папяровая маса патрабавала разборкі, збрашуроўкі асобных лістоў, і, ў далейшым, устанаўленьня на паліцы і пакуль што інвэнтарызацыі. У такім стане былі перавезены ў архівасховы Цэнтральнага Архіву БССР архівы: канцэлярыі Менскага губарнатара, усе аддзелы Менскага Губэрскага Праўленьня, Менскага Губэрскага Дваранскага Дэпутацкага Збору, Нотарыяту, канцэлярыі Менскай Духоўнай Консысторыі, Лесаўпарадкавальнага Камітэту, Менскай Гарадзкой Думы і Управы, Менскай Казёнай Палаты, Мяшчанскай Управы, казённых гімназій мужчынскай і жаночай і інш. Таксама мінулым летам перавезены Червенскі (даўнейшы Ігуменскі) павятовы архіў, у зьвязку з скасаваньнем Чэрвеня, як акруговага гораду. Павятовыя архівы гор. Мсьціслава, разам з рэшткай архіву Тупічаўскага манастыра, часткай перавезены ў Менск, а часткай у Калінінскі Акруговы Архіў. Пачалі зьбірацца друкаваныя кнігі справачнага зьместу (ведамственыя выданьні) і інш. Быў выдадзены загад ЦВК БССР аб перадачы Цэнтральнаму Архіву ўсіх друкаваных выданьняў, якія выходзяць у БССР. Такім парадкам, удалося ўжо пры Цэнтральным Архіве злажыць справачную бібліотэку да 20.000 паасобнікаў.

У пачатку 1924 г. да БССР былі далучаны Віцебшчына і Магілеўшчына, і ўся Беларусь у адміністрацыйным кіраваньні была раёнавана па акругах. Прышлося і ў архіўнай справе зрабіць некаторыя зьмены.

З пашырэньнем БССР на Віцебск і Магілеў Цэнтральнаму Архіву БССР сталі падлягаць багатыя архіўныя сабраньні Віцебску і Магілеву. Дзейнасьць значна была пашырана. Неабходна было прыдаць аднолькавы від архіўнай працы. Паўстала шмат пытаньняў як чыста практычных, так і тэорэтычных.

У зьвязку з такім становішчам, у травені 1924, г. Цэнтраархівам БССР была склікана Першая Ўсебеларуская Конфэрэнцыя Архіўных Працаўнікоў.

У працы Конфэрэнцыі прынялі ўдзел працаўнікі Беларускага Дзяржаўнага Унівэрсытэту, Інстытуту Беларускае Культуры, Гіспарту ЦК КП(б)Б, Дзяржпляну БССР, РСІ і інш. Былі падняты і абгаворваны вось якія пытаньні:

1. Праца і заданьне архіўных установ БССР—даклад З. Жылуновіча.

2. Дзейнасьць Цэнтраархіву РСФСР — даклад проф. У. Пічэты.

3. Менскія архівы з даўнейшых часоў да пачатку XX сталецьця—даклад У. Красьнянскага.

4. Становішча архіўнае справы на тэрыторыі непашыранай Беларусі—даклад М. Мялешкі.

5. Архівы і архіўная праца на Віцебшчыне—даклад Б. Брэжго.

6. Становішча архіўнае справы на Магілеўшчыне—даклад З. Даўгялы.

7. Становішча архіўнае справы на Магілеўшчыне ў першыя гады рэволюцыі 1918—1921 г. даклад І. Сербава.

8. Дзелаводзтва і бягучыя архівы ў Наркаматах, установах Беларусі, і спосабы палепшаньня іх па програме НОП'у, даклад Ракава.

9. Уплыў дагавораў РСФСР з Польшай Літвой і Латвіяй на стан беларускіх архіваў—даклад проф. У. Пічэты.

10. Складаньне архіўных апісаў—даклад З. Даўгялы.

11. Перагляд архіўнага законадаўства БССР—даклад проф. У. Пічэты.

12. Археографічныя працы на Беларусі—даклад З. Даўгялы.

13. Прыёмка, паступленьне, разьмяшчэньне і захова архіўных фондаў—даклад Б. Брэжго.

14. Падрыхтоўка архіўных працаўнікоў—даклад проф. У. Пічэты.

15. Падрыхтоўка архіўных працаўнікоў — даклад Б. Брежго.

16. Разборка архіваў. Разборачныя Камісіі і зьнішчэньне архіўных матар'ялаў—даклад проф. У. Пічэты.

17. Рэорганізацыя архіўнае справы на Беларусі—даклад М. Мялешкі.

18. Бягучыя справы: а) аб вывезеных з Беларусі архівах і іх узвароце, б) організацыя Цэнтральнага Архіву СССР, в) аб царкоўных і манастырскіх архівах.

Зачытаныя даклады на Конфэрэнцыі Архіўных Працаўнікоў Беларусі апрацаваныя Конфэрэнцыяй рэзолюцыі, выраўнялі архіўную справу, ідэёва аб'ядналі беларускіх архівістых і высьветлілі шлях, па якім павінна йсьці творчая праца па ўпарадкаваньні і распрацоўцы беларускіх архіваў на бліжэйшы час. Асабліва Конфэрэнцыя цікавілася падрыхтоўкай архіўных працаўнікоў. Па гэтым пытаньні былі два даклады. І гэта вядома. Каб весьці справу ўмела і карысна, неабходны людзі падрыхтаваныя. Архіўная справа выйшла на шырокі прастор творчай дзейнасьці, расчыніла таямніцы даўнейшых канцэлярый. Архівы сталі ня толькі крыніцамі для вучоных, яны сталі яшчэ і зброяй політычнай барацьбы ў руках пролетарыяту. Архівы сталі зусім інакшымі, чым яны былі да рэволюцыі. І, вядома, пры зьменах архіву павінен зьмяніцца і яго працаўнік. Пытаньне гэ-

тае ня толькі ў нас у Беларусі стаіць на чарзе, яно ў такім становішчы і наагул у СССР. Нам патрэбны дзьве катэгорыі архіўных працаўнікоў: першая група для старадаўных і гістарычных архіваў, дзе патрабуецца апроч тэхнічных ведаў па ўпарадкаваньні і спэцыяльныя пазнаньні, і другая група—гэта масавага архівістага, які павінен быць падрыхтаваны для працы ў ведамственным архіве і архіве Кастрычнікавай Рэволюцыі. Гэтае пытаньне для Беларусі вельмі важна. Ад яго вырашэньня залежыць ня толькі архіўная праца, але яно пэўна адаб'ецца і на лёсе нашай археографіі і нашай гісторыі. Рэзолюцыя па дакладу проф. У. Пічэты на Конфэрэнцыі па гэтым пытаньні знаходзіла неабходным організацыю курсаў і ўтварэньне ў БДУ адпаведнай катадры. Але зьдзейсьніць гэта пакуль што не ўдалося. Цэнтральным Архівам былі прыняты гэтым летам захады да перападрыхтоўкі архіўных працаўнікоў акруговых архіваў. Пры Цэнтральным Архіве існаваў гурток архівістых з супрацоўнікаў Цэнтральнага Архіву, дзе вялася самаадукацыя па архіўнай справе. У сучасны момант пытаньні аб падрыхтоўцы архіўных працаўнікоў ізноў падняты Гісторыка-Археолёгічнай Камісіяй Інстытуту Беларускае Культуры ў зьвязку з зваротам у Беларусь значнага ліку старых Беларускіх архіваў. І, трэба думаць, што, ня гледзячы на ўсе цяжкасьці, справа гэта будзе вырашана, як належыць.

Цяпер аб унутраным стане архіваў. Перш за ўсё, трэба сказаць, што архівы нашы знаходзяцца ў дрэнных будынках. Ніводнае памяшканьне не адпавядае навуковым запатрабаваньням архівасховаў. Усе яны не апальваюцца. Абсталяваны яны драўлянымі стаяліцамі і паліцамі і, дзякуючы недахвату памяшканьня, вельмі перапоўнены. Асабліва перапоўнены Віцебскі архіў, які патрабуе ў сучасны момант безадкладнай разгрузкі.

Усе архіўныя матар'ялы падзяляюцца на свае аснаўныя часткі. Мы маем справу з чатырма відамі архіваў: а) архівы старадаўныя, б) архівы гістарычныя, в) архівы Кастрычнікавай Рэволюцыі і г) архівы, якія яшчэ знаходзяцца пры ўстановах.

Апроч спраў у старадаўным архіве мы маем каля 2.000 асобных дакумантаў XVI-XVII сталецьцяў. Беларускія архівы да XIX ст. знаходзяцца за яе межамі і толькі з іх зваротам мы зможам скласьці архіў старасьвецкіх крыніц.

Што датычыцца гістарычнага архіву, дык ён складаецца з ведамственных архіваў з XIX ст. да часоў Кастрычнікавай Рэволюцыі. Гэты архіў у сваю чаргу падзяляецца на сэкцыі. Вядома, пры цеснаце памяшканьня і да поўнага падліку і апісаньня фондаў гістарычнага архіву, нельга яшчэ па-

водле зьместу групаваць матар'ялы і яны застаюцца згрупаванымі па іх старых ведамствах.

Праўда, праведзена вылучэньне з усіх архіваў і зьмяшчэньне гісторыка-рэволюцыйнага матар'ялу ў асобную сэкцыю. Згрупаваны ў адно месца ўсе дваровыя архівы і па меры ўпарадкаваньня фондаў, у залежнасьці ад зьместу, будзе і ў далейшым праводзіцца прынцып групаваньня матар'ялў паводле зьместу.

Найбольш цікавыя гістарычныя архіўныя фонды ў Менскіх архівах наступныя: архіў Дваранскага Дэпутацкага Сабраньня; частка архіву канцэлярыі Менскага губарнатара і Губэрскага Прысутства з цікавымі справамі аб сялянскім рэволюцыйным руху на Беларусі і аб аграрных непарадках; частка інвэнтарных апісаў, выкупныя акты, рэвізкія казкі, архіў Губэрскай Рысавальнай Камісіі—гэтыя архівы зьяўляюцца цікавымі крыніцамі па зямлябудаўніцтве на Беларусі і аб становішчы сялян за прыгонам; затым, Слуцкага Траецкага манастыра, уніяцкіх біскупаў, часткаю архіў Менскай Духоўнай Консысторыі, часткай Дырэкцыі народных школ, Казённай Палаты: апошні архіў трымае шмат ведаў аб гандлі і прамысловасьці на Беларусі ў старыя часы; Акруговага Суду, Менскай Гарадзкой Управы і Думы, Менскай Губэрскай Зямельнай Управы, Контрольнай Палаты, матар'яльны архіў Беларускага Нацыянальнага Камітэту і часткі архіву Віцебскай Навуковай Архіўнай Камісіі (што датычыцца да паўстаньня 1831 г.) Віленскага Цэнзурнага Камітэту, частка архіваў канцэлярыі Магілеўскага і Віцебскага губарнатара, Менскага Губэрскага Праўленьня, Мяшчанскай Управы, Гарадзкой Управы і Думы, частка архіву фабрычных інспэктароў і інш.

У архівасховы паступіла і паступае маса архіўных матар'ялаў, пры малым штаце архіўных працаўнікоў (па ўсёй БССР ува ўстановах Цэнтральнага Архіву працуе 32 асобы). Гэтага ліку архівістых мала, дзеля гэтага ўва ўсіх архівасховах БССР яшчэ далёка не закончана справа па разборцы і звычайнай інвэнтарызацыі. Але амаль што ўва ўсіх архівасховах Цэнтральнага Архіву разабраны фонд ад фонду і фонды занесены на спэцыяльныя падлічальна-рэгістрацыйныя карткі; зьвернута асаблівая ўвага на складаньне інвэнтарных апісаў; усяго па акруговых архівах апісана 21.446 спраў і 375 кніг, і па Цэнтральным Ахіве 11.1375. Робіцца перагляд спраў па старых апісах. Па некаторых фондах мяркуюцца навуковыя апісы.

Праведзенае частковае ўпарадкаваньне з восені мінулага году дало магчымасьць адчыніць архіўныя сховы для карыстаньня архівамі ўстановам і грамадзянству.

Архіўныя фонды, якія згрупаваны цяпер у вархівасховах Цэнтральнага Архіву ў Менску, Віцебску, Магілеве і іншых акруговых гарадох, зьмяшчаюць у сабе шмат каштоўнага матар'ялу; яны павінны будуць высьветліць шмат якія пытаньні ў гісторыі Беларусі. Наперадзе яшчэ беларускага архівістага чакае шмат працы; як мы бачылі, яшчэ ня ўсе архівы сабраны ў архівасховы, яшчэ далёка ня скончана праца па ўпарадкаваньні, падліку, разьмяркаваньні, навуковым апісаньні і г. д.

Цікавасьць, якая выяўляецца цяпер да архіваў нашымі навуковымі, дзяржаўнымі і палітычнымі ўстановамі, патрабуе пільнае ўвагі да архіваў. Зьмест архіваў не павінен быць „тайнай"; усё тое, што хавалася царскай уладай, цяпер павінна стаць вядомым шырокім рабочым і сялянскім колам.

Заданьнем нашых архіваў ёсьць ня толькі сабраць і захаваць веды мінулага, але і паказаць гэтыя веды шырокім колам грамадзянства, зрабіць архіў жывой установай, неабходнай як для навуковых досьледаў, так і для практычных мэтаў у будаўніцтве Савецкай Беларусі.

А. Ясенеў.

# Навуковае значэньне Віцебскага Акруговага Аддзелу Цэнтральнага Архіву БССР.

У Віцебскім Акруговым Аддзеле Цэнтральнага Архіву БССР цяпер налічваецца 178 архіўных фондаў: 104 дарэволюцыйнага часу і 74—рэволюцыйных устаноў. Самы найвялікшы фонд—Віцебскага Губэрскага Праўленьня. У гэтым фондзе захаваліся кнігі, справы і дакуманты, пачынаючы аж з XV—XVII сталецьцяў, большасьць з іх канца XVIII—XIX сталецьця, шмат маецца ад XX сталецьця.

Усе матар'ялы Віцебскага Акруговага Аддзелу Цэнтральнага Архіву БССР (178 фондаў) можна падзяліць так:

І. Архіў па кіраўніцтве краем—справы б. гэнэрал-губарнатара Смаленскага, Магілеўскага, Віцебскага і Калускага, з 1803 г. да 1856 г. (год зьнішчэньня генэрал-губарнатарства). Складаецца ён з 774 зьвязак, 111 кніг. Праўда, да гэтай лічбы далучаны архіў Віцебскага ваеводзтва 1772 году. У гэтым фондзе захаваўся плян Віцебску XVIII сталецьця, справа аб будоўлі ратушы, аб вайне 1812 г., аб дэкабрыстых на тэрыторыі Віцебскай губэрні, аб раскольніках, аб польскім паўстаньні і паўстанцах 1831 г., аб прыгонных сялянах. Гэты архіў вельмі добра захаваўся, справы сшыты ў сшыткі-кнігі, большасьць з іх у палатняных вокладках. Частка спраў з гэтага фонду адаслана у Менск, у Цэнтральны Архіў. (На ўвесь гэты архіў ёсьць апісы).

Ня менш цікавым з гэтага аддзелу зьяўляецца фонд канцэлярыі Віцебскага губарнатара, (з 1807 г.,) 2.599 зьвязак, 511 кніг і архіў Віцебскага Губэрскага Праўленьня (з 1782 да 1917 г.) 10.192 зьвязак, 2.172 кнігі. Да іх трэба яшчэ далучыць архіў Віцебскага губ. страпчага з 1856 да 1856 г., 2 зьвязкі (на гэты фонд ёсьць апіс). У гэтых фондах можна знайсьці справы аб звальненьнях ад службы ў адміністрацыйным парадку, высылкі на жыцьцё за абшары Віцебскай

губ., вобыскі, дазнаньні, політычныя справы за 1903 і 1906 г. г., справы аб барацьбе з соцыялістымі і сялянскім аграрным рухам, сялянска-гаспадарчыя і адміністрацыйныя справы, пастановы аб адчыненьні або зачыненьні розных грамадзянскіх гурткоў, організацый, газэтныя справы, разгон рэволюцыйных дэмонстрацый.

II. Архіў Віцебскай Навуковай Арх. Камісіі, каля 800 нумароў спраў, з 1693 да 1924 г. З гістарычна-навуковага боку гэты фонд вельмі каштоўны. У ім дасьледчык знойдзе і грамату польскага караля Станіслава Аўгуста аб дараваньні Невелю Майдэборгскага права, матар'ялы аб польскім паўстаньні 1831 і 1863 г. г., сакрэтныя лісты архібіскупа Лужынскага па злучэньні вуніятаў з праваслаўнымі; справы езуітаў, справы аб арыштанце Ільлі Мікіціне. Частка гэтага фонду адаслана Цэнтральнаму Архіву БССР, частка згінула ў мінулыя гады. Архіў даволі добра апісаны.

III. Архіў зямельна-маёнткавы, 4 фонды, 521 зьвязка, 3 кнігі, з 1834 да 1900 г. З гэтых фондаў вельмі каштоўны і багаты матар'ял знаходзіцца ў люстрацыйным фондзе і ў фондзе губ. рысавальні: цікавыя зямельныя справы, перадзелы маёнткаў, іх інвэнтары, розныя пляны па разьмежаваньні зямель, новыя сялібы і іх стан. Дзеля спэцыялістых гэты архіў вельмі цікавы, ён амаль што нікім не чапаны. Маюцца апісы. Да гэтага фонду трэба далучыць архіў пры Віцебскім Акруговым Зямельным Аддзеле. Гэты архіў знаходзіцца ў парадку, у ім маюцца вельмі каштоўныя матар'ялы: пляны і справы па разьмежаваньні з 1784 г. да 1925 г., справы і кнігі з 1874 да 1925 г. Складаюцца падрабязныя апісы.

IV. Архіў судовы, 8 фондаў—1.125 зьвязак, 235 кніг, з 1776 да 1923 г. Гэты архіў мае справы з XVI, XVII і XVIII стагодзьдзя суду шляхоцкага, а таксама новага суду пасьля рэформы. Цікавы фонд—прокурора акр. суду. Шкода, што няма апісаў. Гэты архіў таксама мала дасьледваны. У гэты-ж фонд уваходзіць архіў даўнейшага Віцебскага Акруговага Суду і нотарыяльны архіў. Ёсьць картатэка.

V. Архіў земскага кіраўніцтва—4 фонды, 188 зьвязак, 22 кнігі—з 1851 да 1918 г. Архіў вельмі цікавы з боку вывучэньня земскіх устаноў, гаспадаркі: земскія падаткі, будаўніцтва, організацыя земскіх школ, іх стан, пабудова шляхаў, шпіталі і г. д. Архіўны матар'ял мала вывучаны. Апісаў няма.

VI. Архіў мясцовых дваранскіх устаноў—9 фондаў, 935 зьвязак, 1.710 кніг,—з 1791 да 1921 г. Гэтыя архіўныя фонды маюць вялікую навукова-гістарычную вартасьць. У іх

мы знойдзем і пастановы магістратаў, і нормы мясцовых падаткаў, і справы аб пасэсіях-водкупах і пастановы цэхаў. Знаёмімся мы таксама з гандлёвым рухам: кірмашамі, гандлярскімі „гельдамі“, мясцовым самакіраўніцтвам. Дасьледчык сустракаецца тут і з яскравымі малюнкамі мясцовага жанру, і з панцырнымі баярамі і з шляхтай, а таксама знойдзе шмат цікавых мастацкіх малюнкаў па герольдыцы і генэалёгіі.

Апроч Віцебскага па мясцовых і земскіх справах Праўленьня, Мяшчанскае Управы, маюцца цікавыя фонды Віцебскага і Віленскага Дваранскія Дэпутацкіх Збораў. Большасьць з гэтых фондаў ня маюць апісаў. Да гэтай катэгоры трэба аднесьці і архіў пры Віцебскім Комунальным Аддзеле. У ім ёсьць 24.436 спраў і 2.150 кніг—з 1794 да 1915 г., Віцебскае Рамесьніцкае Управы, Думы, і Комунальнага Аддзелу. Архіў захоўваецца ў асобным памяшканьні ў парадку і мае вялікую вартасьць з боку вывучэньня мясцовага жыцьця—рэвізкія казкі, справы Мяшчанскай і Рамесьніцкай Упраў, Думы і Комунальнага Аддзелу.

VII. Архіў розных дваранскія забясьпек і таварыстваў дапамогі, 19 фондаў, 1.776 зьвязак, з 1778 да 1917 г. Паводле гэтых матар'ялаў дасьледчык мае поўную магчымасьць пазнаёміцца з характарам грамадзкае дапамогі і з яе ўзростам і заняпадам ад часу Кацярыны II і да сучаснай эпохі, а таксама з лікам бядноты. Катэгорыя гэта зусім не распрацавана. Апісаў няма.

VIII. Архіў народнае асьветы, 17 фон., 89 зьвязак, з 1805 да 1905 г. Надта багаты архіў, але зусім не чапаны. У ім можна знайсьці шмат вельмі рэльефных малюнкаў старадаўнай і новай школы, гімназій, сэмінарый, розных вышэйшых і ніжэйшых павятовых школ, іх сродкі, будынкі, плян вывучэньня, каштарысы, клясовыя адценьні як настаўнікаў, так і вучняў. Гэтыя фонды амаль што зусім не разабраны і не дасьледваны. Апісаў няма.

IX. Архіў вастрожны, 1 фонд, 141 зьвязка, з 1849 да 1915 г. У гэтым фондзе для дасьледчыка ёсьць яскравы матар'ял аб вастрожным быце ў часы царызму: біцьцё арыштаваных, асаблівыя зьдзекі над політычнымі, саджаньні ў адзіночкі, на хлеб і ваду, протэсты арыштаваных; жыцьцё політычных і крымінальных арыштаваных. Над гэтым фондам таксама працавалі мала. Апісаў няма.

X. Архіў будаўніцтва і шляхоў,—2 фонды, 191 зьвязка, 225 кніг,—з 1830 да 1892 г. Матар'ялы цікавыя з боку гісторыі будоўлі і адчыненьня шляхоў на Віцебшчыне, асабліва дзеля спэцыялістых. Матар'ялы гэтыя зусім не апрацаваны, ня маюць апісаў.

XI. Архіў харчовых установ, 4 фонды, 1.294 зьвязкі, 77 кніг, 18 спраў. У гэтых фондах, вельмі каштоўных, маецца шэраг архіўных матар'ялаў, якія могуць даць поўны малюнак, аж ад 1806 г. да сучаснага моманту, продукцыйнага ўжытку як на вёсцы, так і ў гарадох. Пачаткі разьвіцьця коопэрацыйнага руху, велічыню рыначных цэн на продукцыю і на тавары, уплыў на гэтыя органы адміністрацыі. Асабліва каштоўны дзеля навукі архіў Вольна-Экономічнага Таварыства на Беларусі. Апісы гэтых фондаў ёсьць.

XII. Архіў дзяржаўнае забясьпекі, 3 фонды, 3 зьвязкі, 809 спраў, з 1918 г. да 1923 г. Матар'ял выключна рэволюцыйнага часу, зусім не парушаны. Дасьледчык тут знойдзе матар'ял па соцыяльнай забясьпецы, па адчыненьні дарэмных харчаваньняў і сталовак, дапамозе грашыма, вопраткай і продуктамі, эвакуацыйныя пункты, Камітэт Пасьледголу Паваложжа. Апісаў няма.

XIII. Архіў статыстычны, 1 фонд, 119 зьвязак, 36 кніг, з 1853 да 1919 г. Гэты фонд для гісторыі і навукі на Беларусі мае вялікую вартасьць: у ім знаходзяцца статыстычныя матар'ялы ўсіх установ: статыстычна-фабрычнай дзейнасьці і гаспадаркі народнае асьветы, здароўя, рэлігійных культаў, лік людзей і жывёлы, справаздач па губэрні за шмат гадоў. Падрабязных апісаў няма.

XIV. Архіў транспорту, 1 фонд, 42 зьвязкі,—з 1803 г. да 1843 г. Дасьледчык у гэтым фондзе знойдзе матар'ял па вывучэньні стану старадаўнага транспорту на Беларусі: сплаве па Дзьвіне плытоў, лайбаў, судоў. Апісаў няма.

XV. Архіў Дзяржаўнай Думы, 4 збораў і дзяржаўнага сойму—„Устаноўчага Сойму", 2 фонды, 35 зьвязак, з 1905 да 1917 г. Апісаў няма.

XVI. Архіў грашовы, 8 фондаў, 210 зьвязак, 421 кніга, 111 спраў,—з 1772 да 1923 г. На падставе гэтага фонду дасьледчык мае магчымасьць даць навуковае апісаньне грашовага руху на Беларусі аж ад першага паддзелу Польшчы і дагэтуль, адчыненьні і ўзрост банкаў, крэдытных гурткоў і таварыств вылічэньне падаткаў, дзяржаўныя бюджэты. Апісаў няма, архіў зусім не чапаны.

XVII. Архіў рэлігійны, 4 фонды, 2 зьвязкі, 957 кніг,—з 1839 да 1900 год. У гэтых фондах можна знайсьці і шмат матар'ялаў аб руху раскольнікаў і вуніатаў і аб жыцьці, наагул, праваслаўнай царквы. Да гэтага архіву трэба далучыць і вельмі каштоўны і цікавы для гістарычнай навукі архіў даўнейшай Полацкай Духоўнай Консысторыі, з 1552 да 1915 г. Сюды трэба дадаць і вельмі багатыя матар'ялы Маркаў-

скага і Тадулінскага манастыроў, пачынаючы з 1840 г. да 1917 г. На жаль, амаль што ня ўсе памянёныя рэлігійныя фонды ня маюць зусім апісаў і не разабраны.

XVIII. Архіў аховы здароўя, 2 фонды, 377 зьвязак, 100 кніг, з 1812 да 1918 г. Матар'ялы гэтага архіву вельмі цікавыя для мэдыцыны: тут і апісаньні і статыстыка розных хвароб і веды адносна мэдыцынскага пэрсоналу, і сродкі, і каштарыс, і будоўля шпіталяў і іх стан. Архіў амаль што зусім не чапаны. Частка апісаў ёсьць.

XIX. Архіў паліцыі і жандармаў, 9 фондаў, 105 зьвязак, 19 кніг,—з 1862 да 1923 г. Гэты архіў мае вялікую вартасьць з боку палітычнай гісторыі і крыміналу аж да 1862. Дасьледчык мае магчымасьць даволі поўна напісаць гісторыю гэтых інстытутаў. Апісы ёсьць, праўда, не падрабязныя.

XX. Архіў губэрска-вайсковых і грамадзянскіх устаноў, 7 фондаў, 953 зьвязкі, 10 кніг, з 1834 да 1924 г. У гэтых фондах знаходзіцца цікавы архіўны матар'ял па рэкрутчыне, тыповыя малюнкі з жыцьця войска, матар'ялы аб пастоях войск па кватэрах, аб дысцыпліне, вайскова-сьледчыя справы. Апісы ёсьць, але не на ўсе фонды.

XXI. Архіў вайскова-навуковых курсаў, 1 фонд, 1.984 спраў і кніг з 1918 да 1924 г. Ёсьць здатачныя апісы.

XXII. Архіў розных вайсковых кадравых часьцей, 12 фондаў, 3.881 спраў і кніг, 23 зьвязкі, з 1910 да 1924 г. Шкода, што не разабраны. Апісы ёсьць толькі здатачныя.

XXIII. Архіў розных мясцовых устаноў, 17 фондаў, 2.734 спраў і кніг, 4 зьвязкі,—з 1873 да 1924 г. Гэтыя архіўныя фонды маюць вялікую вартасьць для розных вайсковых спэцыялістых. Таксама гэтыя архівы ў большасьці сваёй не разабраны, ёсьць часткова здатачныя апісы.

XXIV. Архіў гандлёва-прамысловы, 1 фонд, вельмі малы, адно аддзяленьне дзярж. швэй-машыны б. Зінгера. Маюць вартасьць толькі для спэцыялістых.

Дзеля вытлумачэньня пытаньняў аб карыстаньні архівам, трэба заўважыць, што па галоўным архівасхове маецца сыстэматычны альфабэт-каталёг на расійскай мове. Праўда, у гэтым каталёзе з навуковага боку ёсьць памылкі і недахваты, з прычыны чаго ім карыстацца трэба вельмі асьцярожна. Апроч гэтага каталёгу, пры архіве ёсьць шмат розных, праўда, трохі застарэлых, альфабэтаў, апісаў і паказальнікаў, якія складзены былі ў архівах розных даўнейшых устаноў.

У заканчэньне пералічваем архіўныя фонды, якія вывезены ў апошнія гады перад рэволюцыяй з межаў Віцебшчыны.

У імпэрыялістычную вайну эвакуаваны быў шэраг архіваў, якія ня зьвернены ў Віцебск і дагэтуль: 1) Архіў Полацкага Кадэцкага Корпусу разабраны ў колькасьці 375 спраў, захоўваецца ў акта-схове № 1 Сімбірскага Губ. Архіву. 2) Архіў Полацкага Духоўнага Мужчынскага Вучылішча, прыведзены ў парадак і інвэртарызаваны, знаходзіцца ў цэнтральным акта-схове Уладзімірскага Губ. Архіву. 3) Архіў Полацкага Спаса-Ефрасіньнеўскага Жаночага Духоўнага Вучылішча эвакуаваны ў г. Растоў, Яраслаўскай губ. 4) Апроч гэтага, з Полацкага даўнейшага павету вывезены ў Маскву і зьмешчаны ў схоў Цэнтральнага Архіву фамільны архіў Убры. 5) Архіў Дзьвінскага Ваенна-акруговага Суду вывезены ў Ніжні-Ноўгарад.

---

**Васіль Дмітрыеў.**

# Смаленскія архіўныя фонды.

*(Кароткі агляд стану і зьместу архіваў перадрэволюцыйных часоў).*

Архіўная справа ў перадрэволюцыйнай Расіі заўсёды была ў загоне, ёй аддавалі мала ўвагі. І толькі Савецкі ўрад, сваім дэкрэтам ад 1-га чэрвеня 1918 г., прызнаў за ёю дзяржаўнае значэньне і абвесьціў усе архівы ўрадавых установаў, як ведамственныя ўстановы, зьліквідаванымі і ўвайшоўшымі ў склад Адзінага Дзяржаўнага Архіўнага Фонду, і тым самым адчыніў у гісторыі архіўнае справы „новую старонку“.

Гэты законадаўчы акт знайшоў архівы амаль ня ўсіх установаў Смаленскае губ., як урадавых, так і грамадзкіх, у надзвычайна цяжкім становішчы, бо яны, з прычыны ліквідацыі іхніх установаў, засталіся без дагляду і зрабіліся здабычаю ўсялякіх выпадковасьцяў. Архівы гэтыя рабаваліся, часта зусім бяз мэты, раскурваліся, прадаваліся на рынках і ў дробных крамах і г. д. Такое зьявішча, праўда, цягнулася нядоўга, і супроць яго загаварыў голас грамадзкага сумленьня. У мясцовай газэце „Известия Смоленского Совета Рабочих, Солдатских и Крестьянских Депутатов“ была надрукавана заметка аб тым, што патрэбна концэнтрацыя і захаваньне архіваў. Хутка потым зьявілася таксама заметка Ружанцова „Причины разгрома Смоленских архивов“, у якой аўтар, апіраючыся на даклад вядомага архіўнага дзеяча Смаленскае губэрні В. І. Грачова, гаварыў, што галоўнаю прычынаю зруйнаваньня архіваў гор. Смаленску, зьмешчаных у вежах крэпаснога муру, зьявілася тая акалічнасьць, што архівы гэтыя, дзякуючы неперадбачліваму загаду адміністрацыі, былі неразважліва выкарыстаны для зусім чужых архіўнай справе мэт, у гэтых вежах складалася больш-менш каштоўная маёмасьць бежанцаў і ўстаноў, эвакуаваных у гор. Смаленск з іншых мясцовасьцяў у час імпэрыялістычнае вайны. Вось гэта і прывабіла да архіўных веж натоўпы граміл і зладзеяў, якія, пачаўшы з каштоўных рэчаў, перайшлі потым

да раскрадваньня і зьнішчэньня архіўных матар'ялаў. Другою прычынаю зьявілася, як і ўсюды, поўная нядбайнасьць да архіваў. Архіўныя матар'ялы пачалі выкідаць з канцэлярый у хлявы, на вышкі і іншыя падобныя месцы, дзе яны былі без дагляду і раскрадваліся. Шмат матар'ялаў згінула таксама ў часе ўсялякіх перавозак устаноў з аднаго будынку ў другі.

Вось пры якіх умовах пачало дзейнічаць у 1919 г. „Губернское Архивное Управление". Яно фактычна пачало працаваць толькі з 16 сакавіка 1919 г., калі быў зацьверджаны штат для кіраўніцтва, а перад гэтым быў адзін упоўнаважаны Галоўнага Кіраўніцтва архіўнаю справаю, профэсар Лапчынскі. Спачатку свае дзейнасьці Кіраўніцтва занялося падлікам, абсьледваньнем і концэнтрацыяю архіўных фондаў. Праца гэтая йшла ў надзвычайна цяжкіх умовах: то ня было сродкаў для паездак і іншых патрэб, то ня было памяшканьняў, дзе было-б магчыма сабраць архіўныя фонды. Ня гледзячы і на гэтае, усё-ж-ткі Губэрскаму архіву ўдалося сёе-тое зрабіць. Аб некаторых выніках працы Губэрскага архіву за ўвесь час яго існаваньня, я і хачу цяпер сказаць.

На 1 студзеня 1926 году па падліку Губэрскага Архіўнага Бюро былі 1.263 архіўныя фонды; з іх: перадрэволюцыйнага часу—1.018 і пасьлярэволюцыйнага часу—245. У беспасрэдным-жа веданьні за той-жа тэрмін знаходзілася: у Смаленску 287 фондаў, з іх: перадрэволюцыйнага часу—74 і пасьлярэволюцыйнага—113. У павятовых гарадох павятовых архіваў—197, з іх: перадрэволюцыйных—79 і пасьлярэволюцыйных—118. Разабрана спраў 191.835 і запісана ў інвэнтарных сьпісах 171.991.

Падлік архіўных фондаў рабіўся падвойным чынам: шляхам асабістага агляду супрацоўнікамі і шляхам рассылкі запытальных лістоў, прычым першы спосаб, зразумела, даў больш вынікаў, чымся другі. Запытальныя лісты былі разасланы па валасьцёх і царквох. Атрыманыя гэткім чынам зьвесткі далі магчымасьць высьветліць поўны малюнак стану архіваў у Смаленскай губэрні. Так, з сабраных па 255 валасьцёх зьвестак аб валасных архівах выявілася, што архіўных матар'ялаў захавалася поўнасьцю—4 проц., захавалася часткова—6,7 проц.: зьнішчана: пажарам—15,7 проц., бандытамі—6,7 проц., паўстаньнямі—20,4 проц., ужыта на канцэлярскія патрэбы—18 проц.; зьнішчана з невядомых прычын—25 проц., і не заведзена—3,5 проц. З гэтага відаць, што найбольш зьнішчана архіваў ад невядомых прычын; потым вялікі лік архіваў згінуў ад паўстаньняў.

Папяровы голад, які быў у першыя гады рэволюцыі, таксама многа згубіў архіўных матар'ялаў.

У лепшым стане былі архіўныя фонды павятовых установ, хоць і яны таксама вельмі зьнішчаліся і раскрадваліся. З іх найбольш было зьнішчана ў Гжацкім і Дзямідаўскім паветах. У Гжацкім павеце з архіваў перадрэволюцыйнага часу, апроч царкоўных, нічога не захавалася, і найменш—у Сычоўскім і Смаленскім паветах. Найбольш захаваліся архівы губэрскіх установ і цэркваў губэрні.

Цяпер аб тым, што захавалася ў архівах, і аб навуковым значэньні. Архіўныя фонды Смаленску зьмяшчаюць у сабе шмат каштоўных гістарычных матар'ялаў. Тут іх, як у адміністрацыйным цэнтры, найбольш.

Адным з найкаштоўнейшых і найвялікшых архіваў зьяўляецца *архіў Губэрскага Праўленьня*, які зьмяшчае ў сабе звыш мільёну спраў. Тут захаваліся справы з 1813 г., матар'ялы-ж да 1812 г. зьнішчаны войскам Наполеона.

У гэтым архіве зьмяшчаецца шмат каштоўнага і рознастайнага матар'ялу. Тут можна знайсьці многа цікавага для вывучэньня мінулага Смаленшчыны па шмат якіх пытаньнях, пачынаючы з гісторыі і канчаючы рэволюцыйным рухам і змаганьнем з ім царскага ўраду. Дадатковыя матар'ялы аб рэволюцыйным руху можна атрымаць з архіваў Губэрскага Жандарскага Упраўленьня, Паліцэйскіх Упраўленьняў і, нарэшце, з архіву Акруговага Суду.

Другім архівам, які бязумоўна мае вялікае гістарычнае значэньне, зьяўляецца *архіў Губэрскага Акруговага Суду*, у якім налічваецца прыблізна каля 220.000 спраў і кніг. У гэтым архіве ёсьць справы, пачынаючы з 15 лютага 1813 году. Апроч матар'ялаў гістарычна-рэвоцюцыйнага зьместу, тут хаваюцца матар'ялы бытавога характару, а таксама матар'ялы па гісторыі цэлага шэрагу юрыдычных установ, якія дзейнічалі з 1813 г. у Смаленшчыне.

Вялікі лік рознастайнага гістарычнага матар'ялу зьмяшчаецца ў *архіве Губэрскай Земскай Управы*. Тут можна адшукаць досыць многа каштоўных зьвестак па народнай асьвеце, ахове здароўя, дарожным будаўніцтве, экономіцы і па іншых пытаньнях. Справы хаваюцца з 1865 году. Апроч таго, у гэтым архіве знаходзіцца яшчэ архіўны фонд загаду грамадзкае апекі (приказы общественного призрения), на які, згодна статуту, выдадзенаму яшчэ пры Кацярыне II, былі ўзложаны асьветныя і дабрачынныя справы.

Бязумоўна, у гістарычных адносінах, вельмі каштоўны *архіў Гарадзкой Управы*, у якім зьмяшчаецца шмат матар'ялаў па топографіі гораду Смаленску, упарадкаваньні, гарадзкіх пабудовах і інш. У вархіве ёсьць справы з 1802 г.

З іншых архіваў экономічнага характару небходна адзначыць архівы: Казённай Палаты, Губэрскага Акцызнага Упраўленьня, Банкаў, Палаты Дзяржаўных Маёмасьцяй, фабрык і заводаў. У першым з памянёных архіўных фондаў захавана шмат матар'ялаў, якія малююць фінансавы стан губэрні, а таксама разьвіцьцё гандлю і промыслаў. Гэта адзін з архіваў, які зусім захаваўся да гэтага часу. Архіўны матар'ял адбівае дзейнасьць Палаты з 1829 году, але ёсьць рукапісы і XVIII сталецьця: 3 рэвізскія сказкі,—адна 1782 г. і дзьве 1795 г. З банкаўскіх архіваў найбольш цікавыя архівы Дваранскага і Сялянскага Пазямельных банкаў, якія зьмяшчаюць у сабе шмат матар'ялаў, патрэбных для вывучэньня гісторыі зямляўласнасьці ў мясцовым краі.

Багаты матар'ял знойдуць сабе ня толькі гісторык, экономісты, але і вытворнік-практык у архівах фабрык і заводаў.

Архівы вучэбных устаноў і Дырэкцыі народных вучылішч зьмяшчаюць у сабе шмат каштоўнага матар'ялу па народнай асьвеце.

Вялікае значэньне мае архіў Духоўнае Консысторыі, які зьяўляецца адным з найстарэйшых архіваў Смаленску. Ён зьмяшчае ў сабе матар'ялы аб розных сэктах і рэлігійных плынях у Смаленшчыне. У ім ёсьць справы з 1723 г.

## 1. Архіўныя фонды, якія знаходзяцца ў беспасрэдным веданьні Губэрскага Архіўнага Бюро.

*1. Архіў Губэрскага Праўленьня* зьмяшчаецца ў трох вежах крэпаснага муру: Грамовае, Донец і Махавое. Гэтыя вежы ня годныя для хаваньня архіваў: яны сырыя і цёмныя. У даным архіве сабраны наступныя фонды: канцэлярыі губарнатара, Губэрскага Праўленьня з аддзяленьнямі будаўнічым і мэдычным, Губэрскага Статыстычнага Камітэту, Губэрскіх Прысутстваў: па земскіх і гарадзкіх справах і вайсковай павіннасьці, Губэрскай друкарні і Камісіі Народнага Харчаваньня. Кніг і спраў мусіць было перад рэволюцыяю звыш 1 мільёну. У архіве хаваюцца справы з 1813 году, а да 1812 г. зьнішчаны войскам Наполеона. Гэта адзін, як адзначалася вышэй, з каштоўных архіваў губэрні, які зьмяшчае ў сабе шмат гістарычных матар'ялаў па рознастайных пытаньнях мясцовага жыцьця. У часы рэволюцыі гэты архіў крыху пацярпеў ад зламысьнікаў. Бягучае дзелаводзтва канцэлярыі губэрнатара, якое засталося пры канцэлярыі, у 1919 г. выпадкова было знойдзена В. І. Грачовым у аддзяленьні № 33 Смаленскага Спажывецкага Таварыства, якое купіла гэтыя справы для акрыўкі тавараў. Гэтыя справы былі безадкладна перавезены ў губэрскі архіў. Сярод іх аказалася нямала спраў па рэволюцыйным руху за 1905—1908 г. г.

Цяпер справы гэтыя ўпарадкаваны і ўнесены ў сьпіс. Часткаю захаваліся старыя сьпісы, але да гэтага часу яшчэ не ўдалося праверыць па іх, ці ёсьць усе справы [1]).

*Архіў Акруговага Суду і Нотарыяльны* зьмяшчаецца ў Волакавай вежы, пабудаванай у 1596 годзе і прыстасаванай да архіву ў 1875 г. Памяшканьне ня зусім сьветлае, у ніжнім паверсе—сырое, не апальваецца, ад пажару бясьпечнае. Справы судовага архіву пачынаюцца ад 15 лютага 1813 году і адбіваюць дзейнасьць наступных устаноў: Палат Грамадзянскага і Карнага Суду, павятовых судоў, магістратаў, ратуш, сумленнага і акруговага судоў. У цяперашні час агульны лік спраў і кніг архіву вызначаецца ў 220.000 рэчаў. Частка спраў судовага архіву ў 1905 годзе была прызначана да зьнішчэньня, але на шчасьце ня зьнішчана. Справы разложаны на паліцах. Сьпісу спраў цяпер няма, быў ён у 1899 г. Да спраў ёсьць альфабэты, зложаныя па прозьвішчах. У цяперашні час складаецца новы архіўны сьпіс. У Нотарыяльным архіве знаходзіліся справы старэйшага і малодшых нотарыусаў Смаленскае губэрні па зацьвярджэньні, утварэньні і замацаваньні імі ўсялякага роду актаў, умоў і дагавораў з 1870 г. У цяперашні час ад гэтага архіву засталося нямнога спраў і кніг.

*Губэрскае Жандарскае Упраўленьне.* Большая частка архіву была спалена 3 сакавіка 1917 г., аб чым мы знаходзім падрабязьнейшыя паказаньні ў артыкуле В. І. Грачова „Архівы гораду Смаленску“ (рукапіс), дзе ён вось як апісвае малюнак зьнішчэньня гэтага архіву: „Усе пакоі Упраўленьня давалі поўны малюнак зруйнаваньня,—шафы адчыненыя, справы і кнігі выкінутыя і многія парваныя, сталы паламаныя, на падлозе пакі парваных спраў і аркушоў паперы. На дварэ Упраўленьня аграмаднае вогнішча са спраў, двор пакрыты парванымі справамі“...

Справы, якія засталіся пасьля пажару, у 1919 г. былі перавезены ў губэрскі архіў. Сярод іх ёсьць справы ўстаноў: Унтэр-афіцэраў дадатковага штату ў гарадох Ельні, Дарагабужы і інш., памоцніка начальніка па Раслаўльскім павеце, аддзяленьня Маскоўска-Віцебскага Жандарска-Паліцэйскага Упраўленьня чыгункі і Ельнінскага аддзяленьня Маскоўска-Камышынскага Жандарска-Паліцэйскага Упраўленьня чыгункі. Справы ахопліваюць дзейнасьць гэтых устаноў за часы, пачынаючы ад 1857 г. да 1917 г. На ўсе справы

[1]) Пад архівы Губэрскага Архіўнага Бюро заняты 10 памяшканьняў, з іх 7 веж крэпаснага муру, мураваны хлеў і 2 мураваныя будынкі, спэцыяльна прыстасаваныя да захаваньня архіваў: будынак былой Духоўнай Консысторыі і архіў Контрольнае Палаты.

зложаны сьпіс. Сярод іх ёсьць досыць многа каштоўных матар'ялаў па рэволюцыйным руху ў Смаленскай губэрні.

*Архіў Павятовага Зьезду* зьмяшчае ў сабе справы наступных установ: міравых судзьдзяў, 4-х земскіх начальнікаў, 2-х гарадзкіх судзьдзяў, Павятовага Зьезду і Дваранскае Апекі за часы ад 1865 да 1917 г. Ёсьць старыя сьпісы. Усяго спраў каля 100 тысяч.

У архіўных фондах *гарадзкіх прыставоў 2-га і 3-га вучастку гор. Смаленску* зьмяшчаюцца ўсяго 178 адзінак захаваньня, пачынаючы ад 1872 г. да 1917 г. Справы разабраныя і маюць сьпісы.

Апроч таго ў веданьні Губэрскага Архіўнага Бюро знаходзяцца наступныя фонды: Смаленскага катаржнага вастрогу губэрскага вастрогу і зысковага аддзяленьня. Першыя два фонды маюць аграмаднейшы інтарэс у гістарычна-рэволюцыйных адносінах.

*Архіў Контрольнае Палаты* хаваецца ў асобным будынку, спэцыяльна прыстасаваным да яго. Агульны лік спраў невядомы. Справы разьмеркаваны на 3 катэгорыі: першая—справы, якія павінны быць захаваны назаўсёды, за часы 1877—1917 г., другая—справы 1877—1917 г.г., якія павінны быць зьнішчаны праз 10 год, і трэцяя—справы, якія зьнішчаюцца безадкладна, як скончыцца ўсякае дзелаводзтва па іх. Частка спраў унесена ў сьпісы, частка з іх зьвязана ў пакі без усялякіх сьпісаў. Некаторая частка спраў рахунковае справаздачы за ранейшыя гады, дзеля сканчэньня тэрміну хаваньня, зьнішчана, згодна пастановы Разборачнае Камісіі Губэрскага архіву, якая была зацьверджана Паверачнаю Камісіяю Цэнтральнага Архіву, 22 ліпеня 1923 году.

*Архіў Губэрскае Земскае Управы* зьмяшчаецца ў Даўгачэўскай вежы. У 1917 г. ён часткаю быў зруйнаваны, але цяпер адбудаваны. Агульны лік спраў мусіць каля 12 тысяч за час ад 1865 да 1917 г. Ёсьць сьпіс. Апроч таго ў гэтым архіве хаваецца яшчэ архіўны фонд „Приказа общественного призрения". Таварыства Ўзаемнага Крэдыту мае справы ад 1871 году, г. зн. ад дня адчыненьня. Некаторая частка гэтых спраў была раскрадзена, а тыя, якія засталіся, хаваюцца ў губэрскім архіве. Сьпісаў няма.

*Архіўны фонд Гарадзкой Управы* хаваецца ў Кастырэўскай вежы, а да гэтага зьмяшчаўся на гары дому Управы; адтуль яго раскрадвалі. У гэтым архіве ёсьць справы ад 1802 да 1917 г. г. Усяго спраў у ім, згодна сьпісу зложанаму ў 1925 г., значыцца 10.815 адзінак. У гэтым архіве ёсьць шмат каштоўных матар'ялаў па топографіі гораду, гарадзкіх будовах, парадку і інш.

*Архівы аддзяленьня Дваранскага і Сялянскага Пазямельных Банкаў* знаходзяцца ў Малахоўскай вежы. Агульны лік спраў невядомы, бо яны не разабраныя. Частка спраў, згодна пастановы Разборачнае Камісіі, якая была зацьверджана Паверачнай Камісіяй Цэнтральнага Архіву, зьнішчана. Сьпісаў няма.

*Архіўны фонд Губэрскага Акцызнага Ўпраўленьня* складаецца прыблізна з 3.000 спраў, за 1853—1917 г. г. Ёсьць частка архіўных сьпісаў.

*Фонд Смаленска-Віцебскага Ўпраўленьня Земляробства і дзяржаўных маёмасьцяй* зьмяшчае ў сабе прыблізна 100 тысяч спраў. Крайнія даты невядомы, бо фонд гэты адышоў пад загад бюро нядаўна і да гэтага часу яшчэ не разабраны.

*Архіўны фонд Смаленскае Павятовае Земскае Ўправы* зьмяшчае ў сабе прыблізна каля 3 тысяч адзінак хаваньня за час ад утварэньня Павятовага Земства да 1917 г. Сьпісаў няма.

Апроч паказаных архіўных фондаў неабходна адзначыць яшчэ наступныя: *Таварыства Ярцаўскае мануфактуры, папяровых вырабаў А. Хлудава і Смаленскае канторы кампаніі Зінгер.* Першы фонд складаецца з бухгальтарскіх кніг, разрахункавых кніг з рабочымі і іншых архіўных матар'ялаў за час 1905—1917 г. і мае бязумоўна вялікае гістарычнае значэньне ў справе вывучэньня вытворчасьці і экономічнага палажэньня рабочых на буйнейшай фабрыцы ў Смаленскай губэрні. Другі-ж фонд складаецца з перапіскі, бухгальтарскіх кніг канторы ад самога ўзьнікнавеньня яе ў Смаленску да 1917 году. Як першы, так і другі фонд маюць сьпісы.

У 1925 годзе з былога гораду Краснага ў Смаленск былі вывезены такія архівы: казначэйства, Сірочага Суду за 1824—92 г. г., маршалка дваранства, Гарадзкой Управы, мяшчанскага старасты за 1874—88 г., гарадзкой ратушы за 1833—71 гады і Зямляўпарадкавальнае Камісіі. Апроч таго, у паказаным годзе былі здадзены справы Аршанскае Зямляўпарадкавальнае Камісіі за розныя гады.

Архіў *Губэрскага Дваранскага Дэпутацкага Збору* трохі быў папсаваны пры заняцьці будынку ўстаноў: з кніг былі павырываны лісты, уся юфць, саф'ян і шагрэнь з апраў былі адцятыя, некаторыя зьвязкі разьбітыя. Большая частка гэтага фонду была перавезена ў Губэрскі архіў, дзе была разабрана і тады быў зложаны сьпіс. Апроч таго ёсьць справы Смаленскага павятовага маршалка дваранства. Колькі іх там—невядома дзеля таго, што яны не разабраныя.

*Архіўны фонд Духоўнае Консысторыі* зьмяшчаецца ў мураваным будынку з 10 пакояў. Архіў гэты адзін з найста-

рэйшых і найбагацейшых у Смаленску і па колькасьці, і па якасьці. У ім ёсьць справы з 1723 году. Але спраў з гэтай старою датай захавалася ня так многа, бо пажар у канцы 20 гадоў XVIII сталецьця зьнішчыў амаль ня ўвесь тагочасны архіў. Да спраў ёсьць архіўныя сьпісы ў ліку 35 кніг і 12 сшыткаў. У рэволюцыйныя часы гэты фонд крыху пацярпеў ад зламысьнікаў. Апроч таго, тут хаваецца архіў Епархіяльнага Школьнага Савету. Колькі спраў—невядома. З архіўных фондаў вучэбных установ, сабраных у Губэрскае Архіўнае Бюро, неабходна адзначыць наступныя: Смаленскага аддзяленьня Маскоўскага Археолёгічнага Інстытуту, Настаўніцкага Інстытуту за час з 1912—17 г. г., Аляксандраўскага Рэальнага Вучылішча, Духоўнага Вучылішча, Мужчынскае Аляксандраўскае Гімназіі, Духоўнае Сэмінарыі, Грамадзянскае Гімназіі Яўневіч і Гандлярскае школы Смаленскага Купецкага Таварыства. Архіўныя фонды гэтых вучэбных установ складаюцца з протоколаў пасяджэньня Пэдагогічнае Рады, паслужбовых сьпісаў настаўнікаў, сьпісаў вучняў і ўсякай іншай перапіскі. Сьпісы ёсьць.

Спраў Дырэкцыі народных вучылішч захавалася нямнога, большая частка іх загінула.

Вялікае навуковае значэньне мае *архіўны фонд Смаленскае Навуковае Архіўнае Камісіі,* які зьмяшчае ў сабе протоколы камісіі за часы з 1908—18 г., справаздачы, даклады сяброў Камісіі і іншую перапіску. Справы ўпарадкаваны і маюць сьпісы.

Апроч паказаных фондаў у беспасрэдным веданьні Бюро знаходзяцца яшчэ наступныя фамільныя архівы: Рачынскіх, які складаецца з крэпасных актаў, сямейнае перапіскі XIX сталецьця, Барышнікавых—з межавых кніг, справаздач па дварох, перапіскі за часы ад канца XVIII і XIX ст. Гэта адзін з вялікіх дваровых архіваў, які захаваўся да гэтага часу цалком. Частка архіўнага матар'ялу экономічнага характару хаваецца ў Аляксінскім музэі дваровага быту. Гэты фонд мае сьпіс. Архіў князя Урусава складаецца з межавых кніг, справаздач па дварох, за часы з 1820—70 г. Архіўныя фонды В. І. Лутковскага, Сухоціных (XIX сталецьця), Клетновых, Аршанеўскіх, Ельчанінавых, князёў Друцкіх-Сакалінскіх, гр. Паніных, кн. Валконскіх, публіцыстага С. Ф. Шарапава (за часы з 1880—1912 г. г.), Волкавай-Гэйдэн, І. О. Грасімава (былога тав. міністра народнае асьветы) з перапіскі сямейнай і афіцыяльнай, кн. Абаленскіх з сямейнай перапіскі, за часы з 1906—1917 г. і Пенскіх, за 1880—1914 г. Пералічаныя фонды зьмяшчаюць у сабе шмат матар'ялу, які малюе быт паноў.

Спаміж захаваўшыхся ваенных архіваў неабходна адзначыць наступныя: 4-га пяхотнага Капорскага палка, Павя-

товага вайсковага начальніка, упраўленьня мясцовае брыгады, Штабу Менскае вайсковае акругі і Менскага вайсковага прокурора. Архіўны фонд Капорскага палка складаецца з друкаваных выданьняў, як напрыклад: цыркуляраў Галоўнага Штабу і іншых, а таксама спраў, лік якіх невядомы дзеля таго, што яны не разабраныя. Фонды павятовага вайсковага начальніка і ўпраўленьня мясцовае брыгады знаходзяцца ў Кастырэўскай вежы ў хаотычным відзе, і дагэтуль не ўдалося прывесьці іх да належнага парадку. Колькасьць спраў і даты іхнія—невядомыя. Тут-жа хаваецца ў гэткім-жа відзе архіў павятовае па вайсковай павіннасьці канцэлярыі. Два апошнія фонды разабраны і на іх зложаны сьпісы, прычым спраў штабу акругі захавалася мала, большая-ж частка іх была вывезена ў Маскву. Архіўны фонд Расійскага Таварыства Чырвонага Крыжу зьмяшчае ў сабе справы, якія малююць дзейнасьць яго ў Смаленскай губэрні за часы з 1914—1918 г. г. Сьпіс ёсьць.

Апроч таго, у распараджэньні Бюро знаходзяцца 3 архіўныя фонды валасных праўленьняў і судоў: Вярхоўскага, за часы з 1810—90 г. г., Карахоткінскага і Уладзімерскага. Першы з памянёных фондаў зьмяшчае ў сабе перапіску, якая адносіцца да францускай вайны. Усе фонды разабраныя і маюць сьпісы.

Усе архіўныя фонды, якія асяродкаваны ў губэрскіх архіўных сховах, падзелены на 4 сэкцыі: політыкі і права, народнае гаспадаркі, культуры і быту і вайскова-марская.

### II. Архіўныя фонды, якія ўзяты на падлік Бюро.

На падлік Бюро па гор. Смаленску з перадрэволюцыйных архіўных фондаў узяты наступныя: архіў Казённае Палаты, які зьмяшчаецца ў асобным будынку, спэцыяльна прыстасаваным да архіву. Архіўны матар'ял адбівае дзейнасьць Палаты ад 1829 г. да 1917 г., але ёсьць рукапісы і XVIII сталецьця: 3 рэвізкія сказкі—адна 1782 г. і дзьве 1795 г. У архіве хаваецца каля 1 мільёну спраў. Ёсьць сьпіс. Гэта адзін з каштоўных архіваў, які зьмяшчае ў сабе шмат гістарычных зьвестак па экономіцы Смаленскае губэрні. Апроч таго, у гэтым архіве зьмешчаны яшчэ наступныя фонды: аддзяленьня Дзяржаўнага Банку з 1872—1917 г. г., бяз сьпісаў, аддзяленьні Злучанага Банку, з 1909—18 г.г., у ліку 43 адзінак, аддзяленьня Маскоўскага Банку, з 1910—18 г.г., у 108 адзінак, Купецкага Банку, з 1912—18 г., у 19 адзінак, Банкірскае Канторы Н. В. Шварца ў Смаленску, з 1915—18 г. г., у 7 адзінак, і Банкірскае Канторы Я. М. Зялікіна, з 1912—18 г.г., у 13 адзінак. Усе пералічаныя фонды знаходзяцца ў парадку і маюць сьпісы.

Архіўныя фонды: упраўленьня паштова-тэлеграфнае акругі, гарадзкога паштова-тэлеграфнага аддзяленьня і паштова-тэлеграфнае канторы знаходзяцца пры ўстановах сувязі, прычым першы фонд зьмяшчае ў сабе справы за часы ўтварэньня акругі, ў парадку, са сьпісамі, другі—7.534 справы і 552 кнігі і трэці—122 справы і 131 кнігу за часы з 1913—1917 г. г. Бязумоўна, вялікае значэньне для вывучэньня гісторыі коопэрацыйнага руху ў Смаленскай губэрні маюць два фонды, якія стаяць на падліку: Смаленскага Райсаюзу коопэратываў і Смаленскага Саюзу крэдытовых і пазычна-ашчадных таварystваў. У першым з памянёных фондаў зьмяшчаюцца справы з 1915-1918 г. г., у парадку, ёсьць сьпісы, у другім—ад дня ўтварэньня да 1918 г. Архіў гэты ў цяперашні час прыводзіцца ў парадак і падрыхтоўваецца да здачы ў губэрскі архіў.

Апроч паказаных фондаў на падліку Бюро знаходзяцца межавыя архівы, якія маюць, апроч практычнага, вялікае гістарычнае значэньне. У іх зьмяшчаецца досыць многа матар'ялаў па экономіцы і архэолёгіі мясцовага краю. Межавыя архівы ёсьць у кожным павятовым горадзе і складаюцца з плянаў генэральнага спэцыяльнага межаваньня (1779 г.), банкаўскіх, Сталыпінскага зямляўпарадкаваньня і інш.

## Résumé.

L'Institut de la Culture Blanche-Ruthénienne avait organisé à Minsk le 17 et le 18 Janvier 1926 la première Conférence des investigateurs de l'archéologie et de l'archéographie de la Ruthénie-Blanche.

Les procés-verbaux de cette Conférence avec les mémoires ci-joints sur l'archéographie sont publiés dans l'édition présente. Les communications sur l'archeólogie sont donnés in-extenso dans les protocoles.

La Conférence avait pour but l'éclaircissement de l'effectif de l'archéologie et de l'archéographie Blanche-Ruthéniennes et du plan le plus propre à l'accomplissement des travaux dont l'avait chargée la Commission historique et archéologique de l'Institut de la Culture Blanche-Ruthénienne (inaugurée au mois d'Octobre 1925).

Quant à l'archéographie la Conférence avait fait ce qui suit:

Dans son mémoire (publié dans la partie principale dans le supplément № 1) professeur M. V. Dovnar-Zapolsky avait fait l'énumération des fonds des archives anciennes qui se trouvent au-delà des frontières de la RSS de la Ruthénie-Blanche dans les villes: Leningrad, Moscou, Vilna, Varsovie, Cracovie ect.

Un autre mémoire au sujet des archives de la Ruthénie-Blanche et de la Lithuanie connues sous le nom de la „Métrique Lithuanienne" a été fait par le docent de l'Université de la Ruthénie-Blanche D. I. Dovgiallo (publié dans le supplément № 2).

Quant à la question des fonds des archives Blanche-Ruthéniennes la Conférence avait fait la résolution suivante:

1) Porter à la connaissance du gouvernement de la RSS de la Ruthénie-Blanche qu'il est indispensable de conserver la Métrique Lithuanienne dans les limites de l' Union RSS comme étant la propriété historique du prolétariat de la Ruthénie-Blanche.

2) Vu que l'étude et le défrichement des données du passé historique de la Ruthénie-Blanche sont absolument impossibles sans l'usage permanent et direct de la Métrique Lithuanienne qui représente une source exceptionnellement importante sous le rapport du contenu et de la richesse des faits historiques,—la Conférence avait jugé bon de transférer dans le plus bref délai les fonds des archives de la Metrique Lithuanienne en Ruthénie-Blanche avec le consentement des institutions compétentes de la RSS de la Russie.

3) En même temps la Conférence considère que:

a) afin de rendre la Mètrique Lithuanienne accessible et au public et en faire son meilleur emploi scientifique, elle trouve absolument nécessaire la publication de la Métrique Lithuanienne, et

b) qu'un décret spécial émanant du gouvernement de la RSS de la Ruthénie-Blanche la proclamât comme un objet d'une grande valeur scientifique ayant une importance toute particulière pour la culture de l'État.

4) En outre la Conférence avait constaté que dans la littérature Lithuanienne on ne trouverait pas un monument aussi remarquable de la pensée blanche-ruthénienne que celui du Statut Lithuanien et que, par conséquent

elle prie l'Institut de la Culture Blanche-Ruthénienne de lui procurer les moyens nécessaires pour sa publication.

5. Quant à la question concernant les autres fonds d'archives de la Ruthénie-Blanche se trouvant au-delà de ses frontières la Conférence avait exprimé le désir que le Gouvernement de la RSS de la Ruthénie-Blanche soulevât la question de faire réintégrer les vieux fonds d'archives Blanche-Ruthéniens de la RSS de la Russie et de la Pologne.

Ensuite la Conférence avait pris connaissance des archives ayant une valeur scientifique et qui se trouvent sur le territoire de la Ruthénie-Blanche grâce aux communications des archivistes M. Melechka (supplément № 3), Iasséneff (supplément № 4) et Dmitrijeff (supplément № 5).

Quant à l'archéologie la Conférence avait examiné et jugé les mémoires:

1) Du docent de l'Université de Smolensk Liavdansky sur les villages primitifs de la Ruthénie-Blanche qu'il avait explorés personnellement;

2) du membre de l'Institut de la Culture Blanche-Ruthénienne (Inbelkult) Serboff sur ses recherches dans les alentours de N. Bykhoff et le long du courant d'Oukhliast;

3) De A. Spitzine, professeur de l'archéologie de l'Université de Leningrad avec son appréciation de tous les nouveaux travaux dans le domaine de l'archéologie Blanche-Ruthénienne mentionnés ci-dessus; le professeur Spitzine avait donné un aperçu général de la situation des recherches archéologiques sur le territoire de la Ruthénie-Blanche jusqu'au moment présent et le plan des recherches pour l'avenir.

La Conférence avait éclairci d'après les communications des directeurs des museés de la Ruthénie-Blanche P. Charlampovitch et J. Wassiléwitch la situation des musées historiques et archéologiques de la Ruthénie-Blanche et dans son arrêté avait posé la question au sujet de la restitution des objets archéologiques et des objets d'art qui ont été exportés à diverses époques de la Ruthénie Blanche; en outre elle avait souligné la nécessité d'inaugurer auprès des musées de la Ruthénie-Blanche une section de l'industrie contemporaine.

Enfin la Conférence a émis les voeux de faire réintégrer dans les domaines de la Ruthénie-Blanche les bibliothèques qui en ont été exporteés— a) celle de Chiéptovitch transférée de Chtchorse à Kieff en 1920, b) les bibliothèques du Séminaire Grec Uni de Polotsk transférées à l'Académie des cultes de Kieff, c) la bibliothèque spécialement consacrée aux sujets blanche-ruthéniens qui se trouve au musée Kolodéieff de 1812, maintenant au Musée historique de Moscou.

Les membres qui composaient la Conférence étaient au nombre de 26; on avait entendu et examiné quatorze memoires et communications.

Le Présidium de la Conférence se composait:

1) de A. V. Balitsky, Commissaire de l'Instruction publique,

2) de M. V. Dovnar-Zapolsky, professeur,

3) de V. I. Pitcheta, professeur et Recteur de l'Université de la Ruthénie-Blanche,

4) de A. A. Spitzine, professeur de l'Université de Leningrad,

5) de A. A. Smolitch, vice-président de l'Institut de la Culture Blanche-Ruthénienne,

6) de secrétaire général de l'Institut J. L. Dylo.

# ЗЬМЕСТ.

## Схэма выданьняў Інстытуту Беларускае Культуры.

*(Зацьверджана Навуковай Радай 5 лютага 1926 году).*

### Аддзел I. Мова і літаратура.

Сэрыя I. Мовазнаўства.
„ II. Крытыка і гісторыя літаратуры.
„ III. Этнографія.
„ IV. Народная творчасьць.
„ V. Навуковая тэрмінолёгія.
„ VI. Слоўнікі.

### Аддзел II. Гісторыя і соцыолёгія.

Сэрыя I. Гісторыя і архэолёгія Беларусі.
„ II. Гісторыя рэволюцыйнага руху на Беларусі.
„ III. Гісторыя Беларускага мастацтва.

### Аддзел III. Прырода і гаспадарка.

Сэрыя I. Матэматыка, фізыка і хімія.
„ II. Геолёгія, глебазнаўства і географія.
„ III. Ботаніка і зоолёгія.
„ IV. Сельская гаспадарка.
„ V. Прамысловасьць, гандаль і комунальная гаспадарка.

### Аддзел IV. Антрополёгія і мэдыцына.

Сэрыя I. Антрополёгія.
„ II. Пэдагогіка.
„ III. Навуковая організацыя працы.
„ IV. Мэдыцына.

### Аддзел V. Паасобныя выданьні.

Сэрыя I. Часопіс „Наш Край“.
„ II. Акадэмічная бібліотэка беларускіх пісьменьнікаў.
„ III. Бібліотэка сцэнічных і музычных твораў.
„ IV. Матар'ялы да беларускае бібліографіі.
„ V. Даведачныя матар'ялы і іншае.

